

АПОВЕСЦЬ
ПРА ДРУЖБУ,
ВЫПРАБАВАНУЮ
Ў АГНІ

ВЕРШЫ Ў ПРОЗЕ
ТУРГЕНЕВА

АПОВЕСЦЬ ПРА
АБАРОНУ СЛУЧАСКА

ПОШУКІ
МАЛАДЫХ
ДОЙЛІДАЎ

САЛІГОРСКІЯ
АБРАЗКІ

СЦЕЖКАМІ,
ЯКІМІ ХАДЗІЎ
БАГДАНОВІЧ

НАДЗЁННЫЯ
ПРАБЛЕМЫ
МОВАЗНАЎСТВА

ЯК ЖЫВЕ
МОЛАДЗЬ АМЕРЫКІ


11

ЛІСТАПАД

МІНСК, 1968

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС*



**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва «Звязда»**

Вокладка **Г. Скамарохава.**

Шмуцтытулы **В. Шаранговіча** (стар. 3) і **В. Сухадольскага** (стар. 95).



# ПАЭЗІЯ ПРОЗА

● АНАТОЛЬ СЕРБАНТОВІЧ ● КЛАРА ПІШЧЫКАВА ● СЦЯПАН ГАЎРУСЁЎ ● ТОДАР КУЛЕША ● ЯЎГЕН КРУПЕНЬКА ● ВАЛЯНЦІН ЛУКША ● АЛЯКСАНДРА УС ● АЛЕСЬ МАСАРЭНКА ● ЛЕАНІД ЯЎМЕНАЎ ● УЛАДЗІМІР ШЫЦІК ● ІВАН ТУРГЕНЕЎ

ПАЭЗІЯ



## • Новы свет

**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ**



•

Закіпае на плошчах,
Як кацёл,
            Петраград.
Засядае апошні
Нерабочы урад.

Высылае дазоры
Перакулены трон,
Як вінтоўка затворам
Дасылае патрон.

Ды не ведае вораг,
Што ўжо сіл не збярэ,
Што спрасаваны порах
Ад крыві адсырэў.

А куды ні зірні ты —
З паркаў,
Вуліц,
Прысад,
Нібы шнур дынамітны,—
За атрадам атрад.

Гнілаватым арэхам
Трэсне ён —
            цёмны свет —
І пакоціцца рэха
Да нязнаных планет.



ПРОЗА



● Клара ПІШЧЫКАВА

● Мал. І. ДАВІДОВІЧА

# АДРАДЖЭННЕ

АПОВЕСЦЬ

Была апошняя ваенная вясна, калі з вайны дадому вярнуўся дэмабілізаваны ў чыне падпалкоўніка Барыс Рагоўскі. Дома, праўда, не было. Ад чатырохпавярховага каменнага прыгажуна засталіся тры сцяны ды рэшткі перакрыццяў. Рагоўскі доўга хадзіў па папялішчы. Быццам нейкі злаславы волат вялізным секачом рассек гэтыя чатыры паверхі. На апошнім — цудам трымаўся ля сцяны дзіцячы ложак. Ці не Жэнькаў? Не. Кватэра з паўночнага боку.

Пад нагамі мякка зашуршэла. Глянуў — і здзівіўся: трава, кветкі жоўтыя... Такія кветкі любіла Тоня. Як яны выраслі тут?

Падзьмуў вецер, і адразу загайдалася, жудасна застагнала бэлька: у-у-у. «Трэба ісці»,— але штосьці не давала крануцца з месца. Ён доўга глядзеў на канец лесвіцы, што звісаў над галавой. Усяго некалькі прыступак, а быццам бачыць яе ўсю. Тады тут пахла фарбай і сонечныя прамені клаліся на шырокія пліты лесвічных маршаў.

Гэта быў першы дом, які будаваў Рагоўскі, тады яшчэ малады інжынер. То здавалася, што дрэнна робяць кладку, і ён паказваў, як трэба рабіць, то падстаўляў плячо пад цяжкую бэльку. Хацеў, каб кожны камень лёг трывала — назаўсёды.



У той вечар, калі дом засяляўся, Рагоўскі адчуваў нейкі неспакой. Раптам захацелася паглядзець на асветленыя вокны. А што, калі спытаць у жыхароў, ці ўсё тут добра зроблена, ці ўтульна будзе людзям жыць у гэтым доме. Ён абышоў усе паверхі, а потым нерашуча пастукаўся ў апошнюю кватэру. Дзверы адчыніла дзяўчына з вялікімі здзіўленымі вачамі. Чамусьці ён разгубіўся, не ведаў, як растлумачыць, чаго прыйшоў. Некалькі хвілін яны маўчалі. Потым дзяўчына не вытрымала, рассмяялася. Ды гэтак звонка, што адчыніліся дзверы пакоя і старэчы голас спытаў:

— Тоня, хто прыйшоў?

— Сама не ведаю, бабуля.

Ён не пакрыўдзіўся, таксама ўсміхнуўся. І калі яна запрасіла: «Ой, чаго мы тут стаім, праходзьце»,— ён нарэшце растлумачыў:

— Маё прозвішча Рагоўскі, Барыс Рагоўскі. Я інжынер. Будаваў гэты дом. І вось хацеў спытаць... Ці ўсё, як трэба, зроблена? Ці добра вы тут, на новым месцы, сябе адчуваеце?

Яна адразу пасур'ёзнела:

— Гэта добрая работа — будаваць дамы...

А потым на гэтай лесвіцы яны з Тоняй вучылі хадзіць маленькага Жэньку.

— Не бойся! Вось так, як тата! Абедзве ножкі сюды...

— Дзядзечка, вы адкуль?

Ён схамянуўся. Хлапчукі... Адкуль тут, на папялішчы, дзеці? Змарнелыя тварыкі. Чаму ў іх так блішчаць вочы? Галодныя?

— Адкуль вы, хлопчыкі?

— Вунь наша хата,— адказаў старэйшы проста і паказаў у кут двара.

Хата, нейкая дзіўная прыбудова да дзвюх сцен былога цаглянага будынка — з фанеры, дошак, жалеза. Жаночы голас сярдзіта і стомлена паклікаў:

— Воўка, Генка! Вось я вам пакажу!

Хлапчукі, відаць, прывыклі да пагроз і зусім спакойна сказалі, перапыняючы адзін аднаго:

— Мамка, а тут нейкі дзядзька, ваенны...

Падышла старая ў занадта шырокай сукенцы. Паглядзела проста ў вочы, спытала сумна:

— Не пазнаяце мяне, Барыс Раманавіч?

Ён пільна ўгледзеўся: твар, пасечаны зморшчынкамі. Здаецца, раней ніколі не бачыў.

— Я ж Кацярына, ваша суседка.

Ён добра памятаў Кацярыну, ружовашчокую высокую жанчыну, якую суседзі з усмешкай звалі «Паўтара Івана».

— Усё вайна,— Кацярына выцерла канцом хусткі вочы.— Калі жывы і прыйдзе мой Мацвей Антонавіч, мусіць, як і вы, не пазнае. Тут да Сямёнавай муж прыехаў, капітан. А яна ўся сівая ды ногі апухлыя. Дык, ведаеце, на другі ж дзень кінуў. Не трэба стала. А колькі гора яна тут з дзецьмі пабачыла! Да немцаў не хацела ісці працаваць. Ледзь з голаду не памерла. А яму... Не трэба!

— Я сваіх шукаю. Можа, вы ведаеце?

Кацярына маўчала. Быццам і не пачула. Толькі зноў пацягнула ражок хусткі і прыклала да вачэй.

— Тоню... Забралі ў гестапа... Казалі, за сувязь з партызанамі. А Жэня жывы. Яго Даша выратавала. Цяпер Жэнька заве яе мамай. Ой, вам нядобра? Генка, прынясі хутчэй вады!

— Не, нічога. А Даша тут?

— Яна з Жэнькам у партызаны падалася. Тут усе ведалі пра хлопчыка, маглі падказаць немцам. Людзі ж розныя. А цяпер, казалі, яна жыве ў сваёй маці. Вы ж, пэўна, ведаеце, дзе...

Быццам здалёк даходзілі да яго Кацярыніны словы:

— Тоня пайшла працаваць ва ўправу. За гэта ўвесь дом ненавідзеў яе. Асабліва Сямёніха дапякала. Ды і я на Тонін «добры дзень» не адказвала. Нават у яе бок не глядзела. Цяпер як успомню, дык плачу...

Тоню любіў, як толькі мог любіць. Ні ў чым перад ёй не вінаваты... Тады, калі яна была побач, думаў, што ведае пра яе ўсё. Цяпер здзіўся: дзе яна ўзяла сілы змагацца? Тоненькая, слабенькая. Ён лічыў яе бездапаможнай.

Але, калі ўспомніць, з характарам была. Заўсёды нешта яе хвалявала: то трэба памагчы адзінокай маці, то некаму кватэру не даюць... Яму здавалася ўсё гэта далёкім ад яе службовых абавязкаў па рэдакцыі. Ён неяк спытаў: «Ты хто — журналістка ці адвакат?» Яна ўсміхнулася: «Чаго ты злуеш? Мне б сапраўды такую работу. Я адвакат, і да мяне прыходзяць людзі, пакрыўджаныя жыццём ці людзьмі. Як ты думаеш, я магла б іх абараніць?» Ён пацвердзіў: «Пэўна ж, магла б!» Яна пакрыўдзілася: «Сур'ёзна з табой ніколі не пагаворыш!»

Памяць падказвала розныя выпадкі. Ён нават чуў інтанацыі яе голасу:

— Жэнік, калі хочаш пачаставаць Славіка, трэба яму даць большую цукерку. Хто дае меншую, той дрэнны...

Ён падняўся, развітаўся з Кацярынай:

— Бывайце здаровы!

І, быццам п'яны, няцвёрда пакрочыў з двара. Нешта стукала ў скронях. «Што цяпер рабіць?» Мільганула думка: трэба знайсці Каваля. Ён, напэўна, ведае, дзе цяпер Жэня з Дашай. Ці пазнае мяне Жэнька? Дашу заве маткай. Раптам балюча апякло сэрца: што, калі не пазнае, што, калі не захоча пайсці ад Дашы?

Сцяпана Каваля і сястру яго Дашу Рагоўскі ведаў са студэнцкіх год. Ён вучыўся на будаўнічым аддзяленні, а яны на архітэктурным. Рагоўскі часта бываў у Сцяпана. Той здымаў маленькі пакойчык. Ён бы тады і сам сабе не прызнаўся, што ідзе да Каваля, каб пабачыць Дашу. Нешта на трэцім курсе за Дашай пачаў хадзіць цыбаты геолаг. І Рагоўскі здалёк пазнаваў іх — па шчаслівым Дашыным смеху. Гэты смех, нібы птушка, далятаў да Барыса, мучыў. «І што яна ў ім знайшла,— дзівіўся сам сабе Рагоўскі.— Малады, а галава ўся сівая, толькі бровы чорныя. І занятак: шукае ветру ў полі. Кажа, у Беларусі павінна быць нафта. А можа, і сапраўды знойдзе, Дашу ж вось знайшоў».

Сцяпан неяк між іншым паведаміў: «Пэўна, геолаг гэты з Дашай ажэніцца». Паглядзеў на Рагоўскага і, відаць, здагадаўся... Потым пры сустрэчах сумна ўсміхаўся.

Перад самай вайной Рагоўскі будаваў па Дашыным праекце. І тады нечакана для Рагоўскага Даша пасябравала з Тоняй, жонкай...

Рагоўскі адшукаў напалову разбураны будынак, дзе размясцілася архітэктурная майстэрня.

— Праходзьце, праходзьце! Наш галоўны штаб па аднаўленню горада.— Чалавек, які сустрэў Рагоўскага, быў знаёмы. Але Барыс ніяк не мог успомніць яго імя.

Каваля ў «штабе» не аказалася.

— З гадзіну назад пайшоў. Вы яго дома знойдзеце,— падказалі Рагоўскаму.

Маладзенькая жанчына, жонка Каваля, уздыхнула:

— Я сама яго два дні не бачыла. Прападае на рабоце.

Каваля спаткаў выпадкова. Ён сядзеў на беразе ракі і штосьці маляваў. Рагоўскі падышоў зусім блізка, але Каваль яго не заўважаў.

— Добры дзень, Сцёпа!

Каваль падняў ускудлачаную галаву, прыжмурыў пачырванелыя вочы:

— Далібог, толькі зараз пра цябе думаў.

— Упэўнен, што ты ўвесь час толькі пра мяне і думаеш. Але што ты тут робіш?

— Адпачываю.

— А гэта што?

Сцяпан усміхнуўся:

— Гэта мая мара.

Рагоўскі зазірнуў у сшытак. Замалёўкі прыроды, і побач эскізы прыгожых шматпавярховых будынкаў.

— Знайшоў час марыць.

— І чаго ты злуешся? Раніцай цябе бачылі на вакзале. Вось я сяджу і думаю: будзем разам працаваць. Бачыў майстэрню? На ўвесь горад пяць архітэктараў і два інжынеры. Здаем незакончаныя праекты. Ідуць любыя прапановы. А што рабіць? Я, напрыклад, раблю інжынерныя работы, аб якіх раней не меў нават уяўлення.

Рагоўскі перапыніў яго:

— На мяне не разлічвай!

— Як гэта — не разлічвай! Цяпер кожны чалавек, што золата.

— Быў чалавек — і няма. Вось, як гэта,— Рагоўскі штурхнуў нагой каменьчык.— Калісьці гэта была цагліна, якая ляжала ў сцяне... А цяпер — абломак... Мне трэба быць далей ад гэтых папялішчаў... Знайду Жэньку і паеду. Я прыйшоў да цябе, каб узяць Дашын адрас. А ты робіш выгляд, быццам не ведаеш нічога!

Сцяпан маўчаў. Ён сапраўды «рабіў выгляд», бо не ведаў, як суцешыць сябра.

— Пойдзем да мяне. Галка цябе чым-небудзь пакорміць, а потым пагаворым. Запрашаю, хоть ты і няголены. А жонка гэтага не любіць.— Ён усміхнуўся сваёй зухаватай, яшчэ хлапечай усмешкай. Спытаў: — Ты яе бачыў?

— Бачыў. Прыгожая. Яна цябе хутка кіне.

Сцяпан уважліва паглядзеў:

— Як ты здагадаўся? Сапраўды, хоча кінуць. Кажа: з блакады жывая засталася, дык тут на тваіх папялішчах загіну. Збіраецца да бацькоў.

— А ты што? — каб нешта сказаць, пацікавіўся Рагоўскі.

— Я кажу: «Дай час, мы тут праспект адбудуем, не горшы за твой Неўскі».

Каваль спыніўся, памацаў скроні:

— От, зусім забыўся. У мяне яшчэ ёсць справа. Разумееш, тут адзін пісьменнік патрабуе кватэру. Хворы, чакае з дня на дзень. А мне трэба сказаць, што зможам даць не раней, як праз два тыдні. Дык, можа, і ты пойдзеш са мной.

Рагоўскі згадзіўся:

— Пойдзем.

...Сцяпан ветліва прывітаўся:

— Добры дзень у хату!

Чалавек, які паліў у печы, адказаў стрымана:

— Добры дзень. Толькі, як бачыце, хаты няма — кут.

У пакоі былі яшчэ нейкія людзі. Каваль нясмела пачаў:

— Знайшлі вам добры пакой. Толькі рамонт патрэбен. Тыдні праз два і наваселле гуляць можна.

Дровы разгарэліся, і гаспадар адышоў ад печы. Рагоўскі ўбачыў жоўты хваравіты твар. Пісьменнік сказаў быццам сам сабе:

— Замест таго, каб рабіць тое, што мне трэба рабіць, палю ў печы, здабываю дровы. Няма дзе і прыткнуцца з пяром. Яшчэ два тыдні, кажаце? Баюся, што не вытрываю. Божа, напішы за мяне мае раманы! Хіба так маліцца, ці што?

Рагоўскі ўспомніў, што да вайны чытаў кнігі гэтага пісьменніка. Было там многа глыбокіх думак. І цяпер адчай гэтага хворага, бяздомнага чалавека крануў яго.

Калі выйшлі, Рагоўскі спытаў:

— Сцёпа, няўжо нельга было што-небудзь зрабіць?

Каваль раптам раззлаваўся:

— Людзей шкадуеш? А хочаш, каб добры дзядзька ўсё для іх зрабіў! Калі шкадуеш, дык бярыся за работу, а не ўцякай.

— Чаго ты крычыш? Думаеш, не разумею, чаго ты мяне сюды прыцягнуў? Вось забяру Жэньку і пачну працаваць.

Даша адарвалася ад ватмана, падышла да акна. Пастаяла, усміхнулася: вясна. Потым увішна пачала адрываць паперу, якой на зіму заклейвалі акно. Рама набрыняла вільгаццю і не адчынялася. А калі расчынілася і духмянае паветра разам з сонейкам уварвалася ў маленькі пакой, Даша зажмурыла вочы: «Ой, мама, як хораша!»

Маці ўзяла шклянку з пралескамі, паставіла на акно. Гэтыя пралескі прынёс Леў Пятровіч, Дашын начальнік. Яна падзякавала неяк абыякава, ціха, і маці бачыла, як збегла ўсмешка з яго твару. «Харошы чалавек, і намеры ў яго сур'ёзныя. Жэнька да яго прывязаўся. Усё праз Паўла. Гаворыць пра яго, нібы ён жывы: «Павел бы так не

зрабіў...» «Паўлу б гэта не спадабалася...» «Ведаеш, мама, дзе Павел шукаў, там сапраўды соль знайшлі... »Вось і гавары з ёй».

— Вясна,— сказала Антаніна Іванаўна. — Вясна,— не адрываючыся ад вялікага аркуша ватмана, пацвердзіла Даша. Яна па-свойму зразумела матчын клопат.

— Не хвалюйся, мама. У нядзелю гародчык ускапаю, паркан адрамантую. Можа, Сцёпа прыедзе, паможа.

— Чакай, прыедзе! Ён цяпер ад сваёй жонкі адысці баіцца!

Маці яшчэ нешта гаворыць пра Сцяпана, але Даша разумее, што злуецца яна не на яго.

Антаніна Іванаўна пайшла ў кухню. Даша пачула адтуль цяжкі ўздых. Нявесела Антаніне Іванаўне, вясна не радуе: «Няўжо і дачцы суджаны на ўсё жыццё мой удовін лёс?» Вярнулася ў пакой, спытала сярдзіта;

— Што, у вас і ў нядзелю працаваць прымушаюць?

Даша паглядзела на маці. І тая ўжо лагадней сказала:

— Такі дзень, пайшла б пагуляла.

— Ну што ты, мама, я ж не дзяўчына.

— Волечка таксама не дзяўчына, а шчасце сваё знайшла.

Даша адчула ў голасе маці дрэнна схаваную зайздрасць і ўсміхнулася:

— Волечка ж прыгажуня.

— І ты ў мяне прыгожая. Вунь як Леў Пятровіч на цябе глядзіць.

— Не трэба, мама,— ціха папрасіла Даша.

Антаніна Іванаўна пакрыўджана змоўкла, але ненадоўга. Ёй трэба сказаць усё, што мела.

— Бачыла неяк Волечку з мужам. Вясёлая. Усё нешта яму гаворыць.

— Вясёлая,— усміхнулася Даша.— І я бачыла. Так калісьці яны з Міколам ішлі.

— А што, калі Міколы няма, дык ёй і смяяцца нельга?

— Я так не кажу,— Даша паправіла пасмачку валасоў над ілбом.

Антаніна Іванаўна моўчкі пазірала, як дачка асцярожна загарнула ватман у газету, апранула старэнькае паліто.

— Пайду ў майстэрню. Ты, мама, пакліч Жэньку ў хату. Не застудзіўся б.

«Адзіная ў яе ўцеха — Жэнька... Пра Волечку слухаць не хоча, а гэта ж таксама не першае каханне. Волечка ішла замуж у той жа год, што і Даша. І амаль разам атрымалі пахавальныя... Разумная жанчына. Змагла зноў уладкаваць сваё жыццё. І маці яе не нахваліцца новым зяцем. Футра, кажа, Вользе купіў».

Праз акно маці бачыла, як Даша нахілілася над Жэнькам, паправіла каўнерык. А потым глядзела, як прайшла Даша іх маленькі дворык, перасекла вуліцу. Ідзе цвёрдай, амаль мужчынскай хадою. Мусіць, так і павінна ісці жанчына, калі няма нікога побач. Няўжо ёй у дваццаць сем год не хочацца ўжо шчасця? А Леў Пятровіч такі ветлівы, харошы. Я яму пра Волечку: маўляў, Дашына сяброўка ў другі раз замуж пайшла і шчаслівая. А ён не зразумеў, ці што? Кажа: «Ёсць жанчыны, якія кахаюць адзін раз».

«Нешта холадна робіцца,— Антаніна Іванаўна ўзяла падушку, заклала акно, дзе было разбіта шкло, запаліла газоўку-гільзу.— Жэнька загуляўся, трэба пайсці паклікаць».

Толькі распранула Жэньку, пачала збіраць вячэру, як нехта пастукаўся ў дзверы. Спытала:

— Хто там? Уваходзьце.

Увайшоў мужчына. Нейк дзіўна паглядзеў на Жэньку — доўгім, неадрыўным позіркам. І нарэшце сказаў:

— Мне казалі, што вы возьмеце кватаранта.

— Не, сынок. Пакойчык у нас маленькі.

— Гэта, мусіць, унучак?— спытаўся чалавек і пагладзіў хлопчыка па галаве.

— Так, унучак. Ды дачка. Утраіх жывём. Так што, прабачце. У суседзяў спытайцеся. Яны, можа, і возьмуць.

Рагоўскаму трэба было пайсці, але нейкі цяжар прыгінаў, не даваў зрабіць крок. «Які ты стаў вялікі, сынок! Круглатвары, як маці, а вочы — мае...»

Жэнька таксама зацікавіўся незнаёмым, пахваліўся:

— А мой бацька таксама на вайне.

Антаніна Іванаўна накінула цёплую хустку.

— Пайду да суседзяў, спытаюся. У іх жыў кватарант, але з'ехаў.

Калі застаўся адзін на адзін з сынам, раптам перасмягла ў горле. Рука дрыжала, калі ён палажыў яе на кволыя плечукі. Зазірнуў у вочы, спытаў з надзеяй:

— А я падобны на твайго бацьку?

Хлопчык пакруціў галавой:

— Не, ён высокі-высокі, як печ. І дужы. І ў яго ёсць стрэльба.

Мусіць, ён пашкадаваў дзядзьку, бо спытаў ужо лагадней:

— У цябе ж няма стрэльбы?

— Не, няма. Вось што ў мяне ёсць.— Рагоўскі выцягнуў з кішэні цукеркі. Хлопчык нясмела працягнуў руку.

Вярнулася Антаніна Іванаўна.

— Дамовілася. Можаце ісці на кватэру. Ой, навошта вы гэта!

Старая ледзь прыкметна ўсміхалася, гледзячы, як Жэнька смокча цукерку.

На сэрцы зрабілася цяплей: відаць, тут любяць хлопчыка.

Антаніна Іванаўна выйшла праводзіць госця.

— Вам у іх будзе добра.

— Дзякуй. Толькі на кватэру я потым пайду. Калі дазволіце, трохі тут на лавачцы пасяджу.

— Сядзіце — не шкада.

«Нейкі падазроны чалавек»,— Антаніна Іванаўна зачыніла на замок дзверы.

Рагоўскі сядзеў, нахіліўшы галаву, прыслухоўваючыся да крокаў: можа Даша? Ці пазнаю?

На небе расплыўся месяц. Недзе заходзіліся ў спевах птушкі. Стаяў моцны пах нейкіх кветак: ці то чаромхі, ці то бэзу. Колькі Тоня ні вучыла, а ў гэтых кветках так і не разбіраюся.

Гэта ўжо было ў яго жыцці — п'янкі пах веснавых кветак і яшчэ нешта, без чаго гэтыя кветкі не мелі б сэнсу. Тоня... Цяпер Рагоўскаму здавалася, што гэтыя птушыныя спевы, гэты бэз і ўся раскоша веснавой ночы нахіліліся над ім, каб яшчэ вастрэй узрушыць сэрца.

— Ой, хто тут?

— Гэта я, Даша. Добры вечар. Я цябе чакаю.

Яна села побач. Сказала проста:

— Барыс, я ведала, што ты прыедзеш. Жэньку бачыў?

Ён адказаў ціха:

— Дзякуй табе, Даша.

Колькі хвілін яны маўчалі. Нечакана Даша паскардзілася:

— Стамілася я. Працуем удзень і ўначы. І так ва ўсіх беларускіх

гарадах. Можа, толькі Пінску пашанцавала трохі. Усё спалена, усё трэба пачынаць спачатку. Можа, ты да нас, Барыс, пойдзеш? Няма каму працаваць.

— Не, мяне ўжо твой брат завербаваў. Раніцай з Жэнькам назад паедзем.

Яна адказала не адразу:

— Барыс, я не аддам Жэньку, пакуль не ўладкуешся. Няўжо ты не разумееш? Яму тут добра. Ён дагледжаны. Маці мая сама не паесць, а яго пакорміць. А ты...

Ён не стрымаўся:

— Я яго бацька. І цяпер гэта мае турботы.

І адразу пашкадаваў. Твар Дашы збялеў. Густыя, амаль мужчынскія бровы рашуча сышліся разам. Ад гэтага твар зрабіўся мужны, ваяўнічы. Яна штосьці хацела сказаць, але не сказала. Паднялася, кінула, не гледзячы ў вочы:

— Ідзі, Барыс. Заўтра пагаворым...

Тады Жэньку было чатыры гады. Даша пастукала ў дзверы позна ноччу. Тоня адчыніла адразу. Бледная, відаць, і не клалася спаць. Сказала:

— Даша, перадай камандзіру, што я абавязкова выканаю. Толькі патрэбен выпадак. Мне здаецца, за мной сочаць. Я гэта адчуваю...

Жэнька спаў у маленькім ложку. Тоня нахілілася над ім. І было відаць: хвалюецца і хоча схаваць хваляванне.

Даша не вытрымала:

— Вось што, Антаніна! Калі так, пойдзем. Знойдзецца другі чалавек. У цябе дзіця. Табе нельга рызыкаваць!

Тонін твар зрабіўся, як папера. Хвіліну яна думала пра нешта, відаць, вагалася, але сказала цвёрда:

— Не, Даша, я не пайду. Мне загадалі, і я выканаю. Толькі Жэнік.. Даша, вазьмі яго. Я цябе прашу. А я, як толькі зраблю, адразу пайду да Міхася Рыгоравіча. Ён мяне ў атрад праводзіць.

У Тоні дрыжэлі рукі, калі яна збірала ў клуначак сынавы рэчы.

Дашу ў тую ноч чакала свякруха. Больш заставацца ў гета было нельга. І Даша дамовілася з камандзірам, што правядзе старую ў атрад да партызан. Яна ішла асцярожна. Жэнька спаў, даверліва прытуліўшыся да яе грудзей. Ззаду пачуліся крокі, і Даша доўга чакала ў нейкім дворыку, пакуль крокі сціхнуць.

У нізкай — напалову ў зямлі — хаціне цёмна. Даша сваім ключом адамкнула дзверы.

— Ты, дачушка?

— Я, мама.

Нечакана ў хаце стала відна. Ля нізкага акенца спыніўся месяц і заліў пакойчык халодным святлом. Даша агледзелася. Тут яна жыла з мужам да вайны.

На канапе клуначак. Старая цяжка паднялася насустрач:

— А я хвалююся, ці не здарылася чаго з табой... Божа мой, які страшны час. Ты з дзіцем?

Даша расказала пра Тоню. Старая нахілілася і доўга глядзела ў дзіцячы тварык. Сказала з дакорам:

— А я так чакала ўнучачка... Цяпер было б лягчэй паміраць.

Дашу ўразілі словы старой. Яна не раз казала Паўлу: «Пачакаем... Маці слабая зусім. Куды ёй дзіця даглядаць. А мне працаваць трэба».

— Збірайцеся, мама.

Старая паківала галавой.

— Не, дачушка, спачатку ратуй дзіця. Бачыш, у мяне ногі апухлыя. У другі раз прыйдзеш.

Даша зразумела: так трэба. Халодныя далоні свякрухі датыкнуліся да Дашынага твару.

— Ідзі, Даша. У другі раз прыйдзеш,—паўтарыла старая.

Даша не паспела. Пасля вайны ўжо хадзіла з Жэнькам на брацкую магілу, дзе, людзі казалі, загінула свякруха. Жэнька цягнуў яе за руку:

— Пойдзем, мамачка!

А яна не магла крануцца з месца. Стаяла і думала: «Помнік тут трэба. Не трэба вялікага. Няхай такі — дзве працягненыя з-пад зямлі старэчыя далоні, але каб чалавек не прайшоў абыякава, каб ён пракляў фашызм».

Усю ноч Рагоўскі не сплюшчыў вачэй. Бачыў збялелы Дашын твар, чуў яе голас: «Я не аддам табе Жэньку». У думках размаўляў з ёй: «Даша, ты чулая, ты добрая. У мяне ж, акрамя сына, нічога ў жыцці не засталося».

Увечары ён зноў чакаў Дашу. Яна паглядзела амаль непрыязна. Ён маўчаў, не ведаючы, як сказаць ёй тое, дзеля чаго прыйшоў. Відаць, гэта было сказана надта афіцыйна, і яна пакрыўдзілася.

— Даша, мой хлопчык любіць цябе, дзіцяці будзе цяжка. Таму я хацеў прасіць... Выходзь за мяне...

Яна маўчала.

— Я разумею. Ты прыгожая, маладая...— Ён чакаў адказу. Раптам адчуў, што хвалюецца.

Яна сказала спакойна:

— Жэня заўтра пяройдзе да цябе. Спадзяюся, ты не будзеш супраць, калі я захачу пабачыць...— Відаць, хацела сказаць «сына», сказала: хлопчыка.

Ён доўга глядзеў ёй услед. Нават не адказала! Якая ты цікавая і незразумелая жанчына, Даша. Выходзь за мяне... Дурань! Трэба было ёй растлумачыць усё. Мне ж працаваць трэба. Сама ж сказала: дзіця... Не будзе каму дагледзець. Ці яна думае, як да вайны, каб каханне і ўсялякія тра-ля-ля?

Даша спынілася ля Жэнькі, папраўіла коўдру. «Выходзь за мяне...» Выйсця шукае. Але ці ёсць выйсце? У кожнага з нас свая вайна, свае страты. І нельга гэта скласці разам і панесці разам. А калі нельга — тады адзінота. Адзінота ўдваіх... Мусіць, гэта яшчэ цяжэй. І ад дзіцяці не ўтоіш. Маленькае сэрца адчуе.

Адно шчасце, два шчасці... Хіба так бывае? Адно яно. І, пэўна, для кожнага чалавека шчасце мае сваю глыбіню і вастрыню адчування. Нават у птушкі кожнай свая песня...

«Выходзь за мяне...» — успомніла, як сказаў гэтыя словы Павел, і тады ўвесь гэты вялізны свет з яго дрэвамі, кветкамі, птушкамі святкаваў разам з імі.

Жэнька ўсміхаўся ў сне. «Сыночак, няўжо ты пойдзеш ад мяне? Адна ў мяне радасць засталася — чуць, як ты смяешся, бачыць, як гуляеш з дзецьмі». Недзе ў глыбіні душы была яшчэ надзея, што хлопчык застанецца.

Але, мусіць, праўду кажуць: родная кроў адчувае. Жэнька паехаў з бацькам.

... Антаніна Іванаўна вярнулася позна ўвечары. Ездзіла да сястры ў вёску. Сястры пашчасціла. Сама з дзецьмі хавалася ад немцаў на далёкім хутары ў сваяка. Дык і кароўку там захавала і курэй колькі. Звычайна, калі Антаніна Іванаўна збіралася дадому, сястра клала ў кошык трохі масла, яек і іншых прысмакаў. Гасцінец для Жэнькі цудоўны. Маці паставіла на стол кошык, пачала выцягваць яйкі і кожнае старанна загортваць у паперу. «Каб, крый божа, не разбілася ў дарозе».

— Ты нешта гаворыш, мама? — Даша ўжо ляжала ў пасцелі.

— Я кажу: дзіця ёй трэба, а яго бацька не патрэбен! А можа, ты, Даша, сама не ведаеш, што табе трэба?

Даша ўсміхнулася:

— Мне трэба, каб ты, мама, не злавалася. Позна ўжо. Спаць бы клалася.

Даша прыгадала маленькі пакойчык. Як яны там? То кожны тыдзень ездзіла, а цяпер вось ужо два месяцы не выпадае. Апошні раз як прыязджала — дзіця зусім галоднае. За вячэрай Жэнька радаваўся: «Ой, як смачна! Каб ты, мамка, кожны дзень гэтак?» А Барыс сумеўся і чамусьці пачаў кампліменты гаварыць:

— Рукі ў тваёй маці не залатыя, брыльянтавыя!

Відаць, пакрыўдзіла яго тады, што нічога не адказала. Трэба было хоць вачамі падзякаваць.

За гэтыя два месяцы Даша не раз успамінала той апошні вечар, калі яны былі разам: яна з Жэнькам, Рагоўскі.

«Навошта пакрыўдзіла чалавека?» І чым больш вінавація сябе, тым цяплей думалася пра Барыса. Але для думак часу было мала. Даша працавала над аднаўленнем Дома піянераў. З таго дня, як даручылі ёй гэту работу, нават у сне бачыла цудоўны палац. Вечарам Даша расказвала, як ідуць справы. Антаніна Іванаўна заўсёды слухала ўважліва, раіла:

— Ты ўжо, дачушка, глядзі, каб і малым было чым заняцца. Дасць божа, Жэньку прывязем...

Маці ўздыхала:

— Колькі нашы дзеткі ў вайну гора пабачылі, дык няхай у гэтым палацы радасць адчуюць.

Падарунак піянерам атрымліваўся добры. Людзей, што прыязджалі ў горад, перш-наперш вадзілі глядзець адноўлены палац. Даша была задаволена. Але трывога за Жэньку не давала спакою.

Не вытрымала Антаніна Іванаўна:

— Паеду праведаю свайго гадаванца.

Нешта з тыдзень маці гасцявала ў Рагоўскага. Вярнулася надзьмутая. Даша не пыталася, адчула, што пасварылася з Барысам. Потым Антаніна Іванаўна сама расказала:

— Я яму кажу: «Няхай хлопчык са мной едзе, табе лягчэй будзе». А ён нават не адказаў... Толькі як дадому вярнулася, зразумела — старая я дурніца. Ці гэта па-людску, каб дзіця ад бацькі забіраць.

Антаніна Іванаўна памаўчала. Даша бачыла, што маці хоча яшчэ нешта дадаць.

— Сцёпа сказаў, каб ты згадзілася, дык Барыс шчаслівы быў бы.

Даша раззлавалася:

— Балбатун твой Сцёпа.

Маці махнула рукой:

— От, што з табой гаварыць! Свайго шчасця не разумееш.

...Даша ўзрадавалася, калі атрымала запрашэнне на нараду. Можа, яшчэ дзянёк удасца прыхапіць — Жэньку дагледзець.

У той дзень яна прачнулася з незразумела радасным пачуццём. Пад раніцу ў сне бачыла: бяжыць Жэнька і крычыць гэтак звонка: «Мама!»

У пакой увайшла Антаніна Іванаўна:

— Паглядзі, дачушка, снег. Быццам і рана яшчэ. Добра — бульбу ўбралі.

Даша глянула ў акно. На зялёнай траве дзіўнымі белымі кветкамі ляжаў снег. Даша пачала хутка апранацца. На душы было лёгка.

— Мама, я ўжо з работы не зайду. Адразу паеду.

«Справа не ў рабоце,— думаў Рагоўскі.— Магла хоць на дзень прыехаць. На мяне пакрыўдзілася? Дык я, здаецца, раней з жанчынамі так ветліва і размаўляць не ўмеў. Яна гэта ведае. Праўду кажуць: калі не любы...»

Падышоў Жэнька, спытаў:

— Ты чаго, татка, сядзіш гэтак?

Рагоўскі падняў галаву, паглядзеў на хлопчыка:

— Не ведаю, сынок, што нам рабіць. Праўду твая маці казала: дрэнны я бацька.— Ён пагладзіў худзенькія Жэнькавы плечы, пабяцаў:

— Сёння з работы раней прыйду, кашульку табе памыю і поліўкі, брат, зварым цэлы чыгун.

— А ты вазьмі мяне на работу.— Жэнька паглядзеў сур'ёзна, нейк не па-дзіцячаму.

Рагоўскі ўздыхнуў: «Мусіць, Даша праўду гаварыла, калі не хацела аддаваць дзіця». Сказаў:

— Добра. Пойдзем! Толькі збірайся хутчэй.

Жэнька адразу пасябраваў з машыністкай Лізай. Гэта маленькая жанчына з прыемнымі рысамі твару, з добрай ціхай усмешкай аднойчы расказвала Рагоўскаму: «Перад вайной выйшла замуж, муж загінуў».

Яна нават дазволіла Жэньку на машынцы пастукаць. Барысу было няёмка. Кожны дзень прасіў прабачэння: вось хутка пачне працаваць дзіцячы сад... А пакуль няма куды яго дзяваць. Ліза апускала вочы:

— Мне ён не замінае.

Калі Жэнька захварэў, Ліза кожны дзень пыталася пра яго. І Барыс быў удзячны ёй за гэты неспакой. Нейк Жэнька папрасіў:

— Тата, скажы, няхай цёця Ліза прыйдзе да нас.

Ліза прыйшла. Потым ён дзівіўся, як цярпліва, умела даглядае Ліза хворага хлопчыка. Аднойчы, калі Ліза затрымалася, Жэнька раптам заплакаў:

— Цёця Ліза, не пакідай нас! Заставайся са мной.

Яна запытальна паглядзела на Барыса. Ён нейк збянтэжыўся і сказаў рэзка:

— Заставайся ўжо, ці што! — і адразу спужаўся сваёй недалікатнасці. Хацеў яшчэ нешта сказаць, але ўбачыў, што Ліза, не спяшаючыся, пачала распранаць паліто, паверыла.

Ліза ні пра што не пыталася, не высвятляла адносін. І, здаецца, была задаволена ўсім, як ёсць. Спакойная, ласкавая, яна ўсё нешта рабіла, прыбірала. Цяпер можна было працаваць, прыхопліваючы начныя гадзіны, і ні аб чым не турбавацца.

Калі даведаўся пра нараду, падумаў: «І Даша ж, пэўна, будзе...» Пачуццё чагосьці страчанага сціснула сэрца. Але трымалася нядоўга.



«Нельга страціць тое, чаго ў цябе не было... Але нават такая — далёкая — яна табе трэба»,— прызнаўся сам сабе.

Увечары ён здзівіў Лізу. Апрануўся ў старую кашулю і пачаў змятаць пыл са сцен, потым мыў вокны, падлогу.

Раней ён хатнімі справамі не цікавіўся. Ліза і не крыўдзілася: хапае яму сваёй работы. З першага дня, як убачыла Барыса, быў ён пануры, засмучаны. Думала: «Такі ўжо характар». А тут вокны мые — і раптам заспявае, ды так радасна, па-юначаму. Ліза дзівілася: з чаго б гэта ён?

Растлумачыў усё Жэнька:

— Мама Даша на нараду прыязджае. Мы з таткам заўсёды ўсё прыбіраем, каб ёй падабалася.

«Дык вось яно што...»

Даша прыехала позна ўвечары. Пастукала ў дзверы. Адчыніла незнаёмая жанчына, сказала:

— Добры вечар! Праходзьце, калі ласка. Вы Даша? Мы вас чакаем. Жэня не хоча класціся спаць.

Яны нейкі час вывучалі адна адну. Жанчына Дашы спадабалася. Даша спытала:

— Вы сваячка Рагоўскага?

Жанчына адказала:

— Не, я яго жонка.

Сказала проста, але Дашы здалося — з выклікам.

Яны ўвайшлі ў пакой. На стале чысты абрус. На вокнах бялеюць фіранкі, на падаконніку два маленькія фікусы і трэці вялікі на падлозе. Даша фікусаў не любіла і ніколі ў сябе не трымала. Яна пацалавала Жэньку, усміхнулася:

— О, колькі ў вас тут фікусаў! Аранжарэя!

Даша сказала весела, але Ліза адчула: гэта ўсмешка разумнейшага, позірк зверху ўніз, сцвярджэнне яе, Дашынага, права рабіць тут заўвагі. Адчула і здзівілася непрыязнасці да гэтай прыгожай упэўненай жанчыны. Потым убачыла, як узрадаваўся Жэнька, як Барыс кінуўся здымаць паліто з госці. Ліза супакойвала сябе: Даша так многа зрабіла для хлопчыка.

Ліза рыхтавала вячэру, і размова за сталом даходзіла да яе асобнымі словамі, фразамі:

— Горад павінен быць нечаканым, як знаёмства з цікавым чалавекам...

— Шырокія вуліцы... Бывае, што чалавек лепш адчувае сябе ў ціхім завулку...

Пад раніцу Даша прачнулася і пачула незадаволены голас Барыса:

— Навошта ты гэтых фікусаў нацягала? Сапраўды, аранжарэя цэлая...

Даша нацягнула коўдру высока, каб не чуць гэтай размовы. Было сорамна. Толькі цяпер зразумела: справа не ў фікусах. У гэтым была яе незадаволенасць пераменамі, што адбыліся ў жыцці Барыса і Жэнькі. Чамусьці раней не думала аб такой для Барыса магчымасці...

Ні тонкая коўдра, ні фанерная перагародка не затрымлівалі гукаў, і Даша пачула мяккі грудны Лізін голас:

— Ну, навошта ты гэтак? Я для сябе... У мяне і да вайны былі фікусы. Паглядзіш раніцой — новы лісточак распусціўся. Я не магу нарадзіць, а расліна нараджае. І мне хораша глядзець на гэты кволы лісточак...

Даша адчула ў Лізіных словах несхаваны смутак. Учора яна здавалася простай, недалёкай жанчынай. А тут... глядзі, якія тонкія пачуцці...

За акном яшчэ цемра. Можна крыху паспаць.

Даша прачнулася позна, але не ўставала адразу. З-пад прыкрытых вейкаў наглядала за Лізай. Непрыгожая, але нешта прыемнае ў ёй ёсць. Рухі мяккія. Здаецца спакойнай. Ці любіць яна Барыса? Учора думала: не было ёй часу палюбіць, ды і розныя яны. Цяпер упэўненасці не было. Хто ведае... У сваёй душы не разбярэшся, а ў чужой, як у прыцемках...

— Добрай раніцы...

Ліза ад нечаканасці ўздрыгнула, і Даша зразумела, што спакой гэтай жанчыны ўяўны.

— Добрай раніцы! Як вам спалася?

Ліза ўсміхалася, і Дашы спадабалася яе міралюбства.

— Дзякуй, добра. Барыс пайшоў ужо?

— Даўно. Ён любіць працаваць, калі нікога няма.

Ліза ставіла на стол снеданне і расказвала:

— Барыс так рыхтаваўся да вашага прыезду. Сам усё прыбіраў. Я яго ніколі такім вясёлым не бачыла...

«Навошта яна мне гэта гаворыць? Дурная? А можа, мудрая?»

Даша выпіла свой чай з падсмажаным хлебам. Ад іншага адмовілася. І таму, што трэба было спяшацца на нараду, і таму, што не ведала, як сябе паводзіць з гэтай дзіўнай жанчынай.

Нарада закончылася рана, але Даша заседзелася ў кабінеце начальніка галоўнага ўпраўлення па справах будаўніцтва:

— Мы тут меркавалі, Дар'я Міхайлаўна, хочам вас галоўным архітэктарам прызначыць. Справу вы любіце, і чалавек вы настойлівы.

Даша ўсміхнулася.

— Галоўны архітэктар неіснуючага горада?

Начальнік прыняў яе тон, таксама ўсміхнуўся:

— З такім галоўным архітэктарам горад можа быць цудоўным.— Ён на момант схіліў вялікую сівую галаву, і Даша зразумела, як састарыўся гэты немалады ўжо чалавек. Ёй зрабілася шкада яго. Можа, ён адчуў гэта, бо паглядзеў на Дашу нечакана бадзёрымі, вясёлымі вачамі.

— Дык вось, Дар'я Міхайлаўна, як кажуць, стары вол баразны не псуе. Прыязджайце, будзем разам вырашаць усе складаныя пытанні. Толькі Рагоўскага да сябе не зманьвайце. Ён мне тут патрэбен. Таленавіты, хоць пра будаўніка такога не кажуць. І чалавек, Дар'я Міхайлаўна... такіх мала! А цудоўны горад, я ведаю,— гэта ваша мара.

Яна ўстала, каб пайсці. Ён паклікаў:

— Даша, ёсць чуткі, што прапануюць вам іншую работу. Але, паверце мне, вам тое не пад сілу.

Поезд доўга не кранаўся з месца. І Даша ўсё глядзела ў расчыненае акно: «Якая такая іншая работа?»

«Мой горад павінен быць светлым. І кожны, хто будзе жыць у ім, і хто прыедзе, адчуе гэтую светлую душу, яго гасціннасць, добразычлівасць». Даша спахмурнела: «Рагоўскага хваліў, нібы мне яго сватаў... А як Жэнька прасіў: «Мама, ты хутка зноў прыедзеш...» Без цябе ж я не змагу, сынок, прыеду... І вочы твайго бацькі будуць усміхацца зусім па-юначаму. І ціхая жанчына скажа: «А мы вас чакалі. Жэнька ўсё спаць не хацеў класціся».

Поезд нарэшце крануўся, і свежы ветрык, нібы ласкавы звярок, лізнуў Дашын твар. Навыперадкі з ветрам поезд выбег з горада і, красуючыся сваёй сілай, паляцеў паўз прыгожыя бярозы і меднастволыя сосны. Разгуляўся вецер. Выплылі хмары, насунуліся на верхавіны дрэў, на дахі вясковых хат, раптоўна, як памылка. Па шкле застукалі першыя кроплі дажджу. Паветра было свежае, і дыхалася лёгка. Сусед, маладзенькі лейтэнант, сказаў Дашы:

— Памятаеце, у паэта: «Дождж пахне віннай пробкай».

Лейтэнант доўга яшчэ паказваў сваю эрудыцыю. Даша слухала і думала пра сваё: «Ну, нічога, зусім жа нічога не здарылася! Хто ён табе? Жэнькаў бацька, чужы чалавек. Ажаніўся, дык што? Сама ж адмовілася...»

Пра Барыса аднаго думалася спакойна. Але варта ля яго ўявіць гэтую жанчыну, як раптам апякае нешта гарачае. Колькі ўсяго ў свеце перамянілася, а як была раўнівая, так і засталася. Успомніла, як перад замужжам здалёк убачыла свайго Паўла. Ён трымаў пад руку нейкую жанчыну, пяшчотна нахіляўся, штосьці гаварыў ёй. Жанчына смяялася. Даша прыбавіла кроку. Не, яна нічога яму не скажа, проста пройдзе міма, каб ён бачыў. Яны перайшлі вуліцу, а перад Дашай суцэльным патокам пайшлі аўтамашыны. Але спыніцца яна ўжо не магла. Быццам нейкая сіла штурхнула наперад, прайшла прама перад коламі — не зважаючы на папераджальныя гудкі. Калі падышла бліжэй, убачыла — зусім незнаёмы чалавек.

... Дадому з вакзала Даша вырашыла ісці пешшу. Выйшла на былую галоўную вуліцу. Вялізныя ў чалавечы рост каменні адкідвалі жудасныя цені. Святло некалькіх ліхтароў ледзь прадзіралася праз восеньскую імжу. Густымі, неахайнымі мазкамі ляжалі на небе фіялетавыя хмары. Насустрач усё ішлі людзі. Даша ўспомніла: заўтра выхадны дзень. Чамусьці ў вочы кідаюцца пары. Пажылы ваенны нешта гаворыць прыгожай сівой спадарожніцы. А гэтыя зусім маладзенькія... Вось міліцыянер побач з занадта высокай дзяўчынай. Разгубіўся, відаць, камечыць у руцэ пальчатку.

... Маці адчыніла адразу, як толькі Даша пастукала ў дзверы. Чакала. Цеплыня агарнула на момант сэрца: добра, калі цябе чакаюць. Маці спытала:

— Што з табой, дачушка?

— Нічога, мама. Стамілася трохі...

Даша падышла да люстэрка: бледны, нейкі хваравіты твар. Маці хацела нешта сказаць, але стрымалася.

— Жэньку б ты, мама, не пазнала.— Даша з намаганнем усміхнулася.— Такі вялікі, выцягнуўся... А Сцёпа хутка бацькам стане. Галя казала, недзе праз месяц. Прасілі цябе, каб прыехала да іх.

Старая ўсміхнулася:

— Ага! Трэба ж памагчы... Будзе ўнук ці ўнучка...— Вочы яе засвяціліся, памаладзелі. Потым спахапілася: — Як жа я цябе адну пакіну?

Даша супакоіла:

— Што ты, мама! Я ж не дзіця... Едзь.

— Паеду, мусіць жа. А то хаджу па хаце, не ведаю, куды рукі прыкласці. Мае ж рукі без працы не могуць — і думкі такія...

...Даша прачнулася рана. І адразу адчула, як холадна на душы, быццам у доме з забітымі дзвярамі і вокнамі. Успомніла ўчарашнюю размову з маці. Чалавеку трэба чалавечае цяпло. Прыгадала вечар у Рагоўскіх. Жэнька радаваўся, калі яна вячэру гатавала. А потым Барыс пахваліў: «У тваёй маці рукі не залатыя, брыльянтавыя». Цяпер у іх свая сям'я, свой клопат.

Даша разгарнула ватман. Добра, што работу прыхапіла! Не разгінаючы спіны, працавала некалькі гадзін. Маці ўсё прасіла: «Ідзі, дачушка, есці». Даша адмаўлялася: «Пачакай, мама». Баялася страціць тую заспакоенасць, якая заўсёды прыходзіць у рабоце.

Потым пачула, як маці з кімсьці размаўляе, і пазнала па голасе: Вольга! Даша пабегла насустрач. Яны абняліся, расцалаваліся. Вольга зашчабятала:

— Вось ішла міма... Дай, думаю, зайду. Усё ж такі сяброўкі, хоць ты і заганарылася!

Даша толькі зараз убачыла: за Вольгай стаяла маленькая дзяўчынка, круглатварая, як маці, але з незнаёмымі, трохі коса разрэзанымі вачамі.

— Дык гэта ж твая дачка!

Даша падхапіла дзяўчынку і раптам адчула палёгку ад пяшчотнага дотыку дзіцяці. Падумалася: даўно я з маленькімі дзецьмі не была. А яны ж сапраўды душу грэюць.

Вольга вымагала кампліменты.

— Мая копія, праўда?

Даша ўсміхнулася:

— Цудоўная дачка ў цябе, Волечка. Падобна, вельмі падобна! Толькі дзіўная рэч — спадчыннасць. Абрысы бацькавага твару ўсё ж такі адбіваюцца.

Даша адпусціла дзяўчынку. Увайшла Антаніна Іванаўна. Прынесла чаю з ватрушкамі. Села насупраць і неяк замілавана глядзела, як дзіця есць. Потым спытала:

— Ну, як, добры твой тата?

Вольга зразумела, што пытанне гэта да яе. Вочы адразу пасуровелі. Паглядзела на Дашу.

— Я ведаю, ты мяне асуджаеш... А ён сапраўды харошы... Неяк знайшоў фотакартку Міколы і пытаецца: «Гэта твой муж? У яго добры твар...»

А я даўно гэтай фотакарткі не бачыла. Сама ад сябе хавала... Тут не вытрымала, заплакала. Бачу, узяў рамку, гэтак асцярожна ўставіў фотакартку і пачаў на сцяну прыбіваць. Так і вісіць над сталом.

Каб спыніць цяжкую размову, Даша прапанавала:

— Можа, па парку пройдземся? У мяне нешта галава баліць.

Галава сапраўды балела. І хацелася пайсці ў парк разам з Вольгай, як калісьці хадзілі дзяўчатамі.

Яны ішлі моўчкі. І вераснёўскае сонца выглядала з-пад хмар, каб паслаць сваю няшчырую ласку зямлі. Зямля, адчуўшы цяжар апалага лісця, зразумела, што ўжо восень, і з радасцю прымала гэта апошняе цяпло.

Дрэвы стаялі ў вогненных фарбах, быццам абпаленыя перажытым. Прыціхлыя, прыслухоўваліся да нечага ў саміх сабе. Але смутку няма. Усюды спакой. І чуйная ад горычы душа ўбірае гэты спакой, як надзею на ўласнае адраджэнне.

Падляцеў ціхі ветрык і прынёс горкі трывожны пах: недзе палілі сухое лісце. Даша ўздыхнула: каб чалавек мог пазбавіцца ад усяго, што ўжо адквітнела. Цяжкая рэч — памяць. У прыродзе яна, відаць, таксама ёсць. Але пануе тут не памяць, а гэта загадкавая мудрасць адраджэння.

Вольга спытала ціха:

— Памятаеш?

— Як мы Паўла з Мікалаем тут сустрэлі?

Вольга зрабіла круглыя вочы:

— Як ты здагадалася, пра што я хацела сказаць?

— Сама не ведаю...

Вольга ўсміхнулася, папрыгажэла.

— Тады спякота была. А мы з табой пад дрэвам сядзелі, да экзаменаў рыхтаваліся. Я чытала, а ты задумалася, вочы заплюшчыла. Відаць, марыла аб нечым. А яны падышлі. Не, спачатку твой Павел. Пытаецца, каторая гадзіна? А ты не чуеш. Раскрыла вочы і глядзіш, быццам не хлопец гэта, а нейкая дагістарычная істота з'явілася перад табой. Даша, ты аб чым тады думала? Мне потым Мікола закруціў галаву, і я ўсё забывала спытацца.

— Аб чым? — перапытала Даша.— Успомніла, як па-дзявочаму прагна чакала кахання. Варта было заплюшчыць вочы, і бачыла вясёлы хлапечы твар, губы, вочы глыбокія, чыстыя, рукі пяшчотныя... І раптам раскрыла вочы, а ён стаіць. Ну, зусім такі, як прыдумала. Было ад чаго разгубіцца...— Даша ўздыхнула.— Колькі год прайшло, Волечка! Хіба ўспомніш? А ты дзе зараз працуеш?

— На радыё, у хоры. А памятаеш, якая я была Кармэн? У вайну застудзілася, голас зусім прапаў. Потым лячылася. І вось спяваю па пяць гадзін. І ніхто ўжо не памятае, што я — Кармэн. Нядаўна сустрэла свайго старога прафесара, ён пазнаў мяне. Кажа: «Вольга Мікалаеўна, у вашым голасе быў метал».

У Вольгі настрой пераменлівы. Паглядзела на дачку, усміхнулася:

— Ведаеш, Даша, Леначка мая спявачкай будзе. Далібог! У яе і слых, і голас. Як толькі прачнецца, пачынае спяваць.

З танцавальнай пляцоўкі пачулася музыка, мяккая, вальсавая мелодыя. Вольга ўздыхнула:

— Памятаеш, да вайны...

Прапанавала:

— Пойдзем, Даша, паглядзім, як цяпер моладзь весяліцца.

Яны пайшлі па шырокай алеі. Па баках на лаўках сядзелі маці з дзецьмі, старыя. Насустрач ішла жанчына. Даша заўважыла яе погляд: трывожны, неспакойны. І касметыкі — занадта. Ад гэтага нейкая скамянеласць твару.

Вольга сказала амаль гучна:

— Глядзі, размалявалася, шукае нечага!

Даша ўсміхнулася:

— Баішся, каб у цябе не адбіла?

— У мяне? Ды і не такія адбіваюць!

Даша пацікавілася:

— А якія?

— Хоць бы такія, як ты. На цябе вунь як заглядаюцца.

— Я нешта не бачыла.

— Вось і дрэнна, што не бачыла.

— Ой, дзе твая Леначка?

Вольга агледзелася:

— Вунь ідзе да гэтай... размаляванай. Дзіўная дзяўчынка! Усё да людзей цягнецца. А хто спадабаецца, падыдзе і пачынае спяваць. Гэта яна так знаёміцца.

Даша спынілася: цікава, што будзе далей.

Леначка падышла зусім блізка, некалькі хвілін з цікавасцю глядзела на жанчыну і раптам сапраўды заспявала, тоненька, ціха:

Во поле березынька стояла-а-а...

Жанчына прыветна ўсміхнулася, і ад гэтай усмешкі галасок памацнеў, падняўся вышэй:

Лю-ли, лю-ли, стояла!

Вольга раззлавалася:

— Далібог, дурная дзяўчынка. Я табе казала: падыдзе да незнаёмага і пачынае спяваць. Сваю прыязнасць так выказвае. Я ўжо нават карала...

Даша сказала строга:

— Песню нельга караць!

Вольга не магла супакоіцца:

— І чым ёй гэтая спадабалася?

Жанчына глядзела на маленькую спявачку, і Дашы было відаць, што яна ўзрушана. Знікла вульгарная скамянеласць. Сумная, мяккая ўсмешка задрыжэла на губах.

Вольга зрабіла крок, каб падысці да дачкі, але Даша спыніла:

— Пачакай! Дзіця адчула тое, чаго мы з табой не зразумелі. Можа яна, Волечка, вельмі нешчаслівая. Мы хоць ведаем, чые мы ўдовы, а нехта і гэтага не мае.

Жанчына раптам зварухнулася з месца і прагна працягнула рукі. Як сляпая, дацягнулася да дзяўчынкі і прытуліла да сябе. Вольга ўмомант апынулася ля дачкі. Жанчына не адразу яе заўважыла. Калі заўважыла, сказала вінавата:

— Прабачце...

Яна адпусціла Леначку, хацела пайсці, але павярнулася зноў да Вольгі, сказала:

— У вас харошая дзяўчынка. Няхай расце вялікая... і шчаслівая.

Даша доўга глядзела ёй услед.

— Ты бачыла, як ёй цяжка было адпусціць Леначку? Можа, толькі дзіця ёй і трэба... А праз якую агіду прыйдзецца ёй прайсці... Паспрабуй потым забыцца на ўсё. Будзе сустракаць свайго з жонкай — і што перажыве, пра гэта толькі яна будзе ведаць. І ніводны статыстык гэтыя пакуты на рахунак вайны не запіша.

Вольга ўздыхнула:

— А пра дзяцей бязбацькавічаў ты забылася? У мяне суседка яшчэ ў пачатку вайны нарадзіла дачку, дык неяк падышла да мяне малая і пытаецца: «Цётка Волька, у мяне ж таксама павінен быць татка,— і глядзіць гэтак мне ў вочы.— Павінен быць, праўда? Дык можа вы яго ведаеце?»

А я сапраўды ведаю. І ты, мусіць, яго ведаеш. Архітэктар ён. Барада ў яго рудая. Прозвішча забылася... ці не Бяндзіцкі? Я яго часта сустракала. Так спакойна нясе сябе па зямлі...

— Ведаю, Волечка, да баб ён ласы. Мы з ім дзіцячы дом праектавалі, дык ён смяецца: «Мне,— кажа,— трэба добра гэты праект зрабіць, бо тут, мусіць, і мае дзеткі гадавацца будуць». Агідна!

«Дык вось на якую пасаду намякаў начальнік па будаўніцтву!» Даша выйшла з будынка абкома партыі разгубленая. У вушах усё гучалі словы першага сакратара: «Вырашылі рэкамендаваць вас, Дар'я Міхайлаўна, на пасаду сакратара райкома партыі».

Яна ішла, задумлівая, прыціхлая. Недзе блізка празвінеў трамвай і пабег паўз пагарэлішчы. Даша праводзіла яго позіркам: «Малайцы, пусцілі ў тэрмін! З трамваем горад неяк весялей выглядае».

Потым ішла па мосце. Унізе ціха, лагодна журчала вада. Раптам захацелася спыніцца і ўбачыць сябе ў люстэрку: якая я? Няўжо здолею? Не, трэба адмовіцца! Занадта вялікая для мяне работа.

Дома чакала пісьмо ад Барыса. Даша прагна прабегла вачамі: «Жэня здаровы. Толькі сумуе і ўсё пытаецца, ці хутка прыедзе мама Даша...»

Даша некалькі хвілін сядзела моўчкі, разгублена. «Адзіны чалавек, з якім можна было б параіцца, Барыс».

— Мама, ты не бачыла тут бутэлечку з чарнілам?

Маці прынесла чарніла, села побач, спытала:

— Каму ты гэта, дачушка?

— Барысу трэба адказаць.

Маці ўзрадавалася:

— Пішы, дачушка, пішы. Чалавек ён надзейны... Цяпер такіх мала.

Даша сказала раздражнёна:

— Хто пра што, а ты, мама...— Яна замаўчала. Пашкадавала, што пакрыўдзіла маці. Потым сказала як мага абыякава.— Між іншым, Барыс ажаніўся.

Антаніна Іванаўна доўга маўчала, думала нешта, потым, быццам сама сабе, сказала:

— Значыць, сапраўды не суджана.

Яна змоўкла, але не пайшла, а працягвала сядзець нерухома. Вачамі сачыла за кончыкам пяра, быццам намагалася зразумець, пра што піша дачка. Дробным почыркам Даша выводзіла: «Добры дзень, Барыс. Мяне сёння выклікалі ў абком партыі. Прапануюць...» Не, не

тое. Даша доўга сядзела моўчкі, потым зноў бралася за пяро. Але пад матчыным позіркам штосьці не пісалася.

Маўчанне перапыніла маці. Яна сказала прабачлівым тонам:

— Дык я ўжо, дачушка, на тым тыдні паеду.

Даша падняла галаву. Маці глядзела на яе сумнымі вачамі. Падумалася: «Шкадуе мяне».

— Можа ты, дачушка, Элу запросіш жыць? Разам вам весялей будзе.

Эла — сяброўка Дашы яшчэ па архітэктурным факультэце. Апошні час яны разам працавалі над праектам забудовы прывакзальнай плошчы. Эла часта прыходзіла да Дашы, казала Антаніне Іванаўне: «Разумееце, гэта ж вароты ў горад. Першае ўражанне — самае моцнае. Нам трэба добрую плошчу зрабіць».

— Эла згодзіцца. Тут нам сапраўды зручна будзе працаваць.

Маці нібы і не пачула, задумалася:

— Паеду, а сэрца за цябе ўсё роўна балець будзе. Нельга чалавеку аднаму. Яшчэ калісьці твая бабуля казала: «У жыцці два сонцы. Адно на небе грэе, другое — чалавечае. Роўныя яны. Бо без чалавечага цяпла, як без сонца».

Даша ўсміхнулася:

— А як жа ты жыла?

— Гора да людзей штурхала.

Маці зноў задумалася. На фартуху стомлена ляжалі яе маленькія ў зморшчынах рукі.

— Памятаю, дачушка, хадзіла я бялізну мыць да адных Свянціцкіх. Гаспадыня была яшчэ маладая, прыгожая. Усё на піяніна іграла. Казала, што калісьці ў тэатры працавала. Добрая такая. Прыйдзеш, а яна ўсё распытвае, як жывяце, як дзеткі. І гэтак хораша слухае, што на сэрцы лягчэй робіцца. І я ўсё пра сваё гора расказваю, расказваю і не ведаю, спыніцца ці не. Ужо выходжу, каб ісці дамоў, а яна ўсё слухае.

Гаспадар быў многа за яе старэйшы. І, здаецца, не надта ўважлівы. Першая жонка ў яго памерла. Людзі казалі, любіў ён тую жонку. А гэта, відаць, на попел прыйшла. Пра гэта я пасля дагадалася. А спачатку здавалася, што шчаслівейшага за яе няма на свеце чалавека. Еш, што хочаш, пі сабе на здароўе. І клопату ніякага. Дзетак у іх не было. А потым заўважыла: нешта дрэнна жанчына выглядае. Пытаюся, чаму так? А яна: хварэю, і дактары не ведаюць, ад чаго... Аднойчы прыйшла я, а яна бледная такая выйшла да мяне і кажа: «Добра, што прыйшлі, а то такая мяне нуда ўзяла. Хаджу па кватэры і думаю — каб было за што зачапіцца, дык бы і павесілася». Вось як дрэнна жыць, калі душу няма дзе абагрэць. І ты мяне паслухайся: ідзі да людзей!

Маці пайшла на кухню. Даша паднялася, уключыла радыё. І адразу пакой напоўніўся ўрачыстымі гукамі. Званілі Крамлёўскія куранты. Даша стаяла пасярэдзіне пакоя. І думка, што вось зараз разам з ёй гэты бой курантаў слухаюць мільёны людзей, усхвалявала яе: «Мая вялікая краіна, няўжо сапраўды я магу быць карыснай табе на гэтай пасадзе?»

Ноччу прысніўся Барыс. Усміхаўся сваёй іранічнай усмешкай: «Ну, які з цябе партыйны сакратар?»

Раніцай доўга, старанна прасавала шэрую сукенку, прышыла карункавы каўнерык. Потым ішла паўз пагарэлішчы, строгая, амаль элегантная, асцярожна пераступаючы пакарожанае жалеза: крый божа, каб не зачапіць старэнькія туфлі-лодачкі.

Пасля партыйнай канферэнцыі затрымаў першы сакратар абкома.

— Час цяжкі, Дар'я Міхайлаўна, самі ведаеце. А нам будзе цяжэй за ўсіх.

Даша глядзела на стомлены твар сакратара і думала: «Сапраўды цяжка...» Яна паднялася, каб развітацца.

— Пачакайце, Даша. Пасядзім, як перад цяжкай дарогай. Я хачу даць вам адну параду. Я папрацаваў ужо з людзьмі, ведаю: амаль у кожным чалавеку ёсць добрае. Толькі праўду ў народзе кажуць: чужая душа — прыцемкі. І многа трэба мець уласнага агню, каб высветліць гэта добрае ў чужых прыцемках. Я ведаю, вы сумняваецеся, ці хопіць сілы. У жаночым сэрцы, Дар'я Міхайлаўна, сілы вялікія. Мы цяпер жанчын на самыя адказныя пасады ставім. І яны апраўдваюць давер.

— Дзякуй, Кірыл Цімафеевіч.

... У вялікім кабінеце, акрамя шафы, некалькіх крэслаў і стала, накрытага чырвоным аксамітам, нічога не было. Даша напружана чакала. Хто ён будзе, першы наведвальнік? «Трэба паставіць сябе на месца чалавека...» — успомніла яна параду старога камуніста. У дзверы пастукалі, і адразу на парозе з'явілася высокая, хударлявая постаць. Даша пазнала: Елісееў, дырэктар станкабудаўнічага завода. Твар бледны, вочы стомленыя, з чырвонымі прожылкамі на бялках. Нават забыўся прывітацца.

— Больш так не магу працаваць! Памажыце. У мяне ж не завод, а сапраўдная лабараторыя. А працаваць няма з кім. Мне спецыялісты патрэбны, мне...

Даша слухала ўважліва, маўчала. Потым узяла паперу, пачала запісваць: трэба, трэба, трэба...

Елісееў спыніў сваё красамоўства нечакана, як і пачаў.

Сеў у крэсла, уздыхнуў і паскардзіўся:

— Трое сутак з завода не вылазіў. Пайшоў дамоў, каб адаспацца, ды пачуў, што сакратар новы...

Даша запэўніла:

— Я зраблю ўсё, што магчыма.

Ён паглядзеў на Дашу доўгім, уважлівым позіркам і сказаў спакойна:

— Справа ў тым, таварыш сакратар, што на сённяшні дзень нічога зрабіць нельга. Я гэта лепш ведаю. А вось выказаў усё, і трохі лягчэй зрабілася. Бывайце. Жадаю вам поспеху.

Даша здзіўлена паглядзела яму ўслед.

Неяк у канцы дня бокам усунуўся ў кабінет інжынер з аўтабазы Калоша. Ён камечыў у руцэ капялюш і доўга не адважваўся пачаць размову.

— Справа такая, Дар'я Міхайлаўна... Я наконт жонкі.

— З ёй нешта здарылася? — занепакоілася Даша. Яна добра ведала Любоў Мікалаеўну, жонку Калошы. Ніколі не адмаўляецца ад партыйных даручэнняў. Цудоўны ўрач і чалавек.

— Не, з ёй нічога. Хутчэй гэта са мной... Не магу больш. З мяне ўжо суседзі смяюцца. Дамоў вяртаецца позна... Кажа, хворыя...

— Так. Яна не лічыцца з часам. А суседзі... На тое яны і суседзі.

Калоша маўчаў, але відаць было, што ісці ён не збіраецца.

— Вы ведаеце, мы з ёй на фронце пазнаёміліся. Яна і тады была жанчына, як вам сказаць...

Даша не стрымалася, спытала з'едліва:

— У яе былі палюбоўнікі, а вы з ёй ажаніліся?

— Не, не зусім так. Але ж са мной, без загса...

Даша паднялася, узяла чысты аркуш паперы, паклала перад Калошам:

— Пішыце, пішыце ўсё, што вы маеце сказаць пра сваю жонку.

Яна назірала, як, моцна сціснуўшы ў кароткіх вузлаватых пальцах ручку, якую яна падала Калошу і якая, дарэчы, не пісала, ён глядзеў на чысты аркуш паперы. Потым адсунуў яго ад сябе, падняўся. Прамармытаў:

— Я другім разам...

Даша сказала спакойна:

— Не можаце? А перада мной на жонку гэтак нагаварыць, вы лічыце, можна?

Ён пайшоў. Даша схапілася за скроні: «Ой, нядобра гэтак! Трэба было стрымацца».

Яна падышла да акна. Адсюль было відаць, як ідзе Калоша, сагнуты, пануры. Даша раптам уголас рассмяялася: «А ён жа кахае сваю Любоў Мікалаеўну!»

Прыходзілі людзі, і кожны нешта ад яе патрабаваў. І Даша адчувала сябе адказнай за кожны чалавечы лёс, за кожную жыццёвую неўладкаванасць. Спачатку спужалася: сіл не хопіць. Але дзіўная рэч: адказнасць не знясільвала, а, наадварот, умацоўвала волю, сілы.

Падыходзячы да будоўлі, Даша здалёк пачула звонкі галасок Марыі Касьянавай:

— Ты, прараб, на мяне не крычы. Лаянкай ні раствору, ні цэглы не дасі. Ты лепш давай, забяспечвай. А мы работу зробім!

Прараб нешта адказаў — Даша не пачула. І зноў дзявочы галасок, але ўжо з пагрозай:

— Калі не, дык ты ў мяне па чырвоным дыване пройдзешся!

«Чырвоны дыван — гэта ў райкоме паслалі, заўважыла, чарцяне!»

Марыя ўбачыла Дашу, усміхнулася белазубай усмешкай, паказала на прараба:

— Яго, таварыш сакратар, на бюро трэба выклікаць. Што гэта за парадак? То цэглы чакаем гадзіну, то раствору няма. Пакуль той раствор давязуць — палова на дарозе застаецца.

— Добра, разбяромся. Што ў тваёй брыгадзе новага?

— Дзяўчаты тынкаваць навучыліся. Цяпер у нас затрымкі не бывае.

— Малайцы. А як у цябе з Андрэем? На вяселле хутка запросіш?

Марыя правяла маленькай абсiверанай далонню па пышных валасах, сказала цвёрда:

— З вяселлем пачакаю. Нікуды ад мяне Андрэй не збяжыць.— Усміхнулася: — Праспект адбудуем, тады... Я і ў сне бачу: іду па шырокай, прыгожай вуліцы: мой праспект, мая праца! А цяпер кожны метр людзям во як трэба! У мяне, Дар'я Міхайлаўна, сусед з вайны вярнуўся паранены. Кажа, куля не забіла, дык гэтыя метры квадратныя задушаць. У яго сям'я — чацвёра чалавек, а пакойчык — дзевяць метраў.

Марыя змоўкла, задумалася. Даша сказала:

— Ты дзяўчатам сваім раскажы пра гэта.

— Расказвала. Мае дзяўчаты і так працуюць, Дар'я Міхайлаўна. Кожную варта было б ордэнам узнагародзіць!

— Гераіні ў нас, Марыйка, хутка будуць. І ты, мусіць, першая.

— Ну, вы скажаце...

Марыя пайшла, і зноў пачуўся яе галасок недзе ў канцы будоўлі:

— Ты што, цэглы бітай пад колы не мог накідаць? Навошта дошкі ў гразь кладзеш?

— Гэта яна на шафёра крычыць,— усміхнуўся пажылы будаўнік.— Гаспадыня — усё заўважыць.

Па дарозе забегла Даша ў яслі. «Як там кругласутачныя? Ой, гэтыя суткі! Няўжо маці не хочацца раз у дзень патрымаць дзіця, каб яно свежым паветрам падыхала?»

Здалёк пачула звонкія і такія неаднолькавыя галасы. Даша ўсміхнулася. «Быццам птушаняты на ранку! Мусіць, зусім хораша адчуваеш сябе толькі з дзецьмі...»

Насустрач выйшла выхавацелька, белабровая, паглядзела на Дашу вострымі зрэнкамі шэрых вачэй.

— Ці гулялі сёння з дзецьмі на двары? — перапытала і заенчыла: — Ой, надвор'е такое пераменлівае. То сонейка, то дождж. Крый божа, дзеткі застудзяцца.

Дзеці пазналі Дашу, але падысці не адважваліся. Пазіралі на выхавацельку: «Баяцца яе, ці што?»

Падышла дзяўчынка. Худзенькая са светлымі валасамі. Паглядзела смела і спытала:

— Цёця Даша, а ты нам што прынесла?

Даша ўсміхнулася, выцягнула пакуначак, разгарнула тоўстую паперу.

— Вось цукеркі прынесла.

Ледзянцы, што ўзяла замест цукру, зліпліся — ужо два тыдні, як ляжыць дзіцячы пачастунак, а занесці часу ўсё не выпадала.

— Цёця Даша, мне, мне яшчэ! — з усіх бакоў цягнуліся маленькія ручкі.

«Бедныя вы мае птушаняты! А дзе ж Дзімка? Хлопчыку два гады, а гаварыць не ўмее».

— Дзіма, ідзі сюды!

Не зварухнуўся. Глядзіць кудысьці ў кут.

— Ну, як хочаш. Толькі без цукеркі застанешся.

Дзімка пакрыўджана шмыгнуў носам і раптам пазваў ціха, ледзь чутна:

— Да!.. Да..!

Даша падбегла, узяла Дзімку на рукі. Ён прытуліўся, сарамліва схаваў тварык.

— Дзіма, скажы: Да-ша...

Дзімка глядзіць на яе крыху пуклявымі вачамі. Ад напружання ажно пачырванеў носік-гузічак... «Да... са... Да...са...»

— Ой, маладзец, Дзімка! На табе за гэта цукерак.

Падышла выхавацелька.

— Дык вось яно што... Дзіма, ты гаварыць умееш?

Усміхаецца, а вочы халодныя.

У райкомаўскай сталоўцы Даша абедала хутка, спяшаючыся. Непрыемна ўспомніўся халодны позірк выхавацелькі. «А што, калі яна зараз за мае цукеркі дзяцей карае? Трэба прасачыць. Як такога чалавека пры дзецях трымаць?»

Даша скончыла абедаць, паглядзела ў блакнот. Застаецца яшчэ гарбарны завод. Рабочы скардзіцца на дрэнныя ўмовы. Трэба пагледзець, што там робіцца.

...Як толькі ўвайшла ў цэх, ударыў у нос востры, непрыемны пах. Успомніла радкі скаргі: «Машыны вывозяць адкіды праз дзве-тры гадзіны, а пакуль дачакаешся, можна задыхнуцца».

Сапраўды, можна задыхнуцца. Падышла да станка. Рабочы без гумавых ботаў, а пад нагамі хлюпае вада. Ён пазнаў яе:

— Таварыш сакратар, хіба так можна працаваць? Вентыляцыі ніякай. Дырэктар пра спецадзенне не клапоціцца.

Даша сказала:

— Я прыйшла, каб з ім пагаварыць.

Дырэктар, малады чорнавалосы чалавек ваеннай выпраўкі, у гімнасцёрцы, падняўся насустрач.

— Дрэнна пра людзей клапоцішся, Леанід Пятровіч!

— Што, скардзіліся? Я і сам ведаю...

— Бачыў, што рабочыя стаяць у вадзе, а гумавых ботаў не даеш! У самыя цяжкія часы партыя на спецвопратку грошы не шкадавала. Дык чаму ты не дабіваешся? Баішся нервы папсаваць?

Увайшла сакратарка.

— Леанід Пятровіч, Тацяну Сідарэнка затрымалі. Зноў скуру хацела ўкрасці.

Леанід Пятровіч памацаў скроні, сказаў стомлена:

— Няхай зойдзе.

Увайшла маладая жанчына, неахайна апранутая. Тым часам, як яна набліжалася да стала, вочы ўсё звужаліся, твар рабіўся злы, напружаны.

Мусіць, гэта была не першая размова, бо дырэктар сказаў:

— Я цябе, Сідарэнка, папярэджваў: паўторыцца, перададзім справу ў суд. Заўтра на работу не выходзь.

Жанчына, цяжка пераступаючы, выйшла. Дырэктар чакаў пытанняў, але Даша маўчала. Ён сказаў нервова:

— Трэці раз затрымліваем. Справа ясная.

«Ой, не ўсё так з людзьмі ясна, як ты думаеш, таварыш дырэктар».

Уголас сказала:

— Адкладзем, Леанід Пятровіч, нашу размову на заўтра. Я хачу з гэтай Сідарэнкай пагаварыць.

Дырэктар здзіўлена падняў брыво.

— Пра што?

Даша ўсміхнулася:

— Дзве жанчыны заўсёды знойдуць, пра што пагаварыць!

Даша дагнала Тацяну Сідарэнка ля прахадной. Жанчына паглядзела на яе і, відаць, шукаючы спачування, сказала:

— Як лаяць — дык кожны, а спачуваць няма каму...

Даша ведала гэта пачуццё бабскай сіратлівасці, але ніколі не чула, каб пра гэта гаварылі так адкрыта і з такой горыччу. Зрабілася шкада: «Маладая яшчэ. Будзеш доўга гарэць на ўласным агні, і ніхто пра твае пакуты не здагадаецца. А калі хто і здагадаецца, дык з цябе ж і насмяецца...» Спытала:

— Муж загінуў?

— Не, прыйшоў паранены і памёр. Хлопчык у мяне пасля нарадзіўся, а дзяўчынка даваенная...

— Шчаслівая ты.

— Чаму?

— У цябе ёсць дзеці. А ў мяне нікога няма.

Жанчына спачувальна паглядзела на Дашу і ўздыхнула.

— Якое там шчасце! Толькі і думаеш, як пракарміць, адзець ды абуць. Вось чорт з гэтай скурай зблытаў...

Яна чакала. Відаць, хацела пачуць Дашыну думку, але Даша не сказала нічога. Жанчына спытала:

— Ты што, ці не на работу да нас?

Даша нечакана для сябе схлусіла:

— Так, да вас. Праца цяжкая?

Чакала, што жанчына пачне скардзіцца, але яна адказала ўпэўнена:

— Да кожнай працы можна прызвычаіцца. Мяне да вайны Васіль на работу да сябе ўзяў. Дык праз паўгода партрэт мой ужо на Дошцы гонару быў.

Відаць, яна ўспомніла штосьці добрае для сябе, бо вочы — дзве льдзінкі — пачалі адтайваць, цяплець.

— Мы тады кватэру ад завода атрымалі. Памятаеце, на рагу вялізны дом — дык там нам пакой такі светлы далі. Васіль мой казаў: восенню разам вучыцца пойдзем. Ён пра тэхнікум марыў. Цяпер ужо майстрам быў бы.

Яны спыніліся ля вялікага напаўразбуранага будынка. Жанчына спытала:

— Можа, зойдзем да мяне, пагаворым.

У невялікім пакойчыку было няўтульна ад раскіданых рэчаў, ад нямытага посуду, што застаўся на стале. Жанчына сказала:

— Спяшалася і прыбраць не паспела.

Яна прайшлася па пакоі, нешта перасоўвала, пераастаўляла — і адразу ўсё стала на сваё месца. Потым мыла посуд, а Даша моўчкі назірала за ёй. Лінія шчок мяккая, няпэўна акрэсленая. Ад гэтага, відаць, так мяняецца яе выгляд. Цяпер твар пакрыўджаны, разгублены. Перажывае! Прыгожыя поўныя рукі, сціснутыя ніжэй локця рукавом чорнай старой сукенкі, ходзяць увішна. Па спіне рассыпаліся цяжкія жаўтаватыя косы. Даша ўсміхнулася:

— Спрытная ты.

Тацяна пахвалілася:

— А я і на рабоце такая. Мужыкі дагнаць не могуць.

Яна скончыла мыць посуд, выцерла рукі чыстым ручніком, сказала:

— Ты тут пачакай. А я пайду куплю чаго-небудзь. Гарэлка ў мяне ёсць...

Даша запратэставала, але тая ўжо не чула, выскачыла з пакоя. Даша сцяла скроні. Што рабіць? Пайсці? Нельга.

Дзверы расчыніліся, і на парозе з'явілася дзяўчынка. Худзенькая, маленькая, з вялікімі матчынымі вачамі. Яна дала «добры дзень» і прайшла да ложка. Села. Побач палажыла сумку, выцягнула сшытак. Маўклівая, а вочы задумлівыя, як у дарослай.

«Як пачаць размову, што ў яе спытаць?» — думала Даша. Раптам нехта пастукаў у дзверы. І яшчэ раз, нецярпліва, настойліва. Даша пайшла адчыняць. Дзяўчынка падхапілася:

— Цётачка, я вас вельмі прашу... Не пускайце іх, праганіце іх, цётачка...

— Добра, праганю. Але хто гэта?

— Гэта дзядзька Сяргей з Аркадзем. Яны заўсёды з маці на кухні. Рагочуць, а маці просіцца: «Пусціце мяне, міленькія». А мяне ў двары дражняць: «Цётачка, не пускайце!» Я бачыла, як яны ішлі сюды, і знарок зачыніла дзверы.

Дзверы ледзь не ламаліся. Даша адчыніла. На парозе стаялі двое. Той, што стаяў бліжэй, сказаў:

— Чаго доўга не адчыняла? Людзей гэтак замарозіш!

Даша спытала строга:

— Вам каго?

— Ну, Тацяну.

— Тацяны няма.

Мужчына нахабна ўсміхнуўся:
— Наогул усё роўна: Тацяна ці Марына...
Яго хаўруснік зарагатаў.
— Калі вы зараз жа не пойдзеце прэч...— Даша адчула, што ёй не хапае паветра. У твар ударыў вострьі кіслы пах.
Хаўруснік сказаў:
— Пойдзем, не звязвайся,—і, хістаючыся, падаўся прэч.
— Ідзі да д'ябла, а я тут пастаю. Праўда? Вось ля цябе пастаю, бо ты прыгожая... Далібог, прыгожая. Ведаеш што... Тацяна ўсё просіць: вазьмі мяне замуж! А я цябе вазьму. Далібог, ажанюся. Я табе прама скажу: у мяне жонка ёсць і дзеці, але кіну сцерву. Навошта яна мне! А з табой ажанюся.
— Ідзі праспіся, жаніх! — Даша штурханула яго і зачыніла дзверы. Потым бразнула нешта ў акне. Даша падышла і ўбачыла «жаніха»:
— Заўтра прыйду і а-ажанюся!
...Дзеці ўжо даўно спалі, а Тацяна з Дашай усё сядзелі на кухні, гаварылі.
— Як ты папусцілася, каб так абыходзіліся з табой?
Тацяна апусціла галаву.
— Слабая я, Даша. Колькі разоў сабе слова давала...
— Паглядзі на сябе: ты прыгожая, дужая, а яны здзекуюцца з цябе. Як ты дзецям у вочы глядзіш?!
— Ты не злуй, Даша. Лепш скажы, што мне рабіць? Працаваць жа трэба.
— Я заўтра пайду да дырэктара. Буду прасіць, каб дараваў табе.
Тацяна недаверліва паглядзела:
— Так ён цябе і паслухае. Гэта ж не чалавек — звер!
Даша ўсміхнулася.
— Ну, добра, папрасі за мяне,— гаварыла Тацяна.— Скажы: больш яна так не будзе. Раскажы яму, як да вайны я на Дошцы гонару была...
Даша пачала развітвацца. Тацяна ўзяла яе руку абедзвюма сваімі.
— Ты толькі не забудзься пра мяне, прыходзь. Разумееш, я не магу адна...
— Ведаеш што, Тацяна, я магу на рабоце затрымацца... А ты, як пакладзеш малых спаць, забяжы да мяне. Я тут блізка працую.
Тацяна здзіўлена паглядзела на яе:
— Ты ж казала — на працу да нас... А дзе працуеш?
— У райкоме партыі.
— Ой, у райком я не пайду, баюся. Ты лепш сама...
— Добра, прыйду. Толькі гэтых прагані! Абяцаеш?
— Праганю... Пачакай, Даша. Ты кім там, у райкоме, працуеш? Каго мне пытацца?
— Я сакратар райкома.
Даша пайшла, а перад вачамі доўга стаяла сумная, разгубленая жанчына. «Як часам трэба перапоўненай душы, каб нехта зазірнуў у яе і сказаў, як жыць далей...»

... У штодзённых клопатах Даша неяк не заўважыла прыкметы вясны, а калі заўважыла, тая ўжо была гаспадыняй на зямлі.
«Вось так і пройдзе маладосць! Сама не заўважыш, і людзі не ўбачаць». Даша ўздыхнула. Яна доўга стаяла ля ракі, глядзела, як над

вадой лёгка і прыгожа кружылі чайкі. Была нядзеля, і людзі патроху збіраліся на нядзельнік.

На тым беразе быццам заўважылі яе і замахалі вітальна кволымі галінкамі маладзенькія бярозкі. Як ветразь. Дрэўцы садзілі ўвосень. Значыць, добра прыняліся. Даша перайшла мост і апынулася ў маладзенькім парку. Ледзь-ледзь кранутыя зялёным пажарам, дрэўцы цягнуліся да сонца. «Ну, як вы тут гадуецеся?» Даша нахілілася над галінкай: лісточкі яшчэ клейкія, а пупышкі вялікія, быццам сціснуты дзіцячы кулачок. Яна пайшла па сцяжынцы, пасыпанай жоўтым рачным пяском. Ранішняе сонца рабіла яго залатым. Неба ўтульнае, крыху зліняла, як паркалёвая хустка, і вецер ласкавы. Даша прагна ўдыхала веснавое, нагрэтае сонцам паветра, і, як заўсёды вясной, незразумелая, п'янкая радасць уваходзіла ў сэрца. Раптам здалося, шта ўсё навокал мае нейкі патаемны сэнс. І можа, каб вось так пастаяць яшчэ, удыхаючы лёгкае, на трывожнай радасці настоенае, паветра, паслухаць, як трымціць кволае лісце, як спявае вецер — тады раскрыецца вялікая тайна жыцця? Але няма часу, трэба спяшацца на нядзельнік. Спявай, вецер, трымці, лістота! Што табе да гэтага, сэрца!

Позна ўвечары, стомленая, вярнулася дадому. Сказала сяброўцы:

— Ведаеш, Эла, а парк у нас будзе... Трэба толькі добраўпарадкаваць. І яшчэ, каб помнік у цэнтры і каб усе сцежкі сыходзіліся да яго.

Яны ўвесь вечар рабілі эскізы, але нічога не атрымлівалася. Эла параіла:

— Ты б да скульптараў звярнулася.

Скульптурныя майстэрні размясціліся на самай ускраіне горада. Даша ішла па вузкай вулачцы, адзін бок якой быў амаль цалкам спалены, а другі глядзеў неяк недаверліва сваімі падслепаватымі маленькімі вокнамі. Перад самай вайной Даша разам з Паўлам наведала майстэрню вядомага скульптара Азарха. Вынеслі адтуль незабыўнае ўражанне.

Даша ведала: у вайну загінула ўсё, што паспеў скульптар зрабіць амаль за дваццаць гадоў. Даша чула, што немцы расстралялі жонку і дачку яго. І хоць гора амаль у кожнага, але сэрца сціскаецца: як суцешыць?

Скульптар падняў сівую прыгожую галаву, запрасіў:

— Праходзьце, Дар'я Міхайлаўна. Вельмі рады вас бачыць!

Яна агледзелася. Зноў натоўп — ды ўсё знаёмыя. Быццам сабраліся сябры. А многіх ужо няма. Вось партызан Каленчыц, сувязная Малышава, партызанскі камандзір Літвінаў... Калі ён паспеў усё гэта?

Скульптар убачыў яе здзіўленне, сказаў з сумнай усмешкай:

— А што мне яшчэ застаецца рабіць?

Даша ўбачыла ў куточку ложак. «Ён, мусіць, і жыве тут». Сказала:

— Холадна ў вас.

Ён мыў рукі ў вядры з вадой — вялікія пасінелыя рукі. Пацвердзіў:

— Сабачы холад!

Яна спынілася ля незакончанай работы: маці з дзіцем. У жанчыны дзіўны выраз твару, які бывае толькі нядоўга пасля нараджэння дзіцяці і які так вабіць у рафаэлеўскай «Мадонне». Даша адышлася, каб схаваць хваляванне. Сказала:

— А ў мяне да вас справа.

Даша доўга расказвала пра малады парк, які трэба ўпрыгожыць помнікам. І добра, каб гэта быў помнік герою-піянеру. Яна расказала пра маленькага партызана Юрку, з якім пасябравала ў партызанскім атрадзе, пра смерць хлопчыка...

Скульптар слухаў уважліва, крыху нахіліўшы вялізную галаву.

Вочы зрабіліся журботныя. Мусіць, усхвалявала яго гэта Юркава гісторыя. Сэрца ж у мастака вялікае, калі яно здольна каменні сагрэць і ператварыць у чалавечыя вобразы.

— Помнік маленькаму герою,— нарэшце прамовіў скульптар.— Я пра гэта ўжо думаў. Тое, што вы расказалі, вельмі кранае. Мне гэта паможа ў рабоце. Зайдзіце, калі ласка, недзе праз месяц. Можа я вам тое-сёе пакажу...

— Помнік піянеру-партызану? Гэта ж цікава!

Даша павярнулася. На парозе стаяў высокі прыгожы чалавек. Бровы над чорнымі вачамі многа цямнейшыя за светлыя валасы. Ён глядзеў на Дашу з цікавасцю, але цікавасць гэту добра хавалі разумныя, крыху насмешлівыя вочы. «Малады, задаволены сабой»,— адзначыла Даша.

Скульптар пазнаёміў:

— Дар'я Міхайлаўна, гэта мой вучань, Сяргей.

Сяргей моцна пацісnуў ёй руку і сказаў бесцырымонна:

— Маэстра, мне здаецца, што лепшай мадэлі я не знайду. Мне пашчасціла.

Скульптар паглядзеў на Сяргея мяккімі бацькоўскімі вачамі, растлумачыў:

— Ён працуе над жаночым партрэтам.

Сяргей сказаў горача:

— Дар'я Міхайлаўна, я вас вельмі прашу... Усяго два ці тры сеансы...

— Ведаеце, у мяне амаль няма вольнага часу.

Ён глядзеў на яе ўмольна, нейкім прынікнёным поглядам, і Даша разгубілася.

— Калі гэта так трэба...

... Дзень быў цяжкі, і толькі ў чатыры гадзіны Даша ўспомніла пра сваё абяцанне маладому скульптару. «Якая недарэчнасць! Трэба было адмовіцца!» — дакарала сябе Даша. Да майстэрні пешшу амаль паўгадзіны, а ён ужо, відаць, даўно чакае... На вуліцы ўдарыў у твар водар першых кветак, маладой зеляніны. Толькі прайшоў дождж, і ўсё навокал чыстае. Даша ішла па асфальтавым тратуары, асцярожна ступаючы, каб не засталіся сляды ад абцасаў. Асфальт паклалі толькі ўчора, і ён яшчэ не паспеў як след зацвярдзець. Асфальт лёг няроўна, і цяпер дзе-нідзе блішчэлі на сонцы маленькія лужыны. Вецер хацеў гуляць з вадой, і лужына непрыязна моршчылася. Маленькаму хлопчыку спадабалася гэта гульня ветру і вады. Ён пастаяў, падумаў — і патэпаў у лужыну. Маці раззлавалася: «Вось я табе!..» Хлопчык нават не павярнуў галавы, падняў на Дашу ясныя блакітныя вочы і сказаў з добрай усмешкай:

— А я цябе застраляю,— падумаў і дадаў радасна: — пісталетам!

Маці пацягнула яго за руку:

— І не сорамна! Зусім, як п'яны дзядзька Антон.

Сяргея яна ўбачыла ля ўваходу ў майстэрню і здзівілася: куды толькі дзеўся той упэўнены малады чалавек! Сяргей нервова камечыў у руцэ чорны берэт. Твар бледны. І раптам Даша ўбачыла: сівізна! Колькі яму гадоў? Мусіць, яшчэ трыццаці няма.

— Прабачце, што я прымусіла вас чакаць.

Ён усміхнуўся неяк разгублена:

— Добра, што вы прыйшлі.— Ён паглядзеў на яе, нібы пытаючыся пра нешта. Сказаў шчыра: — Мне вельмі хацелася, каб вы прыйшлі...

Ён доўга мясіў гліну, потым углядаўся ў яе твар запытальным,

нейкім вострым позіркам. «Нервуецца»,— пашкадавала яго Даша. Але яна маўчала, глядзела, як ён курыць, як ледзь прыкметна дрыжаць моцныя пальцы. Раптам ён пачаў хутка ляпіць...

Потым на мастацкай выстаўцы экспанаваўся твор Сяргея Ветрава «Сакратар райкома». Аб ім пісалі ў газеце. А Дашы ўсё не выпадала пайсці паглядзець. Дарэчы было і павіншаваць аўтара, але дзень — не гумавы, яго не расцягнеш. Неяк Эла сказала:

— Сяброўка, ведаеш што? Бачыла я твой партрэт.

Даша ўсміхнулася:

— Чаму мой?

— Ну, ты вельмі падобна. Толькі ты там занадта прыгожая. Разумееш? Занадта.

— Не, не разумею. Скульптару трэба было, каб гэтая сакратарка была прыгожая. Пры чым тут я?

Эла ўскінула сваю кучаравую галаву:

— Пры тым. Гэта паказвае пэўныя адносіны да цябе. І яшчэ: Сяргей у мяне пытаўся пра цябе. Я б на тваім месцы...

— Мне трэба, мусіць, падзякаваць яму. Але сама бачыш, калі я вяртаюся дадому. Слухай, зрабі мне паслугу. Схадзі ў майстэрні, паглядзі, як там справы ідуць у Азарха. Ці хутка ён скончыць помнік піянеру. Спытай, можа яму што трэба. І, між іншым, перадай мае віншаванні Сяргею.

— З задавальненнем пайду і перадам. Толькі не крыўдуй потым! Я цябе папярэджваю: твой скульптар мне падабаецца.

Даша сказала:

— Ну, ён мой, як і твой. Жадаю табе, Элачка, поспеху.

Аднойчы ў нядзелю яна паехала ў лес. Перад тым увесь тыдзень адчувала сябе надта стомленай.

Толькі ўвайшла ў лес, пачула, як яе нехта паклікаў:

— Дар'я Міхайлаўна!

Ад нечаканасці ўздрыгнула, агледзелася. Убачыла Сяргея. Трохі адкінутая назад галава, і вочы ўсміхаюцца ад задавальнення. Дашы здалося, што ён прыслухоўваецца да нейкіх нячутных ёй гукаў.

— Эла сказала, што вы разам будзеце ў Зялёным. Вось я ўжо дзве гадзіны чакаю.

Даша адказала стрымана:

— Эла нешта дрэнна сябе адчувае, прыйшлося адной паехаць.

Сяргей пайшоў побач. Яны маўчалі. Даша раптам адчула, што рада бачыць тут Сяргея і што трэба неяк утаіць гэтую радасць.

— Дар'я Міхайлаўна, я хачу вам месца прыгожае паказаць. Вы не супраць? — прамовіў Сяргей.

— Не. А што там?

— Лясное возера.

— Вядзіце мяне ў тую прыгажосць.

Далей яны ішлі моўчкі. Раптам Сяргей прызнаўся:

— Калі працуеш, неяк не заўважаеш адзіноты. А сёння я зразумеў, што яна ўжо робіцца невыноснай.

Даша падумала: «Я магла б гэтак сказаць пра сябе».

— Чаму ж вам не скончыць з адзінотай, столькі прыгожых дзяўчат...— сказала і адчула няёмкасць.

Ён доўга не адказваў. Потым сказаў ціха:

— У маім жыцці, Дар'я Міхайлаўна, была дзяўчына. Каб не яна, я, мусіць, даўно б ажаніўся.

«Падобна на споведзь».

Даша ўсміхнулася і загадала:

— Раскажыце!

— Баюся стаміць вас. Але, калі хочаце, уявіце сабе,— ён задумліва паглядзеў удалеч.— Уявіце сабе сцежку, вузкую, ледзь прыкметную ў густой траве. Сцежка ідзе ад хаты, што схавалася за таполямі. Ні ветрыку. А сонца ажно б'е ў вочы. Усё быццам прытамілася і чакае. Раптам на сцяжынку выйшла дзяўчына. Паглядзела ў мой бок, паправіла валасы і пайшла насустрач. Я бачыў яе хвілін дзесяць, не больш. Але ведаў ужо, што ўсё жыццё чакаў яе. Сонца, нібы пражэктар, высвечвала яе твар, ласкавыя блакітныя вочы, строгія прамыя бровы, усю яе зграбную постаць. І мне здалося, што мы ўжо знаёмыя, што я ўжо ведаю і гэтыя вочы, і яе смех, і яе голас. Шчасце, нібы цёплая марская хваля, падхапіла мяне. Захацелася крычаць, бегчы ёй насустрач, але я, як зачараваны, глядзеў на яе і чакаў. Хвіліны цягнуліся, быццам хтосьці спыніў час. Сэрца стукала так, што, здавалася, вось-вось разаб'ецца. А яна, як у фільме, усё ішла да мяне і заставалася недзе далёка. А калі яна, нарэшце, падышла, я павярнуўся і пайшоў прэч. Дзіўная гісторыя, праўда?

Даша пацвердзіла:

— Так.

Ён памаўчаў, выцягнуў цыгарэту, але не запаліў.

— Гэта, Дар'я Міхайлаўна, вельмі сумная гісторыя.

— Я хачу, каб вы мне больш падрабязна расказалі.

— Тады слухайце. Гэта было ў сорак трэцім годзе. Дарога, па якой прайшла вайна. Зямля пераарана танкамі. А сонца нібы хоча спаліць усё жывое. У мяне баліць рана, баліць востра, боль аж да сэрца даходзіць. Хочацца піць. Разам са мной — сержант Андрэй Басалыга і пажылы салдат Новікаў. Мы ідзем у шпіталь. Толькі скончыўся цяжкі бой, ад нашай роты не засталося і палавіны. Як выйшаў жывы з гэтага агню — і зараз не разумею. Але я жывы і вось іду ў шпіталь. Андрэй расказвае нешта Новікаву, а я думаю пра сваё. Потым прыслухаўся: «Сын у нас нарадзіўся,— расказвае Андрэй.— Якраз перад вайной я іх абодвух у вёску да сваіх бацькоў адправіў. Такі жвавы ўжо быў хлопчык. Мянушку яму ў двары далі — Бацька Махно. Аднойчы ледзь у рацэ не ўтапіўся. Дзед кінуўся ратаваць. Ты думаеш, ён спужаўся? Не. Крычыць: «Дзед, капялюшык паплыў, капялюшык!» Я не бачыў твару Андрэя, але адчуў тую радасць, якую прынеслі яму ўспаміны. Раней я не здагадваўся, што гэта шчасце — быць мужам, бацькам. Мне раптам зрабілася страшна. Што, калі ў наступным баі куля трапіць не ў руку, а ў сэрца... Мы дайшлі да развілак і збочылі на прасёлачную дарогу, якая гублялася недзе ў густым лесе. У гэтым лесе размяшчаўся палявы шпіталь. Тут панавала дзівосная цішыня. Яна агортвала душу, гаіла боль. Аднекуль вылецела маленькая птушка, села на галінку і тоненька заспявала: жыць! жыць!

Не было ветру, але лісце ціха гойдалася ў чыстым паветры і ледзь чутнае «ша-ша-ша» было падобна на калыханку. Мне здалося, што ўсяго гэтага раней не было, што гэта ўпершыню, спецыяльна для мяне... Разумееце? Як падарунак...

Ніколі потым я так востра не адчуваў, якое гэта шчасце — жыць, дыхаць свежым паветрам, слухаць цішыню... Ніколі потым я так не чакаў кахання, высокага, чыстага.

Я прагна ўдыхаў смалістае паветра і марыў. Я марыў пра яе... Раптам прыйшла дзіўная думка: яна недзе побач, зусім блізка. І я амаль фізічна адчуў дзявочыя губы, тонкія пяшчотныя рукі...

Мусіць, я глядзеў на дарогу, бо першы ўбачыў жаночую постаць. Ля жанчыны стаяла нешта... Я напружыў зрок. Бітон, бітон ад малака. Я закрычаў радасна: «Хлопцы! Малако прынеслі, нас пачаставаць хочуць!»

Басалыга ўсміхнуўся: «Галоднай куме ежа сніцца».

Але я не памыліўся. Гэта сапраўды была жанчына з бітонам. Старая жанчына, мажная, у чыстай белай хустцы і шэрай, злінялай, але адпрасаванай сукенцы.

Вялізны, маўклівы Новікаў раптам неяк па-дзіцячаму ўзрадаваўся: «Маці нас малаком пачаставаць хоча!» Мы, як па камандзе, сказалі: «Добры дзень!»

Старая адказала чамусьці стрымана: «Добры дзень».

Новікаў адчуў гэту стрыманасць і спытаў: «Што, маці, малако прадаяцё?»

Старая пацвердзіла: «Ну, прадаю».

Я неяк раптам адчуў, як баліць рана, як пячэ сонца, як хочацца есці... Сказаў, здаецца, сам сабе: «Малака...»,— і пачуў сярдзітае: «Плаці грошы і пі!»

Грошы!.. Пра грошы я забыўся зусім. Ці ёсць яны ў мяне?

Я пачаў таропка шукаць па кішэнях. Не, нічога няма. Можа ва ўнутранай? Але і там грошай не было. Можа што аддаць замест грошай? Гадзіннік! Памацаў руку, але на руцэ і гадзінніка не было. Згубіў? Я ледзь не заплакаў ад роспачы. Можа спадарожнікі мае багатыя? Але яны просяць прадаць дзешавей. Мусіць, таксама не хапае...

Яны доўга спрачаліся са старой, а я без усякай надзеі зноў і зноў шукаў у сваіх кішэнях. Потым з пачуў, як весела булькала малако — лілося з бітона ў кубак. Я адвярнуўся, каб не бачыць, як п'е малако Андрэй — са стогнам, быццам тое малако гарачае і пячэ ў роце. Потым зноў весела булькала малако. Цяпер шумна, вялікімі глыткамі піў Новікаў. А я зноў глытаў сліну. Надыходзіла мая чарга. Я пачуў сухі, як трэск, голас старой: «Калі нічога няма, няхай здымае гімнасцёрку».

Як я раней не падумаў пра гімнасцёрку? Старая ў гэты момант здалася мне амаль добрай жанчынай. Спяшаючыся, я пачаў расшпільваць гузікі. Рукі дрыжэлі. Нарэшце, мне ўдалося расшпіліць. Толькі б яна не перадумала і не пайшла адсюль. Я кажу: «Зараз, зараз, пачакайце хвіліначку!» Але параненая рука перашкаджае. «Хлопцы, чаго вы стаіцё, памажыце мне». І чую сярдзіты голас Басалыгі: «Ты што, здурнеў? Які з цябе салдат без гімнасцёркі? Надзявай, я табе кажу!» І да старой: «Калі ты зараз, вядзьмарка, не дасі яму малака, застрэлю-ю!»

У нас няма зброі, але старая спужалася. «Я ж толькі так. Каму ахвота дарма сваё добрае аддаваць. Але калі няма, дык, як кажуць, не возьмеш...»

І вось я трымаю поўную кварту малака. Яно халоднае і салодкае. Я п'ю маленькімі глыткамі. Мае сябры разумеюць гэта і моўчкі чакаюць, пакуль я вып'ю. Мне чамусьці цяжка яго глытаць. Я спыняюся і выціраю з твару кроплі поту. І раптам бачу: на вузкай сцяжынцы дзяўчына. Яна ідзе да нас. Прыгожая, уся асветленая сонцам. Вецер раскідаў яе валасы і пабег далей па лузе. А яна не ідзе, а быццам паволі плыве ў зялёных хвалях. На пяшчотных дзявочых вуснах усмешка, чароўная, светлая. І я ведаю: для мяне гэта ўсмешка! І яшчэ ведаю, што кахаю дзяўчыну, як толькі можна кахаць на гэтай цудоўнай зямлі.

Яна зразумела маю нецярплівасць і пайшла хутчэй. Не дайшоўшы

некалькі крокаў, сказала радасна: «Мама! Ну чаго ж вы ў хату не запрашаеце?»

Мне раптам здалося, што, замест паветра, я глытаю нешта гарачае, горкае. Дзяўчына стаяла побач з маці і глядзела на мяне. Незразумелая крыўда сціснула мне сэрца. Я адвёў вочы, а потым павярнуўся і пайшоў прэч. Мае сябры крычалі нешта, я зразумеў, што мяне клічуць вярнуцца, але вярнуцца я не мог.

Потым Андрэй расказваў мне: дзяўчына доўга ішла за намі ўслед...

Некалькі хвілін яны ішлі моўчкі. Даша задумалася: «Навошта ён усё гэта мне расказаў!» Сяргей спытаў:

— Вы не стаміліся? Хутка прыйдзем.

Даша раптам адчула прахалоду. Сапраўды, лясное возера. Маленькае, схавалася ў хмызняку. Даша падышла да вады, сказала стрымана:

— Дзякуй за прыгажосць, сапраўднае русалчына царства.

Ён зняў пінжак, клапатліва рассцяліў на траве.

— Адпачніце, Дар'я Міхайлаўна.

Сам сеў воддаль, на пянёк. Спытаў неяк абыякава:

— Вы бачылі партрэт?

Яна адказала не адразу.

— Мне здаецца, вы ўдала перадалі заклапочанасць чалавека, на якім ляжыць...

Ён перабіў:

— Пакінем гэта. Зразумейце, я ляпіў жанчыну, якая мне падабаецца, без якой я не магу жыць, нарэшце, без якой я не магу дабіцца поспеху...

Ён падняўся, падышоў да яе і загаварыў горача, гледзячы прама ў вочы:

— Але жанчына гэта жыве ў сваім мінулым. А я хачу, каб яна прачнулася ад гэтага сну і ўбачыла свой сённяшні дзень. Паверце мне, Даша, у ім таксама многа сонца, многа вясны! Даша, можа гэта жорстка, што я скажу, але паспрабуйце заплюшчыць вочы і ўбачыць яго. У лепшым выпадку, вы ўбачыце фотакартку мужа, калі яна ў вас захавалася. Яго няма, а я вось стаю перад вамі, і вы бачыце маю радасць...

Даша слухала моўчкі і ўсё не магла зразумець, чаго больш, радасці ці болю, выклікаюць у душы яго словы. Яна адчула, як шырыцца, нарастае віхор думак і пачуццяў, зразумела, што гэтыя пачуцці і думкі жывуць неяк самі па сабе і не падпарадкоўваюцца ёй. І калі яго губы наблізіліся, яна раптам адчула смагу, страшную смагу падарожніка, які доўга блукаў па пустыні і нечакана апынуўся ля крыніцы жыцця.

— Што з табой, Даша?

— Не ведаю, не пытай.

Дадому Даша вярнулася пасля абеду. Эла сядзела за сваім старэнькім даваенным піяніна. Даша ўсміхнулася: хораша грае! Гукі сумныя, сцішаныя.

— Эла, памажы мне вячэру прыгатаваць. У цябе гэта лепш атрымліваецца.

Эла нібы не пачула. Даша падышла да шафы, адчыніла, агледзела небагаты свой гардэроб: шэрыя ды чорныя сукенкі. Колеры гэтыя ўвесь час здаваліся ёй бездакорнымі, а цяпер убачыла іх сумнымі, безжыццёвымі. Трэба купіць нешта другое.

— Эла, памажы! Сёння да нас Сяргей вячэраць прыйдзе.

Эла перастала іграць, апусціла галаву на прыгожыя белыя рукі. Потым спытала задумліва:

— Памятаеш, Даша, як я іграла на студэнцкіх вечарах?
— Памятаю. Ты добра іграла. І цяпер, калі ты за піяніна садзішся, я шкадую, што мяне не навучылі. Глядзі, пальцы ж у мяне доўгія, музычныя.
Эла з нейкай цікавасцю паглядзела на Дашыны пальцы і сказала:
— Не, не доўгія. Учэпістыя ў цябе пальцы!
Ноччу Даша чула, як прыглушана, у падушку, плакала Эла.

Радасць прыйшла як узнагарода за многа суровых дзён. І добрае, і дрэннае, што было ў жыцці, неяк адступілася. У лепшыя хвіліны Дашы здавалася, што жыццё толькі пачынаецца, і будзе яно цудоўным. Але, застаўшыся адна, Даша раптам пачынала адчуваць трывогу. І тады абуралася сэрца: «Адкуль гэта трывога? Чаму я не маю права на звычайнае чалавечае шчасце». Розум адказваў: «Права маюць усе, толькі шчасце — рэдкі госць».
Неяк міжволі ўсё параўноўвала Сяргея з Паўлам. І выходзіла: «Павел бы гэтак не зрабіў».
Хацелася вярнуць той настрой, тую радасць, што адчула там, у Зялёным. Неяк у нядзелю Даша папрасіла:
— Сярожа, паедзем зноў у Зялёнае.
...На лясной паляне Даша залюбавалася бярозай.
— Паглядзі, Сярожа!
Сяргей падышоў.
— І сапраўды, лясная прыгажуня. Уся свеціцца ад сонечнай ласкі. На цябе падобная...— Сяргей паклаў руку на жончына плячо.— Наіўная, занадта адкрытая... Не ўмее і не хоча нічога хаваць!
Даша асцярожна зняла Сяргееву руку з пляча, узяла яго тон:
— Вунь глядзі, дзве елачкі, як дзяўчынкі ў кароткіх спаднічках. Мусіць, прыбеглі сюды, каб ад ветрыку схавацца.
Ён усміхнуўся:
— Але, тут іх лёгка ўбачыць!
— А можа, яны хочуць, каб убачыў, каб дагнаў!
Сяргей рассмяяўся звонка, і Даша падумала, што ўсмешка робіць яго твар зусім хлапечым.
— А чуеш, Даша, старая елка парыпвае сваім пратэзам незадаволена. Ты аб чым задумалася? Не падабаецца табе тут?
— Ёсць, Сярожа, у лесе нешта высокае, таямнічае. Мне заўсёды тут хораша...
— Мне таксама, асабліва, калі побач такая прыгожая жанчына!— Сяргей паглядзеў на жонку, убачыў цень незадаволенасці.— А каб яна не злавалася, я зараз прынясу кветак.
Ён сапраўды пайшоў і вярнуўся з вялікім букетам. І Даша сумелася, як дзяўчына, схавала твар у буйныя кветкі. Потым падняла галаву, усміхнулася ласкава, пяшчотна:
— Дзякуй, Сярожа! Ты ў мяне сёння галодны!
Ён сеў побач. Недзе зусім блізка заспявала птушка. Сяргей падняў галаву, прыслухаўся:
— Салавей!
— Не, салаўі толькі вясной спяваюць.— Яна глядзела на Сяргея; у яго вачах быў блакіт неба, і ад гэтага яны рабіліся глыбокімі. Ён сказаў задумліва:
— Мне б кавалак хлеба ды гэтыя яблокі. І яшчэ — каб ты была побач.

Даша ўсміхнулася:

— Пра аблокі нешта не зусім так. Але ўсё роўна. Тут хораша!

Ён працягнуў да яе руку. І, каб супакоіць яго, Даша перамяніла размову.

— Сярожа, а як твой маэстра? Атрымаў прэмію за помнік піянеру?

— Не, прагаласавалі супраць.

— Шкада. Зусім жывы Юрка. Быццам ён ведаў хлопчыка... І што, Сярожа, большасць была супраць?

Сяргей, старанна дажоўваючы бутэрброд, сказаў абыякава:

— Усе.

— Значыць, і ты?

...Даша прачнулася з пачуццём нейкай незразумелай трывогі. Доўга ўглядалася ў Сяргееў твар, асцярожна пагладзіла яго валасы. «Што ты за чалавек, Сярожка? Смяешся, жартуеш. Усё шалупінка, шалупінка, а дзе ж ядро?»

Раптам адчула, што не хоча размовы з Сяргеем. Хутка апранулася, выйшла на кухню. Паставіла на прымус чайнік. Сняданак — яешню з хлебам — з'ела стоячы. Пакуль астываў чай, пераапранулася. Дзверы зачыніла асцярожна: няхай яшчэ паспіць.

У кабінеце на стале ляжала пісьмо ад Жэнькі. Таропка разарвала канверт. Прабегла першыя радкі: «Мама, вазьмі мяне. Я не хачу больш з ёй жыць...»

«Яна» — Ліза, мачаха. Даша прыціснула руку да грудзей, загадала сабе: «Супакойся!» Каторы ўжо раз трэба было перамагчы непрыязнасць да Лізы. А непрыязнасць гэта жыла даўно, недзе ў самай глыбіні душы. Рэўнасць? Не, не тое. Пасля жаніцьбы Барыса размаўляла з Лізай: «Барыс добры, высакародны чалавек». Ліза паглядзела на яе нейкімі абыякавымі вачамі, сказала: «Не ведаю. Але ж не маладыя ўжо і з дзіцем...».

«Каб было ў цябе пачуццё, верыла б: ён самы лепшы на свеце...»

Гэта было першае непрыемнае адкрыццё. Потым заўважыла: за няшчырай пяшчотай да Жэнькі тоіцца раздражненне, а можа, і злосць.

Гэтыя пастаянныя скаргі на хлопчыка: «Вучыцца не хоча! Што з яго будзе?»

Здавалася, Ліза прымірылася і з шумнай радасцю Жэнькі: «Мама прыехала!» і з сумнай усмешкай Барыса: «А мы думалі, ты ўжо пра нас забылася...» Ліза сустракала яе амаль ветліва і добразычліва. Толькі аднойчы ў цеснай кухні, калі Даша з Жэнькам снедалі, пранесла чайнік з варам над самай галавой хлопчыка. Даша ледзь не ўскрыкнула, паглядзела на Лізу і ўбачыла, як згасаў у яе вачах агеньчык злой урачыстасці. І Даша зразумела, што зроблена гэта спецыяльна для яе, каб напалохаць, а можа, і каб адпомсціць за пачуццё да хлопчыка, за яго любоў.

З таго часу, як у Лізы нарадзілася дачка Тонечка, яна амаль не тоіць варожасці. Даша разумела: чалавек імкнецца быць самім сабой. Стамілася здавацца добразычлівай... А можа таму, што адчула: становішча ўжо трывалае.

Трэба ехаць, забраць Жэньку. А як да гэтага паставіцца Сяргей? Нарэшце, гэта не мае значэння.

У кабінет пастукалі, і Даша адразу ўбачыла сівую галаву скульптара Азарха:

— Праходзьце, Рыгор Сямёнавіч!

Ён, не спяшаючыся, паставіў кіёчак, сеў:

— Мяне да вас, Даша, трывога прывяла: — Памаўчаў, растлумачыў: — За Сяргея хвалююся. Ён вам нічога не гаварыў?

Даша ўспомніла пра тое, што і Сяргей быў супраць прэміі, спытала:

— Пра што?

— Збіраецца зрабіць рэвалюцыю ў мастацтве.— Стары скульптар нявесела ўсміхнуўся.— І тут ён памыляецца. Гэта не новае слова ў мастацтве. Справа ў тым, Дар'я Міхайлаўна, што гэта ўжо было. І ў мінулым былі людзі, якія хацелі лёгкага поспеху. Яны дэфармацыю, скажэнне формы выдавалі за новае ў мастацтве. А я заўсёды вучыў Сяргея: трэба ведаць анатомію, анатомію і яшчэ раз анатомію. Калі табе трэба зрабіць чалавека ў ватоўцы, ты павінен усё роўна адчуць кожны яго мускул, кожную мышцу. А ён кажа, што не збіраецца выседжваць свае творы, як курыца на яйках.— Стары зноў усміхнуўся.— Гэта ён мяне мае на ўвазе.

Даша глядзела на строгі, быццам асветлены знутры, твар, зазірнула ў вочы, спытала:

— А чым я магу памагчы Сяргею?

— Сам не ведаю. Толькі калі хто-небудзь і можа памагчы, дык гэта вы... А Сяргей здольны хлопчык, вельмі здольны...

— Добра, я пайду пагляджу, што ён там робіць...

Стары скульптар пайшоў, а Даша яшчэ доўга думала пра Сяргея, пра старога Азарха.

...Дзверы майстэрні былі зачынены, і Даша пастукала. Адчынілі не адразу. Сяргей неяк спалохана паглядзеў на жонку. Даша не адразу ўбачыла дзяўчыну. Твар бледны, быццам з гіпсу. Танклявая, з вельмі светлымі валасамі. На Дашын «добры дзень» не адказала, разгубілася. Ледзь прыкметныя тонкія зморшчынкі ля рота — сляды жыццёвых расчараванняў ці адзіноты, маленькі рот з густа пафарбаванымі губамі чамусьці нагадаў Дашы рану. Нервова павярнулася да акна, пачала штосьці разглядаць. Бліснула сіне-зялёная завушніца: кропля мора ў тонкай залатой дужцы. «Ёсць густ»,— адзначыла Даша. Вецер уварваўся ў акно, падняў лёгкія валасы. Бярозка... Толькі, здаецца, ужо зламаная.

Мусіць, трэба сабрацца з думкамі, растлумачыць неяк, чаму прыйшла... Спытала:

— Сяргей, ты мадэль сваю яшчэ доўга будзеш трымаць?

«Мадэль» павярнулася, пагардліва паглядзела на Дашу, быццам хацела сказаць: «Не разумееш, хто я для твайго Сяргея, ці не хочаш зразумець?»

Даша бачыла, як сышло напружанне з Сяргеевага твару.

— Я, Даша, яшчэ паўгадзіны папрацую і прыйду.

«Усё ж такі трэба нешта растлумачыць... Яшчэ падумае, што я ведала, сачыла»,— Даша расчыніла сумачку, дакранулася да нейкіх паперак і сама здзівілася, як спакойна прагучаў голас:

— Я ўзяла білеты ў кіно, але ў цябе такі натхнёны выгляд...— Яна паглядзела Сяргею прама ў вочы.

Сяргей не вытрымаў яе погляду, апусціў галаву.

З дальняга кутка глядзеў на Дашу мужны прыгожы твар удавы Сун Ят-Сена. Зусім блізка застыла ў ціхім спачуванні старая. Адразу відаць — маці... Даша зрабіла некалькі цяжкіх крокаў — і выйшла.

«Як паводзіць сябе далей? Можа, сапраўды мадэль? Хто ведае? Нельга так! Як раўнівая баба... Зрабіць выгляд, што нічога не здарылася? Ці лепш сабрацца, паехаць за Жэнькам?»

У калідорчыку было чыста прыбрана. Значыць, Эла прыходзіла. Сапраўды, Эла стаяла на каленях ля шафы. Сказала незадаволена:

— Зноў у цябе шурум-бурум. Калі ўжо той парадак будзе?

— Не злуй, Эла. Я сёння вельмі стамілася.

Эла села побач на канапу, сказала ціха:

— А я да цябе, Даша, параіцца прыйшла... Памятаеш таго лётчыка, што мяне ўсё прыходзіў сустракаць. Ён заўсёды быў з хлопчыкам, малодшым братам. Я здагадалася... Ён амаль сляпы.

Даша ўважліва паглядзела на сяброўку:

— І ты хочаш выйсці за яго замуж?

Эла ўскінула кучаравую галаву, сказала з выклікам:

— Так.

— Ты яго шкадуеш ці любіш?

Эла доўга не адказвала, потым спытала, нібы сама ў сябе:

— А можа гэта адно і тое ж, га, Даша?

Даша не адразу адшукала новую кватэру Рагоўскіх. Адчыніў Жэнька, гукнуў радасна:

— А цёткі Лізы няма дома!

Вялікая кватэра здалася Дашы цеснай. Усё застаўлена дарагой мэбляй.

— Ну, як ты, сыночак?

— Я, мамка, да цябе ехаць сабраўся. Угавары тату, каб адпусціў.

— А чаму ты цётку Лізу крыўдзіш?

— Я не крыўджу, толькі яна манюка ды злая.

— Як гэта — манюка?

— А ўчора раніцай з Ганнай Маркаўнай па тэлефоне размаўляла: «Прыходзьце да нас на «беляшы» з Іванам Міронавічам». Гэта таткаў начальнік. А потым вечарам яна татку скардзілася: «Зноў гэтая таўстуха будзе мне ўвесь вечар галаву дурыць!»

Даша не вытрымала, усміхнулася і спытала:

— А татка што?

— Ён кажа: «Навошта было іх запрашаць?»

Вечарам, калі Жэнька лёг спаць і Ліза з далікацтва затрымалася на кухні, Барыс сказаў:

— Даруй мне, Даша. Я даўно зразумеў, што толькі ты магла б хлопчыку замяніць маці. А калі зразумеў, спужаўся. Што, калі скажаш: «Ажаніўся, дык і дзіця нэ патрэбна стала!» Толькі якое маё шчасце, сама бачыш... І нічога ўжо не зменіш: сівы стаў, стары.— Ён сумна ўсміхнуўся, сказаў: — А ты ўсё прыгажэеш!

Даша пашкадавала: «Сапраўды, пастарэў». Сказала:

— Ведаеш, ёсць паданне. Прайшоў чалавек многа цяжкіх дарог. На галаву лёг пыл. Хацеў стрэсці, аж гэта — сівізна.

Зайшла Ліза, прынесла чай і адразу выйшла. Барыс пачаў піць — доўгімі глыткамі, быццам яго мучыла смага. Даша адчула, што ён нервуецца. Мусіць, з-за Жэнькі... Ён сказаў, гледзячы кудысьці ўбок:

— Мне гэты твой нечаканы замуж неяк не па душы...

— Чаму?

Барыс паглядзеў ёй прама ў вочы, сумна, з болем:

— Можа, раўную...

Каб перамяніць тэму, Даша спытала:

— Дык аддасі Жэньку?

— Не, няхай давучыцца. А летнія канікулы пачнуцца, адразу паедзе да цябе.

Даша шкадавала Элу, маладая, прыгожая, як яна там са сляпым? Злавалася на сябе за гэтае спачуванне: «Што, каб Павел вярнуўся сляпы, ты б любіла і была шчаслівая. Але ж гэта не адно і тое ж! Элка з жалю пайшла за яго. Відаць, не магла адмовіць. Можа, трэба было тады адгаварыць? Яна ж раіцца прыходзіла...»

Даша ўсё збіралася пайсці праведаць Элу, паглядзець, як яны там. Але ўспамінала сляпога лётчыка і зноў адкладала: як-небудзь другім разам...

Дачакалася, пакуль Эла не запрасіла на радзіны. Сяргей, даведаўшыся пра запрашэнне, узрадаваўся. Даша падумала: «Мусіць, і для яго цяжкімі сталі вечары, калі няма пра што размаўляць».

...Дзверы адчыніла Эла, крыху распаўнелая, вясёлая:

— Праходзьце, праходзьце!

Праз шкляныя дзверы ў пакой Даша ўбачыла шырокую спіну, прыгожую чарнавалосую галаву. Чалавек неяк цяжка павярнуўся, адчыніў дзверы і нечакана вясёлым басам спытаў:

— Эла, гэта Даша? Вы Даша? Прызнавайцеся. У Дашы павінен быць такі голас.

Ён усміхнуўся. Усміхаліся вочы, усміхаліся густыя чорныя бровы... І Даша здзівілася, як ён мог захаваць такую жыццярадаснасць? Ля гэтага чалавека, мусіць, сапраўды жыць добра.

Эла ўзяла яе за руку, пацягнула да дзіцячага ложка. Даша ўбачыла маленькі тварык, неяк па-старэчаму пакрыўджаны. «Трэба нешта сказаць. Але што?» Даша ніяк не магла знайсці тое незвычайнае ў абліччы дзіцяці, чаго чакала шчаслівая маці. Здаецца, трэба сказаць пра падабенства.

— Элачка, дзяўчынка падобна на цябе.

Эла адказала незадаволена:

— Няўжо ты не бачыш? Яна ж копія бацькі!

Падышоў Сяргей, спрытна паправіў коўдру, усміхнуўся дзіцяці.

Даша пачала памагаць Эле накрываць на стол. І раз-пораз кідала позірк на Сяргея. Было відаць, што яму няёмка вось так, нахіліўшыся, стаяць ля дзіцячага ложка, але ён не зважаў. Глядзеў у маленькі тварык з нейкай неадольнай пяшчотай. І Даша раптам падумала, што ў гэтай яго замілаванасці, у гэтай цікавасці да дзіцяці ёсць нешта асабістае.

Па нейкай незразумелай асацыяцыі прыгадалася тая «бярозка», якую Даша сустрэла ў Сяргеевай майстэрні. Быў у яе поглядзе выклік і нейкае пачуццё перавагі. Што б магло даць ёй гэта пачуццё? Можа, адчуванне будучага мацярынства?

Увесь дзень думала, ці варта распытваць Сяргея. Можа лепш маўчаць. Няхай усё ідзе, як ішло.

Калі вярнулася дадому, Сяргея яшчэ не было. Даша падышла да люстэрка, доўга разглядала пахуднелы твар, потым правяла пухоўкай па ледзь прыкметных зморшчынках, ярка нафарбавала губы. Звычайна Даша не карысталася фарбай. Цяпер ёй хацелася глядзець па-маладому, дзёрзка, з выклікам. Але ў люстэрку быў твар разгублены і стомлены...

Ёй здалося, што Сяргей занадта доўга распранаецца ў калідоры. Зайшоў і неяк абыякава спытаў:

— Ты куды-небудзь збіраешся?

Раней бы ён сказаў: «Мы куды-небудзь пойдзем?»

— Так, хацела да Вольгі, ды нешта стамілася...

«Гэта ж Вольга вучыла, каб ніколі не скардзілася мужу на стомленасць, на хваробы. Але сёння ўжо гэта не мае значэння».

Яна пачала рыхтаваць вячэру. Пасцяліла белы абрус, кубкі ўзяла з новага сервіза. Калі муж скончыў вячэраць, спытала, нібы між іншым:

— А як у цябе, Сярожа, з той «мадэллю»? — Даша памаўчала. «Толькі б не выдаць хвалявання!» — Памятаеш, там, у майстэрні? Ты нават забыўся нас пазнаёміць.

— Навошта табе?

Ён падняўся, узяў з палічкі цыгарэты, але не закурыў. Сказаў нервова, як ніколі яшчэ не гаварыў:

— Хочаш яшчэ раз падкрэсліць, што я не анёл? Дык я пра гэта ўжо ведаю. І што ты вышэй за мяне ва ўсіх адносінах, я таксама адчуваю.— Ён змоўк, потым сказаў спакойна, як даўно вырашанае: — Можа таму мне, Даша, цяжка жыць з табой.

Ён перастаў хадзіць па пакоі, сеў насупраць у крэсла, спытаў:

— Ты пра Лену?.. Дык у яе дзіця нарадзілася... Маё дзіця.

— Я здагадалася пра гэта... Учора, калі ты глядзеў на Эліна дзіця...

Ён доўга закурваў цыгарэту, ламаліся запалкі.

— Даша, не думай пра мяне так дрэнна. Ну, памыліўся, але павер, я не да канца... Я дакажу табе.

Яна сказала спакойна:

— Сярожа, чаму ты раней не сказаў пра дзіця? Ты ж ведаеш: у нас ужо даўно нічога няма.

— Я так не думаю...

Яна маўчала. Хацелася паверыць, пачуць яшчэ нейкія доказы таго, што не ўсё яшчэ скончана, што ўсё будзе, як было. Сяргей не сказаў больш нічога.

Даша зноў прыгадала яго замілаваны, пяшчотны твар над дзіцячай калыскай. Уявіла «бярозку», бездапаможную, з дзіцем. Здаецца, думала пра сябе, а сказала цвёрда, уголас:

— Яна там адна з дзіцем. Ідзі, Сяргей! Ідзі зараз жа. Так будзе лягчэй і табе і мне.

Мякка, неяк далікатна зачыніліся за ім дзверы. І ў пакоі зрабілася ціха, зусім ціха.

Даша села на канапу. Адсюль было відаць, як разбегліся па небе касматыя зорачкі, як круглатвары месяц няўклюдна каціўся па фіялетавых хмарах.

На пакрытым белым абрусам стале ў зялёнай шкляной попельніцы дыміцца Сяргеева цыгарэта. Жывая, шэрая пасмачка дыму паўзе па пакоі. Праз адчыненую фортку ўрываецца марознае паветра. Шэрая пасмачка ўздрыгвае, але праз момант зноў упарта паўзе. А цішыня, густая, цяжкая, падступае ўсё шчыльней. Трэба ўстаць і разарваць яе, але няма сілы падняцца. Рыпнуў снег пад акном. Можа Сяргей вярнуўся? Не. Прахожы. Успомніла маці, Жэньку. Усе пакінулі. Як калісьці ў дзяцінстве, стала шкада сябе. А цішыня ўсё нарастае і звініць, як раптам абарваная струна. Даша падняла руку і штурханула попельніцу. Кавалачкі шкла заблішчэлі на падлозе, і святло люстры зайграла ў тонкіх асколках. Яна не стала збіраць шкло. Надзела паліто, цёплую матчыну хустку — і выйшла. Вецер адразу ўдарыў у твар, у грудзі, быццам хацеў памерацца сіламі. Даша пастаяла, перавяла дыханне. Потым рашуча пакрочыла наперад. Вецер прыняў выклік. Але дзіўная справа: ён тым часам неяк падтрымліваў, не даваў сагнуцца.

Быў позні час, і рэдкія прахожыя спяшаліся. Даша з зайздрасцю думала, што вось нехта чакае гэтых людзей. «Толькі б хутчэй скон-

Нясу білет партыйны праз гады,
Як нёс калісьці гальштук піянера.



Як пра цябе гаворым многа-многа,
І колькі песень складзена, скажы!
Ты для мяне — жыццёвая дарога,
З табой вазьму любыя рубяжы.
З табой я на баявой паверцы,
Я ў коласе тваім — адно зярно.
Ты — пульс жыцця. Ты — кроў мая.
Ты — сэрца.
А сэрца у мяне, як ты, адно.

ПАЭЗІЯ





## Валянцін ЛУКША



*У кастрычніцкія дні 1917 года шафёрская прафесія прывяла сялянскага хлопца з Віцебшчыны Гарохава ў Смольны. М. І. Ульянава пісала: «Ведаю Л. Ц. Гарохава з 1917 года. З першых дзён Кастрычніцкай рэвалюцыі ён, працуючы шафёрам, абслугоўваў У. І. Леніна».*

Імчыць таварыш Гарохаў да Горак,
Націскае на ўсе педалі...
Палягчэла Леніну.
Гора,
Як гара, з нашых сэрцаў зваліцца.

Вецер сіпла за шклом уздыхаў,
Пралят*алі шэрыя хаты...
«Эй, баргузин, пошевеливай вал —
Слышатся грома раскаты».
Навальніца гула,
                    як прыбой.
Толькі прама!
                Нікуды не збоч!
І здаецца дарога ракой,
Як Дзвіна
          ў вераб'іную ноч.
Слухаў Ленін
              любімую песню,
І святлом
          свяціліся вочы,
І спявала ўсё ўзлессе,
І спявала ўсё ўрочышча.
Песняй,
        шчырай песняй сагрэты,
Ленін
      ціха пайшоў у дом...
І грымеў
        над сіняй
                  планетай
Кастрычніцкі
            гром!



Адчуў я:
           неабходна чалавеку,
Што пабываў у шмат якіх краях,
Як на вядомы шлях «з вараг у грэкі»,
Здаля зірнуць на свой жыццёвы шлях.
Пакратаць пачарнелыя далоні,
Узважыць,
           што зрабіў ты у жыцці,
Які ты ўчора быў,
                  які ты сёння,
У кут свой,
            бы ў чысцілішча, увайсці.
...Мне вільгаццю чароўнай Іпакрэна
Была крыніц празрыстая вада.
Узвізгваў вецер сіпла, як сірэна,
Ў нацятых, нібы струны, правадах.
Чырвоныя таполі і асіны
Стаялі сіратліва ўзбоч шашы.
Тут не было ні казкі, ні быліны,
Тут не было, наогул, ні душы.
Тапографы, як слугі медыцыны,
Прашчупвалі шчаціністае ўзлессе,
І заімшэлыя, кашлатыя яліны
Бубнілі у бары лясную песню.
Мы ўсё прайшлі:
                  і маразы і ліўні.
Мы ўсё змаглі,
               і поступ наш відзён:
Расказваю я сыну, як быліну,
Усю праўду тых цяжкіх,
                       гарачых дзён.

ПРОЗА



● Аляксандра УС

● Мал. С. ВОЛКАВА

# КАЦЯ-КАЦЯРЫНА

АПАВЯДАННЕ



зяўчаткі, ці няма мне ліста?

Кацярына Пятроўна зірнула ў прачыненыя дзверы свайго кабінета. Над шкляной загародкай, нібы адрэзаная ад тулава, тырчэла галава з залысінамі над ілбом і рэдзенькімі бялявымі кучарамі над скронямі. Светлыя вочы пад прыпухлымі павекамі пазіралі стомлена і паблажліва.

— Дык гляньце, калі ласка. Ліст Аляксею...

Парыў скразняку ўварваўся ў пакойчык, бразнуў дзвярамі. Кацярына Пятроўна ўстала з-за стала, падышла да акна.

«Ён... Адкуль? Чаго?..»

На шасціграннным гадзінніку, што вісеў на сцяне, стрэлкі, здаецца, зусім не рухаліся. Як прыклееныя...

Ёй прыпомнілася «ўчора», якое было. У такі самы майскі дзень, толькі назад таму некалькі гадоў. Дзень цягнуўся марудна, проста не вытрываць. Каця раз-пораз кідала погляд на сцяну, дзе высока, аж пад столлю, вісеў шасціграннны гадзіннік. А да акенца, за якім яна працавала, усё ішлі ды ішлі людзі. Адны пыталіся: «Гляньце, калі ласка, ці няма мне ліста?»

Знайшоўшы патрэбны канверт, яна падавала яго ў акенца. Некаторыя ўсміхаліся, не здолеўшы захаваць сваю радасць і, падзякаваўшы, адыходзілі. А Каця радавалася, нібы сама атрымала вестку ад харошага чалавека.

Але ёй ніхто не слаў ні лістоў, ні віншавальных паштовак, ні тэлеграм. Сваякоў у

яе не было. А хлопчыкі, з кім яна расла ў дзіцячым доме, рассыпаліся па белым свеце і не падавалі аб сабе вестак, хоць і цвёрда дамаўляліся пры развітанні пісаць.

Часам Каці вельмі хацелася атрымаць пісьмо. Можа таму так шкада было тых, каму яна мусіла адказваць: «На ваша імя нічога не паступала».

Каця тады адчувала сябе нібы вінаватай. І яна дадавала: «Вам яшчэ пішуць, заходзьце часцей».

Вось хоць бы той высокі з бялявымі кучарамі хлопец. Каторы раз прыходзіць! І хто гэта не знойдзе часу напісаць яму? Што там за дзяўчына! А можа і жонка? На Кацін розум, дык яна пісала б яму штодня, а можа і два разы на дзень — раніцай і ўвечары. Праўда, яна яшчэ нікому лістоў не складала.

І раптам Каця загадала: прыйдзе ён сёння ці не прыйдзе? Ці прасуне ў акенца сваю кучаравую галаву, сагнуўшыся? Нешта дзіўнае, няўцямнае кранула яе сэрца. І невядома адкуль падкралася нечагодная думка: а што, каб дакрануцца хоць кончыкамі пальцаў да кучаравай галавы....

Дзень канчаўся. «Мусіць, не прыйдзе,— падумала Каця.— Шкада!»

І раптам над шкляной загародкай паказалася знаёмая кучаравая галава.

— А вам зноў нічога няма,— ледзь стрымліваючы радасць, прамовіла Каця.

— Вельмі, вельмі шкада,— абыякава кінуў хлопец. На яго твары Каця не заўважыла засмучэння.

Шкада, а сам не шкадуе. Вось і паспрабуй зразумець чалавека! Хоць да гэтага часу Каці здавалася, што яна з першага позірку разумее сваіх кліентаў.

Стрэлка гадзінніка тым часам падышла да сямі. Каця ўзялася парадкаваць сваю няхітрую гаспадарку, замкнула шуфляды, ускінула на руку пашарпаную сумачку і накіравалася да дзвярэй.

Хлопец чакаў на ганку.

— Дазвольце праводзіць вас...

Каця, нечакана для сябе, моўчкі кіўнула галавой.

Яны ішлі і ўвесь час размаўлялі.

Пра што яны гаварылі? Пра ўсё на свеце. Пра дзіцячы дом і пра хлопцавага бацьку, вядомага інжынера. Пра дубовую граду за горадам, што па-над ракой,— там ціха і сонечна, а пад нагамі шаўкавістая, мяккая трава. І пра Ваенна-Грузінскую дарогу: летась Аляксей прайшоў па ёй з турысцкай групай. Яна расказвала пра вячэрнюю школу, а ён, усміхаючыся, тлумачыў, што сучасная фізіка дапускае магчымасць падарожжаў у «машыне часу». Скажам, саракагадовы прафесар закахаўся ў семнаццацігадовую лабарантку. Занадта вялікая розніца ўзростаў, і вучоны ляціць у міжпланетнае падарожжа. Ён вяртаецца, яму 41 год, а яго выбранніцы тым часам мінула трыццаць тры...

Каця, нібы зачараваная, пазірала Аляксею ў твар і хапала на ляту кожнае слова. Які ён разумны!

Яны пачалі часта сустракацца.

Нарэшце настаў той момант, якога са стоеным страхам чакала Каця. У Аляксея скончыўся тэрмін практыкі.

— Ты праводзіш мяне на станцыю?

Толькі падумаць: праз якой паўгадзіны цягнік памчыць яго далёка-далёка, і ён больш не падыдзе да ганка пошты, каб чакаць яе, Кацю.



Нібы ў нейкім сне, яна ступіла на перон. Людзей было небагата. Але што ёй да іх! Яна праводзіць чалавека, з якім так не хочацца разлучацца!

Апошняя хвіліна. Павольна кранаецца з месца поезд.

— Хутчэй, хутчэй сядайце! — крычыць Каця.

І тут Аляксей, моўчкі ўсміхаючыся, схапіў яе ў абдымкі і моцна пацалаваў у вусны. Поезд ужо набіраў ход, калі ён ускочыў на падножку. Каця ж не кранулася з месца, нібы прырасла да зямлі.

— Каця, я буду вам пісаць. Бывайце, Кацярынка...

...І пачалося зусім другое жыццё. Зусім непадобнае на тое, што было раней. Перабіраючы ў памяці кожнае слова, сказанае Аляксеем, Каця думала: напіша ці не напіша? Надзея змянялася трывогай. Ну што ён можа пісаць ёй? Студэнт-выпускнік, без пяці мінут інжынер, а можа і вучоны. А яна?

Каця нічога не расказвала дзяўчатам з пошты. Нават найлепшая прыяцелька Маша не ведае, што ў яе на душы. Але хіба схаваеш? Маша ўсё разумее і без слоў.

— Гляджу я на цябе, дзяўчына, і бачу: закружыў табе галаву той кучаравы!

— Што ты, што ты! — не згаджаецца Каця. Але ж хіба схаваеш тое, што так хвалюе?

Поўныя трывог, хваляванняў, сумненняў і надзей бягуць дні. Удзень — лісты, тэлеграмы, пераводы, а ўвечары — школа. Часам Кацы пачынае здавацца, што сустрэчы з Аляксеем нібы і не было, быў толькі добры, прыемны сон, які пакінуў нешта цёплае і светлае ў душы.

І вось настала раніца, калі дзяўчаты сустрэлі яе словамі: «А ну, паскачы, табе паштоўка прыйшла!»

Каця аж змянілася ў твары.

— Кіньце вы! — заступілася Маша.—Хіба не бачыце, што дзяўчына збялела ўся?

А што было ў той паштоўцы? Нічога, апрача таго, што даехаў добра і чакае ад яе ліста. І ўсё ж яна паміж радкоў чытае вельмі многае. Добра, што даехаў да месца. Добра, што не забыўся напісаць. Добра, што чакае яе ліста.

Толькі цяпер Кацярына зразумела, як нялёгка адказаць на ліст. Яна доўга-доўга думала, з чаго пачаць. Напісаць тое, што адчувала ў сваім сэрцы, яна не адважвалася. А што падумае Аляксей? Пасмяецца: вось, скажа, правінцыялка, убачыла і — растала. Пісьмо атрымалася стрыманае, не такое, як хацелася б.

Ці адкажа ён? Адказ прыйшоў неўзабаве. Кароценькі, немнагаслоўны: як маецеся, юная лэдзі Кэт, што чытаеце, з кім страчаецеся, як вашы школьныя поспехі?

О, цяпер ёй было што пісаць! І пра спектакль сталічнага тэатра, які гастраляваў у іх, і пра герояў прачытанай кнігі, і пра новы кінафільм. А што Аляксей думае пра ўсё гэта? Ці супадаюць іх думкі?

Лісты прыходзілі не вельмі часта, але як радавалася Каця! Не бяда, што напісана ўсяго паўстаронкі: пабываў у навуковай экспедыцыі, цяпер рыхтуюся да экзаменаў.

Скончана школа. У нядзелю выпускны вечар. Каця даўно надумалася паступіць у інстытут сувязі, будзе вучыцца завочна. Так і напісала Аляксею.

Празвінеў апошні званок. Адспявалі і адтанцавалі на выпускным вечары. Узбуджаная і радасная, Каця, вярнуўшыся дамоў, заўважыла на падушцы блакітны канверт з такім знаёмым почыркам, які яна пазнала б сярод тысяч іншых канвертаў. Відаць, Маша, добрая душа, прынесла яго з пошты. Схапіла канверт у рукі, разарвала, і — радкі расплыліся перад вачамі.

*«Добры дзень, Каця! Толькі што абараніў дыплом. Думаю паступаць у аспірантуру. І яшчэ адна падзея, немалаважная для вашага добрага знаёмага: праз тыдзень будзе маё вяселле. Яна — дачка прафесара, добрая музыкантша, у яе вялікія блакітныя вочы. Здаецца, разумная. І, безумоўна, прыгожая. Павіншуйце мяне і пажадайце шчасця...»*

Каця скамячыла лісток і кінулася на ложак. Слёзы душылі яе, не хапала паветра. Ёй хацелася закрычаць. Ледзь стрымала сябе, баючыся разбудзіць гаспадыню за тонкай пераборкай. Ціха плакала ўсю ноч, не заплюшчыла вачэй.

Што напісаць Аляксею? Ці можа лепш маўчаць?

Разоў дзесяць бралася за аловак, пачынала пісаць, кідала, перачытвала і камечыла паперу.

Адказ так і не напісала.

Ішлі гады. Аляксей не падаваў аб сабе весткі. І вось... з'явіўся...

— Добры дзень, Кацярынка!

— Кацярына Пятроўна,— паправіла яна.

Патаўсцеў былы студэнт, раздаўся ў плячах. Толькі ўсё тая знаёмая паблажлівая ўсмешка на бледным твары.

— Выбачайце, Кацярына Пятроўна. Я праездам у вашым горадзе. Не спадзяваўся на сустрэчу і ўсё ж зайшоў на паштамт, не мог не зайсці.

Не спяшаючыся, яны ішлі між белакаменных дамоў. Як ён жыве? Вучыўся ў аспірантуры, але не давучыўся. Чаму? Доўга расказваць. Ёсць многае на свеце, што не паддаецца нашым сілам. Патрэбны намаганні, упартая праца, каб дасягнуць таго, чаго хочаш, а ў яго, на жаль, бракуе гэтых якасцей. Працуе цяпер у міністэрстве, прыехаў у камандзіроўку. Як жонка — тая, з блакітнымі вачамі? Знайшла сабе другога... А цяпер, юная Кэт, вернемся ў тое «ўчора». Як вы жылі ўсе гэтыя гады?

Яны падышлі да высокага новага дома — падобнага і непадобнага на іншыя.

— Мамачка, ты ўжо з работы? Мы з татам чакаем цябе!

Кацярына Пятроўна пяшчотна прытуліла да сябе маленькую дзяўчынку і працягнула руку Аляксею.

— Вось так і жыла... Бывайце здаровы!

# ПАЭЗІЯ

● *Прызнанне*

●● ——————



Алесь МАСАРЭНКА



●

Я за пяро не ўзяўся б, далібог,
І вудаў ганарарных не закідваў,
Калі б не быў мой бацька інвалідам
І не касіў адной рукой мурог...
Не ведаў бы я сэнсу горкіх слоў,
Калі б умела маці распісацца,
Калі б на кірмашы замест рублёў
Махляр не даў ёй царскіх асігнацый...
Я за пяро не ўзяўся б, далібог,
Калі б на ўсё глядзець спакойна мог!

●●

Спявайце, салаўі, без стомы,
Не бойцеся ракет дзюбатых...
Вы ж знаеце: аэрадромы
Прымаюць птахаў не пярнатых.
Любіце, салаўі, аддана —
І песня весялейшай будзе!
А нам жа гэтага замала:
Мы — л ю д з і!



ПАЭЗІЯ

• *Манрэаль*

•• *У «Залатым ільве»*



Леанід ЯЎМЕНАЎ



●

Ад голаду беглі і смагі
У пошуках шчасця свайго
Сюды тры стагоддзі бадзягі
З закуткаў свету ўсяго.

Краіне вігвамаў ка́ру
Прынеслі яны, як лёс...
Было тут крыві і пажараў,
Пакутаў горкіх і слёз.

Кашмараў сумлення і жаху
Дагэтуль не замаліць,—
Між лысін пляскатых дахаў
Царква ля царквы тырчыць.

Пад гукі меднага дзіва,
Дзе плойма малых і бруд,
Сядзіць, пазяхае ляніва
Ля ганкаў спакуслівых люд.

З бутэлькаю кока і богам
Плывуць караваны гадоў:
Яму не карціць анічога —
Таверна адно ды аўто...

Рэкламай прытоны начныя
Міргаюць малым і старым,
А вуліцы ж скрозь тут святыя:
Сэн-Жак, Сэн-Ларан, Сэн-Катрын...

У пошуках сытага лёсу
Сюды, да гэтых багоў,
Імкнуць бадзягі, як восы,
З закуткаў свету ўсяго.



Кран злосна фыркае, бы той стаеннік,
Плывуць па зале кухлі да сталоў,
Нячутна слізгаюць, нібыта цені,
Гарсоны ў чорным
Зноў і зноў.

Няўладдзе п'янай гаманы і смеху,
Непаслухмяных і куртатых слоў,
Салёных жартаў, бы гароху з меха,
Каб ліхаманкай рогату трасло.

А з каламуці шызае дымовай,
З яе праломак цьмяных і вакон
То выбаўтнецца плеш, то нос ружовы,
А то каленца з нечаю рукой.

Уголас тут яны тугу гукаюць
Па мілым краі пращчураў сваіх,—
Чароўны спеў аб Францыі лунае,
Аб векапомнай бацькаўшчыне іх.

Не знаючы зусім краіну тую,
Сапраўднай мовы дзіўнае яе,
Яны аплакваюць зямлю святую,
Нібыта ўчора страцілі яе.

Скупую гоніць чыстую слязіну
Не ад пітва ці дыму, не з нягод:
Нібыта й я не бачыўся з Айчынай
Тры сотні год...



● Уладзімір ШЫЦІК

# ЧАРГОН ЦІ НЕ?

## *Фантастычнае апавяданне*

**Мал. В. ШРАМЯКОВА**

Цішыня не супакойвала. Яна аж звінела ў вушах, не даючы сабрацца з думкамі. Яна гнала з гэтай, звычайна такой утульнай, каюты, поўніла сэрца яшчэ большай трывогай. Хацелася нешта зрабіць, некуды пабегчы, каб зноў адчуць душэўную раўнавагу.

Вокнаў на касмічным караблі не было. Прасторы, каб пабегчы,— таксама. За дзвярамі быў калідор, паабапал якога размясцілася некалькі такіх жа кают, а ў канцы — рубка, дзе палавіну сферычнай сцяны займалі экраны лакатараў, тэлескопаў і масдэтэктараў.

Кар злосна паглядзеў вакол сябе і грымнуў кулаком па стале. Цвёрды пластык адказаў на ўдар — плячо нібы пранізалі тысячы тупых іголак. Кар пацёр руку і сеў у крэсла. Урэшце, ні каюта, ні карабель, ні ён сам або хто іншы не вінаватыя, што яму трэба зараз прымаць канчатковае рашэнне. Ён аддаў космасу амаль усе сталыя гады, з якіх большую частку быў капітанам. Ён прывык да адказнасці і за сябе, і за іншых. Але ніколі яму яшчэ не было так цяжка.

Гадзіну назад ён даведаўся пра думку экіпажа. Дзевяць супраць двух. І гэта быў не той выпадак, калі можна даверыцца простай арыфметыцы. Ён не ведаў, хто прагаласаваў супраць. Кожны прымаў сваё рашэнне на гэты раз незалежна ад астатніх і не называючы сябе. Дый каб і ведаў Кар, не змог бы ні ўхваліць, ні адхіліць ніводнага з іх. Бо разумеў, што, перш чым таварышы выказаліся, прайшлі суткі — час дастатковы для роздуму.

Сігнал быў прыняты ўчора раніцай на аварыйнай хвалі, прыёмнікі якой па даўняй яшчэ марской традыцыі ніколі не выключаліся.

Зямных зоркалётаў, прынамсі, так думалі Кар і яго таварышы, тут не павінна было быць. Сігнал прыляцеў аднекуль з далёкіх глыбінь сусвету. Ён быў дэфармаваны прасторай і ад таго невыразны. Кадыраванае паведамленне гучала ўсяго некалькі секунд і больш не паўтарылася. Пеленгатары не здолелі засекчы нават кірунку, адкуль ён ішоў. Не сказалі гэта і дакладнейшыя аналізатары, якія вось ужо амаль суткі працуюць няспынна.

Праглядаючы расшыфраванае паведамленне, большасць з экіпажа пагадзілася ў адным: сігнал маглі адправіць толькі з планеты зоркі Чаргон, да якой было не менш парсека. Пра астатнія пункты гаварыць не мела сэнсу — яны былі недасягальныя для субсветлавога «Геракла».

Кар працягнуў руку да невялікага пульта, уманціраванага ў сцяну, і націснуў чырвоную кнопку.

У каюце пацямнела — толькі мігцелі на пульце кантрольныя індыкатары, якія дубліравалі паказчыкі галоўнага пульта карабля. Потым засвяціўся невялікі экран.

Пачатку перадачы прыёмнікі «Геракла» не ўхапілі. Напэўна, яна вялася параўнаўча нешырокім накіраваным промнем. На экране адразу ўзнік край нейкай планеты. А праз імгненне ўсхваляваны голас скупа канстатаваў:

— Пасадка непазбежная.

Пазней у таго апошняга касманаўта, відаць, не хапіла часу, каб зрабіць спецыяльнае паведамленне — просьбу аб дапамозе. А можа, ён ведаў аб «Геракле» і проста паслаў у сусвет частку абавязковага і звычайнага запісу, які, фіксуючы ўсё, што адбывалася на зоркалёце, служыў своеасаблівым дзённікам.

Планета набліжалася. Паказаліся горы. Праплыла вялікая шэрая пустыня, на якой сям-там значыліся нейкія белага колеру нагрувашчванні. Зоркалёт апускаўся па спіральнай арбіце.

Той жа голас зноў сказаў:

— Ніякіх слядоў жыцця.

На нейкі час аб'ектыў зазірнуў унутр зоркалёта, слізгануў сваім шкляным вокам па прыборах. Над пультам успыхнуў надпіс: «Дэбрал». Назва карабля, аднак, нічога не гаварыла людзям з «Геракла». Незнаёмыя былі і тыя два касманаўты, якія схіліліся над штурманскай картай. Відаць, зоркалёт адправіўся з Зямлі значна пазней за «Геракла».

Быццам між іншым, прагучалі словы, якія ў першы раз прымусілі здрыгануцца ўсіх, хто глядзеў перадачу: «Нас толькі трое...»

Што здарылася з «Дэбралам», куды дзеліся астатнія, у якую катастрофу яны трапілі, чаму вымушаны садзіцца на чужую, невядомую планету, касманаўты так і не сказалі. Іх было толькі трое, але яны спадзяваліся, што на гэтай планеце адрамантуюць рухавікі, якія чамусьці страцілі сваю сілу. Калі яшчэ глядзелі перадачу першы раз, Кар запытаўся ў інжынераў, ці можна аднавіць рухавікі? Яны дружна адказалі, што на тое патрэбны час і людзі. І яшчэ яны не ведалі, ці засталіся жывыя інжынеры з «Дэбрала».

Зараз Кар паспрабаваў паглядзець на ўсё так, быццам яно адкрылася яму ўпершыню. На нейкі час гэта ўдалося. Толькі недзе ўглыбіні падсвядома трапятала горкая думка пра немагчымасць ўмяшацца і змяніць ход падзей.

«Дэбрал» зрабіў пасадку. Вакол яго ляжала ўсё тая ж шэрая пясчаная раўніна, на самым даляглядзе якой у фіялетавых праменнях Чаргона акрэсліваліся чорныя горы. Дзень на планеце толькі пачынаўся.

Наступныя кадры ўжо былі зроблены надвячоркам. Паміж імі і папярэднімі мінуў дзень, можа, тыдзень — пэўна нельга было сказаць. Побач з зоркалётам выраслі будынак рамонтнай станцыі, ангар, гараж для ўсюдыходаў. Паміж будынкамі, абкружанымі агароджай, снавалі робаты. Мірная, увогуле, карціна, ад якой Кару захацелася плакаць.

Два касманаўты стаялі ля выхада з агароджы і глядзелі ў кірунку гор. Нарэшце там паказаўся слуп пылу. Ён рухаўся да зоркалёта, і неўзабаве аб'ектыў злавіў бліскучы корпус усюдыхода. З крыўднай лаканічнасцю нехта сказаў:

— Вяртаецца Клам.

Потым ужо ўтрох касманаўты сядзелі ў салоне. Стомленыя, занепакоеныя, яны ўпершыню раіліся, не выключыўшы мікрафон.

— У гарах, як у пустыні, нічога цікавага. Спынім пошукі.

— Ты геолаг. Мы абыдземся без цябе,— сказаў самы малады з іх.

— Вам з Гердам цяжка, Сін,— запярэчыў Клам.

— Мяне непакояць нагрувашчванні,— паківаў галавой той, каго Клам назваў Сінам.— Часам там адчуваецца нібы рух.

Ён сказаў гэта вельмі няўпэўнена, а Кар прашаптаў: «Малайчына, цудоўная інтуіцыя».

— Я схаджу туды,— памаўчаўшы, сказаў Клам.

— Вазьмі ўсюдыход.

— Блізка.

— Рызыкоўна,— нахмурыўся Сін.

Клам засмяяўся, нервова, каратка. Яму самому, відаць, было нявесела:

— Тут няма жыцця.

Сін зноў паківаў галавой і з горыччу сказаў:

— Як шкада, што загінуў камандзір.

Экран зацямніўся, па ім забегалі хвалі, як ад электрамагнітных перашкод. Кар ведаў, што ў наступны момант аб'ектыў пакажа разгубленых Сіна і Герда сярод пустыні, на паверхні якой будуць толькі ямінкі ад абутку Клама — яго самога ўжо не ўбачыць ніхто.

Нейкую частку дзённіка Сін, відаць, не ўключыў у перадачу. У наступных кадрах з'явіліся тыя самыя нагрувашчванні. Зблізку яны выдавалі нейкімі дзіўнымі, не падобнымі на каменны хаос. Кару кінулася ў вочы пэўная заканамернасць у іх уяўным бес-



парадку. Асобныя ўчасткі нагрувашчванняў групаваліся, нагадваючы вялізныя тэтраэдры. А ўсё разам, пададзенае крыху зверху, было падобна на цела пэўнай крышталічнай структуры.

Нядаўняя гібель таварыша выбіла, напэўна, Герда з раўнавагі. Ён не даверыў першае знаёмства з чужой прыродай кібернетычнаму робату, як гэта патрабавалі правілы кантакту, а пайшоў сам да гэтых нагрувашчванняў.

Кар выключыў экран. У яго неставала сілы глядзець, што адбылося далей. Ён толькі думаў, ад чаго гэта магло здарыцца.

Герд не адчуў небяспекі, не звярнуў увагі на паводзіны свайго механічнага памочніка — робата, які раптам захістаўся, нібыта выбіраў: ісці за чалавекам ці адступіць назад. Кар здагадаўся, што робат, зноў-такі парушаючы інструкцыю, быў настроены на самаахову. Але каб гэтага і не было, ці здолеў бы ён памагчы чалавеку?

Апошняя сцэна была жудасная. Кар глядзеў на яркае святло, заплюшчваў вочы, а перад ім стаяла адно і тое. Герд раптам пачаў недаўменна азірацца па баках. У сваім няўклюдным скафандры ён сам стаў падобны на робата. Потым постаць яго пасвятлела,

страціла выразнасць, нібы на яе насунуўся туман, а праз імгненне ўсё і зусім знікла.

Тады, калі яны ўбачылі гэта ўпершыню, Кару было здалося, што Герд сапраўды схаваўся ў тумане. Аднак у наступны момант, ён гэта помніць вельмі добра, сумненняў не засталося — так ярка на экране былі відны дэталі пейзажу на тым месцы, дзе павінен быў стаяць Герд. І крыху пазней — новае дзіва: з робатам, які ішоў следам за чалавекам, нічога не здарылася.

Толькі застаўшыся сам-насам з невядомай і страшнай пагрозай, Сін вырашыў паслаць сігнал няшчасця. Каб Кар быў адзін, ён, не раздумваючы, скіраваў бы карабель да Чаргона. Але зараз ён павінен быў разважаць, як начальнік экспедыцыі, адказны за лёс і жыццё кожнага члена экіпажа. Нават каб яны прагаласавалі аднагалосна, ён не меў бы права не ўзважыць усе «за» і «супраць», аддаўшы перавагу розуму. А ў дадзеным выпадку двое лічылі рызыку неапраўданай.

Кар не асуджаў іх. Ён не сумняваўся, што імі кіравала зусім не боязь асабіста за сябе. Рашаючы пакінуць касманаўта з іншага зоркалёта без дапамогі, яны, безумоўна, кіраваліся нейкімі іншымі, вартымі ўвагі меркаваннямі.

Паварот на Чаргон азначаў, што працягласць экспедыцыі павялічыцца прыкладна на дзесяць незалежных гадоў, якія пойдуць на тармажэнне, палёт да планеты, вяртанне на ранейшую трасу і новы разгон да субсветлавой хуткасці. Гэта плюс да дваццаці двух гадоў, якія «Геракл» меўся прабыць у прасторы. А на Зямлі міне больш за паўстагоддзя. Ці не акажуцца непатрэбнымі адкрыцці, якія яны вязуць з сабой і за якія заплацілі ўжо сваім жыццём трое з каманды «Геракла»? Кар разумеў, што арыфметыка тут недарэчы, але не ўспамінаць загінуўшых таксама не мог. Можа, гэта пра іх думалі тыя двое, якія сказалі «не».

Аднак хіба толькі трыма ахвярамі яны абмяжуюцца, падоўжыўшы час свайго вандравання? Кар уявіў сабе біёлага Габу. Неўзабаве яны збіраюцца адзначыць яго векавы юбілей. Габа састарэў у касмічных падарожжах, і ці хопіць у яго сілы, каб вытрываць дадатковыя дзесяць гадоў. Інжынер Верс маладзейшы, але ён быў паранены на трэцяй планеце Лебедзя. Ці адолее ён цяжар дадатковых год?

Кар быў упэўнены, што менавіта гэтыя касманаўты, якія можа больш за іншых praglі сустрэчы з Радзімай, не сказалі свайго «не». Людзі яго часу патрабавальныя. Але гэта не азначала, што капітан можа забыцца на іх. Залішняя далікатнасць часам магла пашкодзіць аб'ектыўнасці.

Кар зноў адчуў, як сценкі каюты пачалі нібы зблізжацца. Яму зноў стала невыносна цесна і душна. Ён ірвануў каўнер тонкага світэра, падставіў грудзі тугому струменю халоднага паветра, які біў з настольнага вентылятара. Палёгка не прыйшла. Кар выбег з каюты.

Нябачныя плафоны лілі мяккае святло, якое не давала ценю. Прывычнае, яно раней нават не заўважалася, а зараз яго мяккасць была нясцерпная. Кар шпарка пакрочыў да рубкі, дзе на штурманскім экране віднеўся кавалак неба з яркімі нерухомымі зоркамі. Кар спадзяваўся, што там нікога не будзе і ён зможа накіраваць тэлескоп на Чаргон. Чамусьці не хацелася, каб хто староннi быў сведкам ягоных пакут.

За пультам, задуменна назіраючы, як пamігваюць індыкатары, сядзеў штурман Рэхва. Ён не заўважыў капітана, і Кар ціха стаў ззаду. Рэхва быў самы малады з іх — яму яшчэ не споўнілася пяцьдзесят. А Кар раптам падумаў, што калі яны зменяць курс, то штурман можа ўжо не застаць на зямлі свае жонкі, і яго дачка, партрэт якой — маленькая дзяўчынка з сінім бантам у кучаравых валасах — стаіць у каюце штурмана на стале, будзе ўжо старэйшая за свайго бацьку.

Штурман пачуў, як неспадзявана ўздыхнуў капітан, і азірнуўся. У вачах Рэхвы было нямое запытанне. Не адказваючы, Кар палажыў адну руку Рэхве на плячо, а другой настроіў вялікі карабельны тэлескоп.

На экране, злучаным з бінакулярам, успыхнуў Чаргон — фіялетавы касматы клубок. Ён пульсаваў, выкідваючы ў прастору згусткі смертаноснай плазмы. А непадалёк, абкружаная празрыстай блакітнай атмасферай, нібы прывязаная, вісела адзіная планета гэтага магутнага свяціла. Што будзе з Сінам? Напэўна, пра гэта падумаў і штурман, бо ён зноў падняў запытальны позірк на капітана. Кар не вытрымаў і, не сказаўшы ні слова, вярнуўся ў каюту. Ён збег ад Рэхвы, які, відаць, наўмысна сядзеў увесь час за пультам, гатовы ў любы момант аддаць загад машынам памяняць курс. Кар не сумняваўся, што адпаведныя разлікі ўжо зроблены. Патрэбна была толькі капітанава згода. А капітан, жалезны Кар, як яго ўжо даўно празвалі зямныя касманаўты, не знаходзіў у сабе сілы, каб пераадолець сумненні.

Вярнуўшыся ў каюту, ён запатрабаваў апошнія дадзеныя работы аналізатараў. Новага нічога не было.

Загучаў выклік унутранай сувязі. У відэафоне ўзнік пахмуры твар штурмана. Ён моўчкі глядзеў на капітана, стрымліваючы гатовае сарвацца з языка пытанне. Кар зірнуў на свой экран, што дубліраваў штурманскі, потым — на гадзіннік. Надыходзіў аптымальна лепшы час для павароту. Машынам была патрэбна адна гадзіна, каб ажыццявіць усе заходы для новага манеўра.

Адна гадзіна, і ні секунды больш.

# *СТО ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ІВАНА СЯРГЕЕВІЧА ТУРГЕНЕВА*
# *1818—1968*



**Ільн РЭПІН. Партрэт І. С. Тургенева. 1874.** Рэпрадукцыя.

*Бываюць эпохі, дзе літаратура не можа быць толькі мастацтвам, а ёсць інтарэсы вышэйшыя за паэтычныя інтарэсы. Момант самапазнання і крытыкі гэтак жа неабходны ў развіцці народнага жыцця, як і ў жыцці асобнага чалавека...*

*Іван ТУРГЕНЕЎ.*

*Не было душы больш адкрытай, больш тонкай і больш праніклівай, не было таленту больш чароўнага, не было сэрца больш сумленнага і высакароднага.*

*Гі дэ МАПАСАН.*

● Іван ТУРГЕНЕЎ

**У апошнія гады жыцця Тургенеў напісаў некалькі невялікіх празаічных твораў і сярод іх вершы ў прозе.**

**У вершах у прозе,— гэтым творы, якi завяршае творчае жыццё Тургенева,— знайшлі сваё адлюстраванне амаль усе тэмы і матывы творчасці пісьменніка, нібы зноў ім перажытыя і яшчэ раз зазнаныя на схіле год. Некаторыя з вершаў у прозе падаюцца тут.**

● Мал. К. ЦІХАНОВІЧА

# ВЕРШЫ Ў ПРОЗЕ ●



## Ружа

Апошнія дні жніўня... Восень ужо наступала. Сонца заходзіла. Раптоўны парыўлівы лівень, без перуноў і без маланак, толькі што прамчаўся над нашай шырокай раўнінай.

Сад перад домам гарэў і дыміўся, увесь заліты пажарам зары і патопам дажджу.

Яна сядзела за сталом у святліцы і з упартай задумлівасцю глядзела ў сад скрозь прачыненыя дзверы.

Я ведаў, што дзеялася тады ў яе душы; я ведаў, што пасля нядоўгага, хоць і пакутлівага змагання, яна ў гэтае самае імгненне аддавалася пачуццю, якому ўжо не магла больш даць рады.

Раптам яна паднялася, хуценька выйшла ў сад і знікла.

Мінула гадзіна... мінула яшчэ адна; яна не вярталася.

Тады я ўстаў і, выйшаўшы з дому, пакіраваўся прысадамі, якімі — я ў тым не сумняваўся — пайшла і яна.

Усё сцямнела раптам; ноч ужо насунулася. Але на вільготным пяску дарожкі, зырка пунсавеючы, віднелася нейкая круглаватая рэч.

Я нахіліўся... То была маладая ружа, якая толькі-толькі распусцілася. Дзве гадзіны перад тым я бачыў гэтую самую ружу на яе грудзях.

Я беражліва падняў кветку, якая звалілася ў гразь, і, вярнуўшыся ў святліцу, паклаў яе на стол, перад крэслам, дзе сядзела тая, каму належала ружа.

Вось і яна вярнулася, нарэшце,— і, лёгкімі крокамі прайшоўшы праз увесь пакой, села за стол.

Яе твар і збялеў і ажыў; шпарка, з вясёлай збянтэжанасцю бегалі ў бакі апушчаныя, нібы прыжмураныя вочы.

Яна ўбачыла ружу, схапіла яе, зірнула на яе пакамечаныя, запэцканыя пялёсткі, зірнула на мяне — і вочы яе, раптам спыніўшыся, заззялі слёзамі.

— Аб чым вы плачаце? — спытаўся я.

— Ды вось аб гэтай ружы. Гляньце, што з ёй сталася.

Тут я наважыўся выказаццa глыбакадумна.

— Вашыя слёзы змыюць гэты бруд,— прамовіў я з асаблівай значнасцю.

— Слёзы не мыюць, слёзы паляць,— адказвала яна і, павярнуўшыся да каміна, кінула кветку ў канаўшае полымя.

— Агонь спаліць яшчэ лепш за слёзы,— усклікнула яна не без зухаватасці,— і прыгожыя вочы, што яшчэ блішчэлі ад слёз, засмяяліся дзёрзка і шчасліва.

Я зразумеў, што і яна была спалена.



# Наведванне

Я сядзеў ля расчыненага акна... раніцай, ранелька-раненька, першага мая.

Золак яшчэ не браўся, але ўжо бялела, ужо халадзела цёмная, цёплая ноч.

Туман не ўзнімаўся, не блукаў ветрык, усё было аднаго колеру і маўклівае... але адчувалася, што блізка абуджэнне — і ў парадзелым паветры патыхала жорсткай волкасцю расы.

Раптам у мой пакой, праз расчыненае акно, лёгка пазвоньваючы і шапоцячы, уляцела вялізная птушка.

Я здрыгануўся, угледзеўся... То была не птушка, то была крылатая, маленькая жанчына, апранутая ў цесную, доўгую, хвалістую ўнізе сукенку.

Уся яна была шэрая, маціцавага колеру, адзін толькі бок яе крылцаў, знутры, пунсавеў лёгкай чырванню ружы, што распускалася, і вянок з ландышаў акаймоўваў раскіданыя кудзеры круглай галоўкі, і, падобныя на вусікі матылька, два паўлінавых пёры забаўна калыхаліся над прыгожым, выпуклым лобікам.

Яна пранеслася разы два пад столлю; яе маленечкі твар смяяўся; смяяліся таксама вялізныя, чорныя, светлыя вочы.

Вясёлая гарэзлівасць вымудраванага палёту драбніла іх дыяментавыя праменні.

Яна трымала ў руцэ доўгую сцяблінку стэпавай кветкі: «царскім жазлом» завуць яе рускія людзі,— так падобна кветка на скіпетр.

Імкліва пралятаючы нада мной, дакранулася яна да маёй галавы той кветкай.

Я памкнуўся да яе... Але яна ўжо выпырхнула з акна — і паляцела.

У садзе, у глушы кустоў бэзу, галубка сустрэла яе першым буркаваннем — а там, куды яна паляцела, малочна-белае неба ціхенька зачырванелася.

Я пазнаў цябе, багіня фантазіі! Ты наведала мяне выпадкова — ты паляцела да маладых паэтаў.

О паэзія! Маладосць! Жаночая, некранутая прыгажосць! Вы толькі імгненна можаце бліснуць перада мной — у самы ранак ранняй вясны!



## Камень

Ці бачылі вы стары, шэры камень на марскім узбярэжжы, калі на яго, у часе прыліву, у сонечны вясёлы дзень, з усіх бакоў б'юць жывыя хвалі — б'юць і гуляюць і лашчацца да яго — і абліваюць яго замшэлую галаву рассыпістымі кара́лямі бліскучай пены?

Камень астаецца тым жа каменем — але на хмурай яго паверхні выступаюць яркія колеры.

Яны сведчаць пра той далёкі час, калі толькі-толькі пачынаў цвярдзець расплаўлены граніт і ўвесь гарэў агністымі колерамі.

Так і на маё старое сэрца нядаўна з усіх бакоў нахлынулі маладыя жаночыя душы — і пад іх ласкатлівым дакрананнем зардзелася яно ўжо даўно пабляклымі фарбамі, слядамі былога агню!

Хвалі адхлынулі... але фарбы яшчэ не пацямнелі — хоць і сушыць іх рэзкі вецер.



## Галубы

Я стаяў на вяршыні пакатага ўзвышша; перада мной — то залатым, то пасрэбраным морам разлеглася і стракацела спелае жыта.

Але не зыбалася гэтае мора і не струменілася душнае паветра: надыходзіла навальніца вялікая.

Каля мяне сонца яшчэ свяціла — горача і цьмяна; але там, за жытам, не надта далёка, цёмна-сіняя хмара ляжала груваcткім гмахам на ўсёй палавіне небасхілу.

Усё стаілася... усё млела пад злавесным бляскам апошніх промняў сонца. Не чутно, не відно ніводнай птушкі; пахаваліся нават вераб'і. Толькі недзе поблізу ўпарта шапацеў і шастаў адзінокі буйны ліст лопуху.

Як моцна пахне палын на мяжах! Я глядзеў на сінюю аграмаду... і трывожна было на душы. Ну хутчэй жа, хутчэй! — думалася мне,— блісні, залатая вужака, грукні, гром! зрушся, пакаціся, праліся, злосная хмара, спыні тужлівае мардаванне!

Але хмара не рухалася. Яна па-ранейшаму гняла маўклівую зямлю... і толькі нібы пухла ды цямнела.

І вось па аднафарбнай яе сінечы замільгала штосьці роўна і плаўна; ні даць ні ўзяць белая хусцінка або камячок снегу. Гэта ляцеў з-над вёскі белы голуб.

Ляцеў, ляцеў усё, праставаў... і патануў за лесам.

Прайшло некалькі імгненняў — тая ж стаяла жорсткая цішыня. Але зірк! Ужо *дзве* хусціны мільгаюць, *два* камячкі нясуцца назад: гэта ляцяць дамоў роўным лётам *два* белыя галубы.

І вось, нарэшце, сарвалася бура — і пайшла гуляць!

Я ледзьве дамоў дабег. Скуголіць вецер, кідаецца як шалёны, імчацца рудыя, нізкія, нібы ў клочча парваныя воблакі, усё закруцілася, замітусілася, засцёбаў, захістаўся стромымі слупамі заўзяты лівень, маланкі слепяць агністым зяленівам, страляе як з гарматы адрывісты гром, запахла серай...

Але пад навіссю даху, на самым краёчку слыхавога акна, побачкі сядзяць два белыя галубы — і той, хто злётаў за таварышам, і той, каго ён прывёў і, можа нават, выратаваў.

Натапырыліся абодва — і адчувае кожны сваім крылом крыло суседа...

Добра ім! І мне добра, гледзячы на іх... Хоць я і адзін... адзін, як заўсёды.



## Стой!

Стой! Якою я цяпер цябе бачу — астанься назаўсёды такой у маёй памяці!

З вуснаў зляцеў апошні натхнёны гук — вочы не бліскаць і не зіхацяць — яны гаснуць, абцяжараныя шчасцем, радасным усведамленнем той прыгажосці, якую ўдалося табе выявіць, той прыгажосці, услед якой ты нібы распасціраеш твае ўзрушаныя, твае зняможаныя рукі!

Якое святло, танчэйшае і чысцейшае за сонечнае святло, разлілося па ўсіх тваіх членах, па самых маленькіх складках твайго адзення?

Які бог сваім ласкавым подыхам адкінуў назад твае рассыпаныя кудзеры?

Яго казытанне гарыць на тваім, як мармур, збялелым чале!

Вось яна — адкрытая таямніца, таямніца паэзіі, жыцця, кахання! Вось яна, вось яна, бессмяротнасць! Іншай бессмяротнасці няма — і не трэба. У гэтае імгненне ты бессмяротная.

Яна пройдзе — і ты зноў нюшок попелу, жанчына, дзіця... Але што табе да гэтага! У тое імгненне — ты павышэла, ты стала па-за ўсім, што праходзіць, часовым. Гэта *тваё* імгненне не скончыцца ніколі.

Стой! I дай мне быць удзельнікам тваёй бессмяротнасці, зарані ў душу маю водбліск тваёй вечнасці!



## Верабей

Я вяртаўся з палявання і ішоў прысадамі. Сабака бег перада мной.

Раптам ён прыцішыў свае крокі і пачаў красціся, нібы пачуў перад сабой дзічыну.

Я глянуў уздоўж прысадаў і ўбачыў маладога вераб'я з жаўцізной каля дзюбы і пухам на галаве. Ён валіўся з гнязда (вецер моцна хістаў бярозы ў прысадах) і сядзеў нерухома, бездапаможна расставіўшы крыльцы, якія толькі-толькі прарасталі.

Мой сабака паволі набліжаўся да яго, як раптам, сарваўшыся з блізкага дрэва, стары чарнагруды верабей каменем зваліўся перад самай яго мордай — і ўвесь ускудлачаны, перакрыўлены, з адчаіным і жаласным піскам скочыў разы два ў кірунку зубастай разяўленай пашчы.

Ён рынуўся ратаваць, ён засланіў сабой сваё дзеціішча... але ўсё яго маленькае цела калацілася ад жаху, галасок здзічэў і хрыпеў, верабей заходзіўся, ён ахвяроўваў сабой!

Якім вялізным страшыдлам павінен быў яму здавацца сабака! I ўсё-такі верабей не мог уседзець на сваёй высокай, недасягальнай галінцы... Сіла, мацнейшая за яго волю, скінула яго адтуль.

Мой Трэзор спыніўся, падаўся назад... Відаць, і ён прызнаў гэтую сілу.

Я хуценька паклікаў збянтэжанага сабаку — і пайшоў, поўны пашаны.

Так: не смейцеся. Я быў повен пашаны да той маленькай, гераічнай птушкі, да яе парыву любві.

Любоў, думаў я, мацней за смерць і за страх смерці. Толькі ёю, толькі любоўю трымаецца і рухаецца жыццё.



## Дурань

Жыў-быў на свеце дурань.

Доўгі час ён жыў прыпяваючы; але пакрысе пачалі даходзіць да яго чуткі, што ён усюды слыве за бязмозглага пашляка.

Збянтэжыўся дурань і пачаў гараваць па тым, як бы спыніць тыя непрыемныя чуткі?

Раптоўная думка асвятліла, нарэшце, яго цьмяную свядомасць... I ён, зусім не марудзячы, прывёў яе да здзяйснення.

Сустрэўся яму на вуліцы знаёмы — і ўзяўся хваліць вядомага жывапісца...

— Даруйце! — усклікнуў дурань.— Жывапісец гэты даўно здадзены ў архіў... Вы гэтага не ведаеце? — Я ад вас гэтага не чакаў... Вы — адсталы чалавек.

Знаёмы спалохаўся — і адразу згадзіўся з дурнем.

— Якую цудоўную кнігу я прачытаў сёння! — гаварыў яму другі знаёмы.

— Даруйце! — усклікнуў дурань.— Як вам не сорам? Нічога гэтая кніга не вартая; усе на яе даўно рукой махнулі.— Вы гэтага не ведаеце? Вы — адсталы чалавек.

І гэты знаёмы спалохаўся — і згадзіўся з дурнем.

— Што за цудоўны чалавек мой сябар N. N.!— гаварыў дурню трэці знаёмы.— Вось сапраўды высакародная істота!

— Даруйце! — усклікнуў дурань.— N. N.— вядомы падлюга! Радню ўсю абабраў. Хто ж гэтага не ведае? Вы — адсталы чалавек.

Трэці знаёмы таксама спалохаўся і згадзіўся з дурнем, адступіўся ад прыяцеля. І каго б, што б ні хвалілі дурню — у яго на ўсё была адна водпаведзь.

Хіба часам дадасць з дакорам:

— А вы ўсё яшчэ верыце ў аўтарытэты?

— Злюка! Ненавіснік! — пачыналі гаварыць пра дурня яго знаёмыя.— Але якая галава!

— І які язык! — дадавалі другія.— О, вядома, ён талент!

Скончылася тым, што выдавец адной газеты прапанаваў дурню загадваць у яго крытычным аддзелам.

І дурань пачаў крытыкаваць усё і ўсіх, зусім не мяняючы манеры сваёй, ні сваіх воклічаў.

Цяпер ён, хто крычаў некалі супроць аўтарытэтаў,— сам аўтарытэт — а юнакі перад ім на калені становяцца — і баяцца яго.

Ды і як ім быць, бедным юнакам? Хоць і не варта, наогул кажучы, укленчваць... але тут, паспрабуй, не ўкленчы — у адсталыя людзі трапіш!

Жыццё дурням між баязліўцаў.



## Капуста

У бабы-ўдавы памёр яе адзіны, дваццацігадовы сын, першы на сяле работнік.

Пані-ўладарка таго самага сяла, даведаўшыся пра гора бабы, пайшла адведаць яе ў самы дзень пахавання.

Яна застала яе дома.

Стоячы пасярод хаты, перад сталом, яна, не спяшаючыся, мерным рухам правай рукі (левая вісела плёткаю) чэрпала посную капусту з дна закуранага гаршка і глытала лыжку за лыжкай.

Твар той бабы сасмяг і спахмурнеў, вочы пачырванелі і апухлі... але яна стаяла моцна і выпрастаўшыся, як у царкве.

«Божа мой! — падумала пані.— Яна можа есці ў гэтую хвіліну... Якія, аднак, у іх ва ўсіх агрубелыя пачуцці!»

І прыгадала тут пані, як, страціўшы некалькі гадоў таму назад дзевяцімесячную дачку, яна з гора адмовілася наняць цудоўную дачу пад Пецярбургам — і пражыла ўсё лета ў горадзе! — А баба ўсё сёрбала капусту.

Пані не сцярпела нарэшце.

— Тацяна! — прамовіла яна.— Даруй! Я дзіўлюся! Няўжо ты свайго сына не любіла? Як гэта ў цябе не прапаў апетыт? Як можаш ты есці гэтую капусту?

— Васілёк мой памёр,— ціха прагаварыла баба, і набалелыя слёзы зноў пацяклі па яе ўпалых шчоках.— Значыць, і мой прыйшоў канец, з жывой з мяне сцяглі галаву. А капусце ж не прападаць, яна ж пасоленая.

Пані толькі плячыма пацікнула — і пайшла прэч. Ёй жа соль даставалася лёгка.

## Шлях да кахання

Усе пачуцці могуць прывесці да кахання, да страсці, усе: нянавісць, спачуванне, абыякавасць, захапленне, дружба, страх, — нават пагарда. Так, усе пачуцці... выключаючы адно: удзячнасць.

Удзячнасць — абавязак; кожны чалавек аплочвае свае даўгі... але каханне — не грошы.

## Фраза

Баюся я, унікаю фразы; але страх фразы — таксама прэтэнзія.

Так, паміж гэтымі двума чужаземнымі словамі, паміж прэтэнзіяй і фразай, так і коціцца і вагаецца наша складанае жыццё.

## Руская мова

У дні сумненняў, у дні цяжкога роздуму пра лёс маёй радзімы,— ты адна мне падтрымка і апора, о вялікая, магутная, праўдзівая і свабодная руская мова! Не было б цябе — як не кінуцца ў адчай, бачачы ўсё, што дзеецца дома? Але нельга верыць, каб такая мова не была дадзена вялікаму народу!

**З рускай.**
**Пераклад Уладзіміра Юрэвіча.**

Людміла ЧАРНОВА,
кандыдат філалагічных навук

# ВЯЛІКІ СЯБАР МОЛАДЗІ

Малады чытач! Калі ты ў дарозе, калі ты ў пошуках ідэалу свайго жыцця або калі ты пакахаў — загляні ў творы Тургенева, і ты знойдзеш у іх адказы на многія твае пытанні, адказы сумленныя і глыбокія, суровыя і добрыя. Ты не памылішся, разгарнуўшы іменна тургенеўскія кнігі, таму што пісьменніку была асабліва дарага моладзь з яе пошукамі. Фарміраванне маладой асобы, пошукі ідэалаў, першае каханне, наабходнасць для чалавека высокага маральнага абавязку — вось тэмы, блізкія пісьменніку і любімыя ім.

Удзячная памяць нашчадкаў адзначае 150 гадоў з дня нараджэння гэтага цудоўнага пісьменніка. Юбілей — не толькі ўслаўленне чалавека. Гэта яшчэ і абнаўленне памяці аб ім. Успомнім жа і мы з табой, малады чытач, чым заўсёды блізкі нам Тургенеў.

Цудоўная якасць гэтага пісьменніка, якая адрознівае яго ад іншых,— яго незвычайная чуласць да ўсяго новага, якое толькі што нарадзілася або нават яшчэ нараджаецца, не ператварыўшыся пакуль у пэўную, гучна заявіўшую аб сабе, сілу. Дабралюбаў так вызначыў гэтую якасць Тургенева: «Мы можам сказаць смела, што, калі ўжо п. Тургенеў закрануў якое-небудзь пытанне ў сваёй аповесці, калі ён адлюстраваў які-небудзь новы бок грамадскіх адносін, гэта служыць парукай таго, што пытанне гэтае сапраўды ўзнімаецца або неўзабаве ўзнімецца ў свядомасці адукаванага грамадства, што гэты новы бок жыцця пачынае выдавацца і хутка выкажацца рэзка і ярка перад вачамі ўсіх». Гэтая чуласць і яшчэ праўдзівасць, сумленнасць мастака — зрабілі кнігі Тургенева летапісам не толькі жыцця рускага грамадства, але і грамадскага, разумовага руху — «духу» свайго часу. Тургенеў у яскравых, запамінальных вобразах паказаў і змену эпох (феадальна-прыгонніцкай — капіталістычнай), і барацьбу ідэалагічных напрамкаў. Ліберальныя тэндэнцыі часам абмяжоўвалі яго магчымасці правільнага і ўсебаковага пазнання і адлюстравання рэчаіснасці. Але ён ніколі не быў лібералам таго халуйскага тыпу, які закляйміў Салтыкоў-Шчадрын формулай «прыстасоўна да подласці». Тургенеў быў лібералам-асветнікам, варожым да ўсяго цёмнага, коснага, ён паважаў навукі, мастацтва, лю-

біў свой народ і прагнуў памагчы яму ўсталяваць права на сваю чалавечую годнасць.

Жывучы ў эпоху прыгоннага заняволення народа, Тургенеў смела заявіў рускаму грамадству: прыгонны селянін таксама чалавек, а не быдла, не раб. Селянін успрымальны да ўсяго цудоўнага, ён разумны, таленавіты, гуманны, сардэчны і шчыры, бязмежна любіць радзіму. У ім не забіта жывая душа, ён горды сваёй неабходнасцю на зямлі, стагоддзі прыгонніцкай няволі не вытруцілі ў ім пачуцця ўласнай годнасці. Пра ўсё гэта Тургенеў расказаў у цыкле апавяданняў «Запіскі паляўнічага», і галерэя вобразаў сялян з гэтага цыкла — Хор, Каліныч, Якаў Турок, сялянскія дзеці, жанчыны-сялянкі і іншыя — пацвердзіла яго думку: цёмныя сяляне лепшыя, больш гуманныя, чым адукаваныя памешчыкі. Ідэя «Запісак паляўнічага» зусім выразная: прыгонная няволя — вось тая страшэнная сіла, якая скавала народ па руках і нагах і не дае яму магчымасці развінуць свае таленты. А калі б яе, гэтай злоснай сілы, не было, якія б цудоўныя магчымасці адкрыліся для свабоднага селяніна.

У сярэдзіне 50-х гадоў абазначыўся глыбокі крызіс феадальна-прыгонніцкага ладу і перад рускімі людзьмі паўсталі клопаты пра шляхі далейшага развіцця Расіі, пра перадавога чалавека часу. У шэрагу сваіх твораў (аповесць «Якаў Пасынкаў», раманы «Рудзін» і «Дваранскае гняздо») пісьменнік праўдзіва і непрадузята паказаў, што ранейшы герой — перадавы дваранскі інтэлігент 30-х — 40-х гг.— выканаў сваю грамадскую місію. Ён абудзіў свядомасць людзей сваім адмаўленнем прыгонніцкіх нораваў і паняцця́ў, ён высакародна думаў, гаварыў палымяныя прамовы, але... у новых умовах быў практычна бездапаможны, бо не ўмеў нічога рабіць. І Тургенеў, аддаючы належнае дваранскім інтэлігентам за высакародства, разам з тым паказаў і іх жыццёвую драму, якая заключалася ў невырашальнай для іх супярэчнасці паміж высокімі маральнымі ідэаламі, высакароднымі душэўнымі парывамі і бездапаможнасцю перад суровымі ўмовамі жыцця. І ў гэтых творах думка пісьменніка ясная: час дваранскай інтэлігенцыі мінуў, Расіі патрэбен новы герой, дзейны, практычна прыстасаваны, звязаны з народнымі карэннямі.

Чулы Тургенеў адчуваў, што такі герой вось-вось павінен заявіць аб сабе поўным голасам, і ў прадбачанні яго з'яўлення ён ужо піша свой першы раман пра новых людзей. Гэта «Напярэдадні». Звярні ўвагу, малады чалавек, на гэты загаловак. Так, Расія яшчэ толькі напярэдадні перамен, напярэдадні з'яўлення новага героя часу — разначынца-дэмакрата, а Тургенеў выразна малюе яго аблічча. І яшчэ заўваж, што Тургенеў не адзін з першых, а іменна **першы** паказаў, як разначынец-дэмакрат змяняе на жыццёвай арэне дваранскага інтэлігента. Нельга не здзіўляцца яснабачанню пісьменніка, які паказаў у рамане, што цудоўная руская дзяўчына Алена Стахава, глыбакадумная дзяўчына-дваранка, якая шукае яркага, дзейнага жыцця, парывае са сваёй сям'ёй і ідзе з разначынцам Інсаравым у свет трывог і барацьбы. Гэта сімвалічна: не толькі сэрца Алены выбірае Інсарава, Расія выбірае для сябе новага героя, барацьбіта за свабоду, бескампраміснага і рашучага.

Тургенеў з усласцівай яму праўдзівасцю адлюстраваў факт разрыву перадавой моладзі з дваранскай інтэлігенцыяй і пераход яе на бок дэмакратычных ідэй. І зноў нельга не схіліцца перад сумленнасцю і праматой мастака: ён, пан-арыстакрат, ліберал-пасцяпенавец, які не падзяляў рэвалюцыйных планаў перабудовы грамадства, паважаў і цаніў у рэвалюцыйнай моладзі яе самааддане, бескарыслівае служэнне справе рэвалюцыі. У гэтай павазе яго ўмацавалі асабістыя ўражанні і назіранні за гуртком «Современника». Можна з усёй упэўненасцю сказаць, што ў вобразе Інсарава,

а таксама ў вобразе Базарава з наступнага рамана — «Бацькі і дзеці» Тургнеў у многім правільна адлюстраваў істотныя рысы характару і высокае маральна-псіхалагічнае аблічча самых першых і лепшых прадстаўнікоў дэмакратычнай моладзі. У спрэчках разначынца Базарава з дваранінам-арыстакратам Паўлам Кірсанавым, якія закончыліся поўным маральным паражэннем Кірсанава, несумненныя сімпатыі свае Тургенеў аддае разначынцу Базараву. Базаравы больш жыццядзейныя, актыўныя, чым Кірсанавы, за Базаравымі — будучыня.

У апошнім рамане — «Навіна» — Тургенеў паказаў народніцкі рух 70-х гг. і драму яго ўдзельнікаў. Ён уславіў высакародства подзвігу, самаадданасць народніцкай моладзі (Марыяна, Няжданаў), але і сказаў таксама пра яе раз'яднанасць з народам, што прывяло да краху народніцкіх ілюзій.

Усё глыбокае захапленне веліччу подзвігу рэвалюцыйнай моладзі пісьменнік яшчэ раз выказаў, ужо на схіле год сваіх, у вершы ў прозе «Парог». Вось яго змест. Перад высокім парогам стаіць дзяўчына, руская дзяўчына. Яна хоча пераступіць парог, але хтосьці страшэнным голасам перасцерагае яе пытаннем, ці ведае яна, што за парогам яе чакаюць пакуты, «холад, голад, нянавісць, насміханне, пагарда, крыўда, турма, хвароба і самая смерць?» Ці ведае яна, што можа загінуць «і ніхто... ніхто не будзе нават ведаць, чыю памяць ушанаваць!» Мужная дзяўчына адказвае, што ўсё гэта яна ведае і гатова перанесці любыя выпрабаванні. Дзяўчына пераступіла парог. «Дурная!» — заскрыгатаў хтосьці ззаду. «Святая!» — прынеслася аднекуль у адказ».

У вачах абывацеля са шкурніцкімі інтарэсамі гэта дзяўчына — «дурная», таму што аддае сваё жыццё бескарысліва справе рэвалюцыі. Народ жа назваў яе «святой». Такімі і былі нашы жанчыны-рэвалюцыянеркі Вера Фігнер, Соф'я Пяроўская, Надзежда Крупская, Алена Стасава і іншыя.

Усе творы Тургенева прасякнуты атмасферай высокага маральнага абавязку, душэўнай чысціні і ўзвышанасці. Яны — як чыстая крыніца, да якой прыпадае стомлены падарожнік. Таму што ў аснове ідэалаў пісьменніка — імкненне да праўды, дабра, прыгажосці і святла. І ці не таму вялікі сатырык, гнеўны распазнавальнік пачварстваў прыгонніцкай рэчаіснасці Салтыкоў-Шчадрын, стомлены барацьбой з гэтымі пачварствамі, цягнуўся да кніг Тургенева: «Што можна сказаць пра ўсе наогул творы Тургенева? Ці тое, што пасля прачытання іх лёгка дыхаеш, лёгка верыш, цёпла адчуваеш? Што адчуваеш выразна, як маральны ўзровень у табе ўзнімаецца, што ў думках благаслаўляеш і любіш аўтара? Гэта, іменна гэта ўражанне пакідаюць пасля сябе гэтыя празрыстыя, нібы сатканыя з паветра, вобразы, гэты пачатак кахання і святла, што ў кожным радку струменіць жывой крыніцай».

Тургенеў быў глыбокім знаўцам маладой душы. На дзіва тонка і паэтычна ўмеў ён расказаць, як абуджаецца ў ёй жыццё, каханне, імкненне да чагосьці не зусім яшчэ яснага, але светлага. Ён перадаў чысціню кахання моладзі, сілу яе дружбы, яе мары і веру ў будучыню. А як натхнёна ён апісаў першае каханне ў аповесцях «Ася», «Першае каханне», «Веснавыя воды» і ў іншых творах! Ён прыпадабняе першае каханне рэвалюцыі: «Першае каханне — тая ж рэвалюцыя: аднастайна правільны лад жыцця, якое склалася, разбіты і разбураны ў адно імгненне, маладосць стаіць на барыкадзе, высока лунае яе яркі сцяг,— і што б там уперадзе яе не чакала — смерць або новае жыццё — усяму яна шле сваё поўнае захаплення прывітанне».

Зноў і зноў мудры пісьменнік ставіць у сваіх кнігах праблему грамадскага і маральнага абавязку кожнага чалавека перад жыццём, перад людзьмі. Ужо ў ранняй аповесці «Андрэй Коласаў» ён узнімае пытанне пра шчырасць і сумленнасць у каханні, пра адказнасць чалавека не толькі за кожны

свой учынак, але і за кожнае вымаўленае слова. Гэта аповесць вельмі падабалася Валодзю Ульянаву. Надзежда Канстанцінаўна Крупская ўспамінае: «Калі Ільічу было 14—15 гадоў, ён многа і з захапленнем чытаў Тургенева. Ён мне расказваў, што тады яму вельмі падабалася апавяданне Тургенева «Андрэй Коласаў», дзе ставілася пытанне пра шчырасць у каханні. Мне таксама ў гэтыя гады вельмі падабаўся «Андрэй Коласаў».

Глыбокай пашаны варты Тургенеў і за стварэнне вобраза рускай жанчыны. Тургенеўскія дзяўчаты і жанчыны — пяшчотныя і разам з тым мужныя, гатовыя да барацьбы і жыццёвых выпрабаванняў, яны бязмежна кахаюць, яны верныя высокаму маральнаму абавязку. Прывабнасць гэтых вобразаў — у адсутнасці ўсяго дробязнага і пошлага, у глыбіні і сіле іх пачуцця, у імкненні да асэнсаванага, дзейнага жыцця. Самі ўнутрана багатыя, яны імкнуцца душой да чалавека разумнага, дужага, дзейнага. Пра маральны ўплыў тургенеўскіх жаночых вобразаў выдатна сказаў Горкі: «Што гаварыў, чаму вучыў стары пісьменнік?.. Паважай сяброўку тваю, цудоўную рускую жанчыну, вучыся любіць у ёй чалавека, таварыша твайго ў цяжкай працы пераўтварэння рускай зямлі».

Высакародная сіла ўздзеяння тургенеўскіх кніг не слабее з часам. Таму я і прашу цябе, малады чытач: часцей звяртайся да старога, мудрага пісьменніка, ён узбагаціць цябе духоўна і маральна, ён навучыць цябе дабру, ён раскрые перад табой хараство свету, прыгажосць чалавека. Ён зразумее цябе, бо ён — сябар твой.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Віктар ГОВАР
- Марк ЗЯРНІЦКІ
- Барыс УСЦІНАЎ
- Ефрасіння БОНДАРАВА
- Валянціна АКУНЬКОВА
- Уладзімір ЛАСІЦКІ
- Алесь ЯСКЕВІЧ
- Вячаслаў РАГОЙША
- Мікола ЖЫГОЦКІ
- Алесь БАЧЫЛА



**Мікалай ЖУКАЎ. Дзякуй матросам!**

***Таварышы! Рабочая і сялянская рэвалюцыя, пра неабходнасць якой увесь час гаварылі бальшавікі, здзейснілася.***

***Ад гэтага часу пачынаецца новая паласа ў гісторыі Расіі, і гэтая трэцяя руская рэвалюцыя павінна ў сваім канечным выніку прывесці да перамогі сацыялізма.***

*У. І. Ленін. З даклада на пасяджэнні Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў 25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 года.*

# ЭНЕРГІЯ. СМЕЛАСЦЬ. ПОШУК.





## ТВОРЧАСЦЬ МАЛАДЫХ ДОЙЛІДАЎ

І пачынаеш хвалявацца.

Не, зусім не ад таго, што гутарыш з Паўлам Кракалёвым, архітэктарам «Мінскпраекта». Я знаёмы з ім даўно, амаль штодзень нам даводзіцца гутарыць па тэлефоне. Ён негаваркі. І зараз, калі паказвае свае новыя праекты, таксама, як заўсёды, гаворыць коратка, не ўнікаючы ў дробязі, не даючы доўгіх тлумачэнняў, не раскрываючы, як кажуць, таямніц творчасці.

Але ўглядаешся ў яго праекты, знаёмішся з першапачатковымі накідамі, бачыш доўгі і складаны шлях пошукаў, а потым апошні, закончаны варыянт, і пачынаеш хвалявацца, як пры сустрэчы з творам сапраўднага мастацтва.

Ці не перабольшваю? Ці магчыма такое — хваляванне пры сустрэчы з архітэктурным праектам? Неяк устанавілася, што хвалявацца можна, слухаючы музыку, чытаючы вершы, гледзячы кінафільм ці палатно мастака. А твор архітэктуры, дзе ёсць толькі спалучэнне форм, ліній, розных фактурных плоскасцей і яшчэ чаго-небудзь «няпэўнага» — ці можа ён выклікаць хваляванне? Не проста светлы настрой альбо змрочны, што мы адчуваем, напрыклад, у пэўным архітэктурным асяроддзі, а амаль эстэтычную катэгорыю: хваляванне ад сустрэчы з творам мастацтва?

Я знаёмлюся з праектнай прапановай комплексу будынкаў Інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі, якім быць у Мінску на тэрыторыі сённяшняй Балотнай станцыі. Прапанова ўжо ўхвалена ва ўсіх інстанцыях, у Міністэрстве меліярацыі і воднай гаспадаркі СССР адзначана высокая якасць праекта. Зараз выконваюцца рабочыя чарцяжы, паводле якіх і будзе весціся канкрэтнае будаўніцтва.

Здавалася, што можна было б зрабіць па гэтаму радавому праектнаму заданню? Такіх інстытутаў у нас ужо напраектавана нямала. Звычайная каробка, побач стаіць яшчэ адна, і ў дадатак яшчэ аднапавярховая каробачка. Зрабіў паводле моды стужкавыя вокны, а маленькімі, накшталт байніц, вокнамі дэкарыраваў глухі тарэц, прыладзіў аднапавярховую прыбудову шкла. Вось і інстытут. Прыгожа? Няблага. Сучасна? Так. Светлы настрой выклікае? Выклікае. Хвалюе? Не... Дзе ж прычына?

Цяжка сказаць. Здаецца, і Павел не вельмі адышоў ад агульнапрынятай схемы — ёсць у яго і дзесяціпавярховая каробка, і ніжэйшыя каробкавыя прыбудовы. Але жорсткай, аскетычнай прамалінейнасці тут не адчуваецца. Больш таго, каробка, якая абрыдала і на якую мы звальваем усе архітэктурныя няўдачы, прыгаворваючы: вось каб іх не было, дык была б цікавая архітэктура,— тая самая каробка не замінае прыгажосці, яна нават па-



Архітэктар Павел Кракалёў і яго праект.

трэбна тут. І не зважаеш — у адмоўным сэнсе — ні на стужкавыя вокны, ні на бетонныя паясы: той прыём, які ўжо занадта пашыраны, стаў банальным і атрымаў нават пагардлівую назву «цяльняшка». А ў Кракалёва і «цяльняшка» дарэчы. Дакладней кажучы, нейкім чынам пазбавілася сваёй банальнасці.

Разглядаю фасады, намаляваныя блакітна-шэрай пастэллю на вялікіх аркушах ватману, наклееных на планшэты. Малюнкі простыя, без залішняй дэталізацыі, скульптурна выразныя — яны цудоўна перадаюць матэрыял будынкаў.

Уявіце сабе, што вы глядзіце на інстытут аднекуль з далёкага пад'езду да вуліцы Горкага. Першае, што ўражвае,— гэта аднalітная цэласнасць комплексу. Некалькі разнастайных аб'ёмаў, дапасоўваючыся адзін да аднаго і падтрымліваючы адзін аднаго ўнутраным ладам, рытмікай плоскасцей і ліній, зліваюцца ў пластычна выразны ансамбль.

Якое яго эмацыянальнае гучанне? Ад яго павявае спакоем і сілай. Гэтую ўстойлівасць на зямлі надае яму вертыкальны масіўны аднalітны элемент, накшталт высокага цыліндра, які стаіць побач з дзесяціпавярховым домам. Ён быццам падтрымлівае гэты дом, што абапіраецца не на сцены першага паверха, а толькі на тонкія, рэдка пастаўленыя слупкі. «Преодоление несущих конструкций», як сказаў паэт, тут выяўлена даволі яскрава — здаецца, толькі на гэтым цыліндры і вісіць у паветры вялізны гмах. З другога боку гэты вертыкальны элемент ураўнаважваюць шырокія ўстойлівыя пілоны доўгага будынка, у якім размесціцца гідратэхнічная лабараторыя, дакладней кажучы, гідратэхнічны палігон у вялізарным ангары.

Крышку інакшае ўражанне ад другога фасада. Ён менш суровы, пластычна больш разнастайны. Тут, напрыклад, кідаецца ў вочы масіўны паралелепіпед актавай залы, які нібы прабівае дах шкляной аднапавярховай прыбудовы і ўзвышаецца на некалькі метраў над ёй. На строгі рытм пілонаў гідратэхнічнай лабараторыі без шкляных праёмаў накладваецца гарызантальная паласа з вузкай гарызантальнай шчылінай акна. Але і тут агульнае гучанне стрыманае, ураўнаважанае, і таксама ствараецца ўражанне ўстойлівасці і сілы.

Можна абысці вакол усяго будынка, і нідзе не сустрэнеш так званых «дваровых» фасадаў — таго недарэчнага падзелу на параднае і другараднае, што не так даўно рабілі архітэктары. Увесь будынак — гэта нібы велізарная, дакладна выпрашаная пластычна, лаканічна-стрыманая скульптура.

Напісаў гэтыя словы, і цэлы вір думак закруціўся ў галаве. Спрэчкі, супярэчлівыя выказванні ў прэсе і ў прыватных гутарках, імкненне кіравацца ў сваёй практычнай творчасці аднымі палажэннямі і не кіравацца іншымі... Я, здаецца, выходжу на шумнае скрыжаванне тэарэтычных і практычных архітэктурных дарог сучаснасці.

Сёння ў слове, заўтра — у праектах, а паслязаўтра — у збудаваннях! І таму нельга абысці маўчаннем гэтыя спрэчкі — усе, нават самыя абстрактныя думкі маюць непасрэдны ўплыў на архітэктурную творчасць, выяўляюцца рана ці позна ў лініях, аб'ёмах, плоскасцях, спалучэннях фарбаў, фактур і іншых элементаў ансамбляў гарадоў і вёсак. Гэта не проста пустыя размовы. Па іх можна неяк меркаваць і вызначаць недалёкую і больш аддаленую будучыню нашай архітэктуры, зразумець хоць бы прыблізна, чаму, напрыклад, Павел Кракалёў менавіта так, а не інакш вырашыў свой праект інстытута.

Каб даць хоць невялікае ўяўленне пра гэтыя гарачыя спрэчкі, прывяду кароткую справаздачу з адной дыскусіі маладых беларускіх дойлідаў, што аднойчы адбылася ў мінскім Доме архітэктара.

Аб'ява заклікала:

**Да ўвагі маладых архітэктараў! У мінскім Доме архітэктара сустрэча за круглым сталом!**

**Тэмы абмеркавання:**

**наватарства і пераймальніцтва;**

**арыгінальнасць і праблема творчай ініцыятывы;**

**творчы калектыў і індывідуальнасць;**

**нацыянальная своеасаблівасць архітэктурных форм;**

**архітэктурная фантазія і рэальнасць.**

І ў прызначаны тэрмін у канферэнц-зале Дома архітэктара за круглым сталом сядзелі архітэктары і гаварылі. Такая адкрытая гутарка па вострых пытаннях архітэктурнай творчасці праходзіла ўпершыню. І архітэктары-практыкі, якія прывыклі працаваць за чарцёжнымі сталамі, абдумваючы праекты, і архітэктары-тэарэтыкі, што паглыбляюцца ў тэарэтычную літаратуру і выношваюць, пішуць свае дысертацыі, і студэнты, якія толькі пачынаюць пазнаваць асновы архітэктурнай навукі і практыкі, спрабавалі, сабраўшыся разам, высветліць нейкія асноўныя законы, паводле якіх трэба весці і практычную работу, і тэарэтычныя пошукі.

Было многа пытанняў, пастаўленых мімаходзь, па якіх не атрымалася грунтоўнай гутаркі, і па якіх, як вырашылі ўдзельнікі круглага стала, належала б пагаварыць на наступных пасяджэннях, запрасіўшы прадстаўнікоў іншых творчых саюзаў — пісьменнікаў, кінематаграфістаў, мастакоў і людзей, ад чыіх рашэнняў залежыць развіццё нашай практычнай архітэктуры — работнікаў Дзяржбуда, гарвыканкома, будаўнікоў.

Спрэчкі ў асноўным сканцэнтраваліся вакол пытанняў нацыянальнай своеасаблівасці архітэктуры і пошукаў архітэктурнага вобраза — праблем, якія ў многім перакрыжоўваюцца, залежаць адна ад адной.

— Архітэктура,— сказаў архітэктар **Юры Патапаў**,— гэта пэўны від мастацкай творчасці на функцыянальнай, канструктыўнай і эстэтычнай аснове.

І ён расшыфраваў сваё палажэнне.

— Калі,— сказаў ён,— я ствараю кафэ, я павінен зрабіць так, каб у чалавека абуджаўся апетыт, толькі глянуўшы на яго, калі кінатэатр — каб чалавек мог у ім адпачыць. Прызначэнне кожнага аб'екта, яго функцыю,

архітэктар павінен перадаць як мага больш выразна. Але толькі канструкцыя і толькі функцыя — яшчэ не архітэктура. Трэба дадаць сюды ўласна архітэктурную творчасць. І тут узнікае галоўнае пытанне: як тварыць, як ствараць архітэктурны вобраз?

Удзельнікі круглага стала паглыбілі і завастрылі пастаўленае пытанне. Як і што павінен увасобіць у сваім творы архітэктар? Ці можна выкарыстаць у сучаснай архітэктурнай творчасці традыцыі ранейшай нацыянальнай архітэктуры і мастацтва? А можа сучасная архітэктура, якая карыстаецца новымі канструктыўнымі матэрыяламі, стварае дамы і збудаванні, новыя па прызначэнню, павінна шукаць і новыя архітэктурныя формы, арыгінальныя, небывалыя? Але, у такім разе, што павінна легчы ў аснову пошукаў архітэктурнага вобраза? Ці ёсць якія-небудзь псіхалагічныя, эстэтычныя і іншыя перадумовы для стварэння такога вобраза? І ці можа, ці павінен ён выказваць нешта нацыянальнае?

Пытанні былі пастаўлены ўсебакова. Думкі раздзяляліся.

Адзін з крайніх пунктаў погляду абараняў архітэктар **Генрых Губіш.**

— Наша архітэктура,— гаварыў ён,— доўгі час была ў застоі. Пасля рэвалюцыйных дваццатых гадоў перыяду канструктывізму яна вярнулася да псеўдакласіцызму. А сусветная архітэктура працягвала бурна развівацца, стварыла многа цікавага. Таму нам, архітэктарам, сёння патрэбна ў першую чаргу авалодаць апошнімі архітэктурнымі дасягненнямі.

Падобныя думкі выказаў і архітэктар **Валянцін Калнін.** Ён гаварыў пра тое, што раней, да рэвалюцыі, беларусы жылі ў курных хатах з падслепаватымі вокнамі. Сёння, дзякуючы прагрэсу, мы атрымалі ацяпленне, асвятленне, газ, водаправод і іншыя зручнасці, новыя будаўнічыя матэрыялы. У сваёй рабоце архітэктар не можа сённяісці ад мінулага вопыту: вельмі розныя гэтыя тады і цяпер! Архітэктар творыць па новых законах, на аснове якіх працуюць усе архітэктары свету. Але гэта не значыць, што можа з'явіцца адзіная міжнародная архітэктура. Розныя геаграфічныя і кліматычныя ўмовы выклічуць і розныя кірункі архітэктурнага развіцця. І таму, што мы не можам выкарыстаць традыцыі, гаварыў далей Калнін, мы іх сёння выдумваем. Але ж у прынцыпе традыцыі павінны складвацца. Трэба даць час, каб яны склаліся і ў нашай архітэктурнай творчасці.

Такое пасіўнае стаўленне да архітэктурнага развіцця, нятворчая перапрацоўка дасягненняў інтэрнацыянальнай архітэктуры выклікала шматлікія пярэчанні.

— Нацыянальнае — база, на якой развіваецца фантазія архітэктара,— заявіў архітэктар **Дзмітры Кудраўцаў.**

Ён даказваў, што архітэктура кожнага народа павінна быць самабытная. Гарады павінны адрознівацца адзін ад аднаго. Калі прыедзеш у чужы горад, трэба, каб у ім было нешта сваё, чым можна падзівіцца. Прыбалтыйская архітэктура больш самабытная, чым беларуская, яна і больш арганічная. У Прыбалтыцы няма, як у нас, эклектыкі (хоць, як гаварылі потым архітэктары, яна таксама не нясе нацыянальных рысаў).

— Прыбалты,— гаварыў далей Кудраўцаў,— умела карыстаюцца, напрыклад, дэталямі. У іх нацыянальнае часта выяўляецца толькі ў дэталях. Даюць, напрыклад, звычайную сілікатную цэглу, аднак на дзверы — каваную дэталь. І адразу складваецца вобраз. Ці варта і нам ісці гэтым шляхам? Ці могуць арнамент і іншыя дэталі стварыць архітэктурны вобраз? Відаць, дэталь патрэбна. Я таксама хачу іншы раз яе прымяніць. Але што ўзяць? Матывы слуцкага пояса? Гэта, мне здаецца, несучасна. Я хачу, каб гэта было сучасным, на ўзроўні ўспрыняцця чалавека дваццатага стагоддзя...

За круглым сталом быў падрабязна прааналізаваны «метад» стварэння архітэктурнага вобраза пры дапамозе «каванай» дэталі. Пытанне было па-

стаўлена так: карыстаючыся легендай, фальклорам, ці можна дабіцца самабытнасці ў архітэктуры? У Прыбалтыйскіх рэспубліках, гаварылі ўдзельнікі круглага стала, працуюць у гэтым кірунку даволі паспяхова. Аднак, як заўважыў Юры Патапаў, апрацоўка легенды — гэта толькі літаратуршчына. Архітэктурны вобраз яшчэ не ствараецца.

Асістэнт кафедры архітэктуры Беларускага політэхнічнага інстытута **Анатоль Занеўскі** паспрабаваў высветліць аснову, на якой узнікае, на яго думку, нацыянальнае, самабытнае ў архітэктуры. На стварэнне архітэктуры, сказаў ён, уплываюць геаграфічнае становішча, тэмперамент аўтара і, зразумела, у першую чаргу, сацыяльныя ўмовы. Геаграфічнае становішча абумоўлівае, напрыклад, што архітэктура Беларусі і поўначы Украіны будзе падобная. Але калі ў нас з'явіцца архітэктар, які здолее ярка паказаць сябе і праз сябе душу і псіхалогію свайго народа,— у нас будзе і самабытная архітэктура.

З такой трактоўкай згадзіліся многія архітэктары. Трэба, як гэта было ў 20-я—30-я гады, каб у нас з'явіліся архітэктурныя школы на чале з вядомымі майстрамі — са сваімі тэарэтычнымі платформамі, пэўнай практычнай накіраванасцю работы. Сёння архітэктура ў многім ананімная. Аўтараў часам цяжка адрозніць адзін ад аднаго. Гэта звязана і з тым, гаварылі архітэктары, што ў нас існуе вельмі многа інстанцый, дзе трэба ўзгадняць і зацвярджаць праект. У выніку такой «апрацоўкі», падладжвання пад мноства заўваг з'яўляюцца пасрэдныя, шэрыя, нічым не адметныя творы.

Пры ўсім гэтым яшчэ недастаткова высокая і культура нашай архітэктурнай творчасці. Каб узняць яе, сказаў Занеўскі, трэба ўстанаўліваць творчыя кантакты адзін з адным. Часцей збірацца, абменьвацца думкамі, спрачацца, шукаць рашэнні многіх пытанняў.

Я расказаў пра гэтую спрэчку за круглым сталом сцісла і з пэўнай паслядоўнасцю. Маладыя архітэктары шукаюць адказ на пытанне, якім шляхам трэба ісці ў сваёй рабоце. Магчымасці сённяшняй будаўнічай тэхнікі такія вялікія, што яна можа імітаваць любы твор любой мінулай эпохі і можа паставіць такое, чаго ніколі яшчэ не было на свеце — арыгінальнае з арыгінальнага — толькі прыдумай!

І як жа тут выказаць сябе, каб гэта было не проста самавыяўленне, але і адлюстраванне духу нашай эпохі і адлюстраванне нацыянальнае, беларускае?

Мне здаецца, нібы гаворыць сваёй апошняй работай Павел Кракалёў, трэба дбаць пра нацыянальнае. Магчыма, гэта пераклікаецца з нашымі даўнімі традыцыямі, вядзе пачатак ад іх.

Калнін, кажучы, што мы не можам выкарыстаць мінулы вопыт, бо яго не было, памыляецца. У яго няправільныя адносіны да традыцый. Ён шукае ў мінулым рэцэпты для сённяшняй творчасці. Гэта абсурд. Рэцэптаў для творчасці ніколі не было. І тым болей — іх ніколі не давала мінулае. «Лепшае, у чым трэба пераймаць старажытных,— гэта не пераймаць іх»,— сказаў паэт Пётр Вяземскі. Але гэта не азначае, што традыцыі — катэгорыя толькі гістарычная і практычна бескарысная. У архітэктурных традыцыях скандэнсаваны вопыт не толькі будаўнічы, але і эстэтычны, духоўны. Калнін не бачыць там, у мінулым, патрэбнага нам будаўнічага вопыту і на гэтай падставе адмаўляецца ад традыцый. Але ж ёсць, напрыклад, Белая вежа, ёсць Мірскі замак, ёсць рэшткі Лідскай і Навагрудскай крэпасцей. Творы лаканічныя, суровыя, мужныя. Відаць, гэтую традыцыйную рысу нашай архітэктуры можна ўзяць на ўзбраенне, можна яе развіваць.

Асабіста мне, нібы працягвае сваю гаворку праект Паўла Кракалёва, падабаецца скульптурнае вырашэнне архітэктурнага твора, бо яно процістаіць другой плыні, пачатай нямецкім Баухаузам і працягнутай сусветна вядомым архітэктарам Міс ван дэр Роэ, у аснове якой ляжыць стварэн-

**МІНСКІ ПАЛАЦ СПОРТУ** на Паркавай магістралі. Ён ужо адбудаваны. Беларускія дойліды **ВАЛЯНЦІН МАЛЫШАЎ** і **СЯРГЕЙ ФІЛІМОНАЎ** працуюць у «Белдзяржпраекце». Спакойны, разважлівы, удумлівы Валянцін і энергічны, з жвавым позіркам, хударлявы Сяргей. Мабыць, гэта ўдалая творчая садружнасць, і, мабыць, асноўныя рысы характараў дойлідаў праявіліся ў новым збудаванні, якое стала ўпрыгожаннем Паркавай магістралі — вуліцы, што будзе і ўжо становіцца найпрыгажэйшай у нашай сталіцы. Дынамічныя формы і разам з тым манументальнасць, моц, устойлівасць. І гэты будынак нібы задае асаблівы маштаб, асаблівы вобразны лад усёй Паркавай магістралі, кожнаму яе кутку, нават асобным дэталям. Тут абы-што не паставіш, бо не «прывяжашся»!



●

**ПАРКАВАЯ МАГІСТРАЛЬ** — гэта не проста адна з новых вуліц горада. Яна — частка так званага другога дыяметра сталіцы, які пройдзе па вуліцы Леніна, перасячэ Ленінскі праспект, апусціцца да Свіслачы і праз яе нацянькі рушыць да Партызанскага праспекта. На фотаздымку вы бачыце групу маладых беларускіх дойлідаў **ГАЛІНУ ГОРЫНУ, ІГАРА КАРАЛЯ, УЛАДЗІМІРА ІГНАЦЬЕВА** і **ЭЛЬВІРУ АФАНАСЬЕВУ**, якія ўдзельнічаюць у распрацоўцы гэтай магістралі. У процівагу першаму дыяметру — Ленінскаму праспекту, на якім здзейснена рэгулярная паквартальная забудова дамамі ў 5—8 паверхаў, — другі дыяметр атрымлівае свабодную, буйнамаштабную планіроўку. Архітэктары прапануюць максімальна выкарыстаць багаты рэльеф — другі дыяметр перасякае ў некалькіх месцах раку Свіслач, у пойме якой ствараецца сістэма паркаў, сквераў і бульвараў. На ўзгорках узнікнуць выразныя архітэктурныя комплексы. Нізкія доўгія гарызантальныя аб'ёмы магазінаў, культурна-асветных устаноў будуць эфектна спалучацца з імклівымі вертыкалямі вежавых дамоў. Заслугоўвае ўвагі прапанова аддзяліць ад транспартнай магістралі пешаходны рух. Ён пройдзе па паралельных вуліцах, якія таксама будуць значна рэканструяваны. У некаторых месцах другога дыяметра аўтамабільныя патокі з мэтай разгрузкі гарадскіх магістралей прапануецца прапусціць пад вуліцамі. Сёння яшчэ нельга нічога гаварыць пра гэты праект, бо ідзе Усесаюзны конкурс, у якім, акрамя «Мінскпраекта», удзельнічаюць буйнейшыя праектныя інстытуты краіны. Яшчэ рана раскрываць прафесіянальныя таямніцы.









За жылымі дамамі на Паркавай магістралі ўзнёсся светлы прамавугольнік ГАСЦІНІЦЫ. І яна вырашана з удзелам маладога архітэктара «Белдзяржпраекта» УЛАДЗІМІРА НАЧАРАВА.

На пачатку Паркавай магістралі, ля плошчы Свабоды, узняўся строгі паралелепіпед БУДЫНКА ПРАЕКТНЫХ ІНСТЫТУТАЎ. У яго праектаванні прымаў удзел малады беларускі дойлід ЛЕЎ МІЦКЕВІЧ.



# ПРАЕКТУЮЦЬ МАЛАДЫЯ

Ладны кавалак магістралі да гасцініцы яшчэ не забудаваны. Вось адна з прапаноў, зробленая АБРАМАМ ДУХАНАМ і маладымі архітэктарамі УЛАДЗІМІРАМ ТРАЦЭЎСКІМ ды СВЯТЛАНАЙ УЛЬЯНАВАЙ. Тут цэлы КОМПЛЕКС ЗБУДАВАННЯЎ. У высотных дамах, што павернуты да дарогі тарцамі, размесцяцца выдавецтвы, Беларускі інстытут навукова-тэхнічнай інфармацыі і тэхніка-эканамічных даследаванняў. Паміж дамамі стануць нізкія аб'ёмы магазінаў і іншых грамадскіх устаноў.





Яшчэ два прыклады пошуку пластычнай выразнасці фасадаў. **АДМІНІСТРАТЫЎНЫ БУДЫНАК**, які стане на вуліцы Някрасава ў Мінску (архітэктар **ІГАР ЕСЬМАН**), і інтэрнат у пасёлку трактарнага завода (архітэктары **ЛЕАНІД ЛЕВІН** і **АНАТОЛЬ СНАДСКІ**). Аўтары «абыгралі» тут ліфтавыя ствалы і лесвічныя клеткі.



Спалучэнне нізкіх працяглых гарызантальных аб'ёмаў і вежавых дамоў — адзін з прыёмаў, якімі сёння даволі актыўна карыстаюцца архітэктары. Гэта дазваляе падкрэсліць вышыню будынка, стварае дынамічны пачатак. Гэта **КОМПЛЕКС ПРАЕКТНЫХ ІНСТЫТУТАЎ**, што размесціцца ў Мінску ў раёне Старажоўскай вуліцы. Працавалі над ім маладыя дойліды «Мінскпраекта» **БАРЫС ЛАРЧАНКА** і **АРТУР ЯРУШЫН**. У вырашэнні фасадаў аўтары імкнуліся пазбегнуць аднатоннасці, аднастайнасці, і ў той жа час паказаць асаблівую трываласць і лёгкасць сучасных жалезабетонных канструкцый. Тут спалучаюцца глухія тарцы з амаль суцэльным ашкленнем, бетоннымі паясамі. Кантрасна выглядаюць рознапавярховыя аб'ёмы.

→





**ПЕДАГАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ У ВІЦЕБСКУ** размесціцца на свабоднай тэрыторыі. Аўтары праекта — віцебскія архітэктары **УЛАДЗІМІР ЗУБКОЎ, ЗІНАІДА КОНАШ.** Службы інстытута,— спартыўныя і актавыя залы, сталовая, асобныя лабараторыі і іншае,— кампануюцца вольна, асіметрычна. Атрымліваецца натуральная кампазіцыя, якую, здаецца, прадыктавала сама ўнутраная логіка арганізацыі студэнцкай вучобы і жыцця.





*Гэты дзевяціпавярховы дом* прызначаецца для **УПРАЎЛЕННЯ АХОВЫ ГРАМАДСКАГА ПАРАДКУ.** Тут будуць розныя міліцэйскія службы. У аднапавярховай прыбудове з арыгінальнымі геаметрычнымі элементамі — актавая зала. **ГЕНРЫХ ГУБІШ,** аўтар праекта будынка, архітэктар з «Мінскпраекта», шукае адмысловае вобразнае гучанне.





Такі КІНАТЭАТР авальнай формы мяркуецца паставіць у Мінску. Масіўны авал у пярэдняй частцы зрэзаны наўскасяк і, здаецца, вісіць у паветры. Адкрытая тэраса на ўзроўні другога паверха падкрэслівае лёгкасць і трываласць жалезабетонных канструкцый. Кінатэатр разлічаны на 1400 чалавек. У яго авальнай зале з амфітэатрам можна будзе глядзець не толькі фільмы, але і праводзіць розныя сходы.

Фае зроблена так, каб чалавек, які прыйшоў глядзець кіно, мог добра адпачыць. На першым паверсе — вялікае фае з кафэ, танцавальнай пляцоўкай, эстрадай, гардэробам. Тут няма перагародак, адна прастора «перацякае» ў другую. Аўтар праекта новага будынка — архітэктар «Белдзяржпраекта» **ВАЛЯНЦІН МАЛЫШАЎ.**

●



«Белгіпрагандаль», інстытут, які займаецца праектаваннем гандлёвых будынкаў і інтэр'ераў, бадай, самы малады. Яму толькі гады тры. Ды і моладзі тут больш, чым у іншых інстытутах. Яго архітэктары робяць смелы творчы пошук. Прапануем увазе адну з апошніх работ.

**УНІВЕРСАЛЬНЫ МАГАЗІН ДЛЯ ГОМЕЛЯ.** Ён узнімецца каля тэлестудыі, побач з новым цыркам. Універмаг нязвыклых форм. Ён складаецца з двух аб'ёмаў — трохпавярховага, у якім будзе весціся гандаль, і чатырнаццаціпавярховага для адміністрацыі і складаў. Пры будаўніцтве гандлёвага блока будзе ўжыты металічны каркас з шырокім крокам — 12 метраў калона ад калоны. Пакупнікоў павязуць наверх эскалатары. У залах установяць навейшае гандлёвае абсталяванне, пададуць кандыцыяванае паветра. Праектавалі ўніверсмаг архітэктары **ВАЛЬМЕН АЛАДАЎ і ЯЎГЕН ЦВІНГЕЛЬ.**

●

Дамы з блокаў і больш буйных дэталей — адна панель на ўсю сцяну — так будуем мы сёння. Усе работы, акрамя мантажу дома і аздаблення, выконваюцца на заводзе, індустрыяльным спосабам, на патоку. Але архітэктарская і інжынерская думка прапануе ўжо новыя, яшчэ больш прагрэсіўныя індустрыяльныя метады будаўніцтва. Архітэктары **ЮРЫ ШПІТ і УЛАДЗІМІР ЦЯМНОЎ** распрацавалі **ПРАЕКТЫ ЖЫЛЫХ ДАМОЎ З БЛОК-ПАКОЯЎ.** На заводзе рыхтуюцца пакоі, кухні, ванныя, санвузлы, прыхожыя — цалкам. Тут усё пафарбавана, замацавана на сваіх месцах. На месцы гэтыя блок-пакоі толькі састаўляюць і змацоўваюць.

На дом ідзе менш бетону — працэнтаў на 20—25 у параўнанні з буйнапанельным. Гэта значна зніжае кошт будаўніцтва. Сцены двайныя, і паміж імі знаходзіцца паветра, а таму паляпшаецца гукаізаляцыя.

Некалькі такіх эксперыментальных дамоў пастаўлена ўжо ў мікраёнах Мінска. Будуецца спецыяльны завод па выпуску такіх дамоў з блок-пакояў.



не эфекту нематэрыяльнасці, паветранасці, адсутнасці масы, нават абстрактнасці. Школа Міс ван дэр Роэ, якой так захапляюцца часам на захадзе, не мае карэнняў у нашай архітэктурнай гісторыі, і мне здаецца, пошукі шляхоў яе развіцця абмежаваны. Яна тоіць у самой сабе ўнутраны крызіс. Скульптурнае вырашэнне больш прываблівае, хоць тут адразу ўзнікае шмат розных складаных пытанняў...

Я разглядаю праект, і мне здаецца, што ён заяўляе менавіта так. Гэта ўжо не проста тэарэтычная пазіцыя, а практычнае ўвасабленне палажэнняў, адказ творчасцю.

Аднак тое знешняе, што мы бачым у архітэктуры,— фасады,— гэта яшчэ не ўся архітэктура. Гэта толькі шкарлупіна. Архітэктурныя ж знешнія формы могуць нібы пранікаць унутр аб'ёмаў. Інакш кажучы, унутраны змест архітэктурных збудаванняў можа нейкім чынам пакідаць след на фасадах. Гэтую асаблівасць завуць тэктанічнасцю. У гэтым — арганічнасць архітэктурнага вобраза. І гэта больш вабіць, чым імкненне некаторых нашых аўтараў ужыць сучасныя архітэктурныя формы, каб зрабіць свае збудаванні прыгожымі і сучаснымі. Яны, напрыклад, «малююць» на фасадзе для прыгажосці бетонныя рашоткі, ставяць да даху ўяўныя кафэ, салярыі і іншае. І вось чаму я пачынаю апошні прыдзірлівы допыт новага праекта Паўла Кракалёва — экзамен на арганічнасць. Я пытаюся:

— Нашто тут пастаўлены вялікі цыліндр ля дзесяціпавярховага корпуса? Ён патрэбны для ўраўноўвання мас, але ж ён, мабыць, не толькі ўпрыгожанне?

— У ім змешчаны ліфты і лесвіцы,— адказвае коратка і дакладна аўтар.— Я мусіў вынесці іх з каробкі, каб зменшыць у лабараторным корпусе ўзровень шумаў і электрычных перашкод. Мне прапаноўвалі ўціснуць яго ў дом, але я не згадзіўся — гэта было б і не функцыянальна, і знік бы мастацкі эфект. А менавіта такім, крывалінейным у плане і масіўным, зрабіць — гэта ўжо права мастака.

— Добра, згаджаюся. А сцяну ў нізкай прыбудове, гідратэхнічнай лабараторыі, рабрыстай вы зрабілі для якой мэты? Толькі для мастацкага эфекту?

— Не толькі. Яе вышыня дванаццаць метраў. Калі б яна была гладкая — трэба было рабіць яе тоўстай. Рэбры надаюць ёй трываласць, і яна можа быць тонкая. Эканомія матэрыялу, і адначасова — мастацкі эфект.

— Вось тут на гідратэхнічную лабараторыю накладваецца гарызантальная глухая паласа з вузкай шчылінай акна, а потым ідзе суцэльнае шкло. Гэта што, толькі эфект?

— Гэта — сталовая. А там, дзе вузкая гарызантальная шчыліна акна — яе падсобныя памяшканні. Не заўсёды кухня — рэч прыемная, каб на яе глядзець.

— А што гэта за ўстаўка? — пытаюся, паказваючы на невялікі прамавугольнік амаль суцэльнага ашклення, што гарызантальна накладваецца ў адным месцы на дзесяціпавярховы дом.

— Канферэнц-зала. Святло падае злева. А тут, у левай частцы, дзе глухі бетон,— сцэна...

Вось гэта захапляе: паслядоўнасць, арганічнасць выказвання, дакладнае выяўленне архітэктурнымі сродкамі прызначэння або, як гавораць архітэктары, функцыі кожнага памяшкання і зліццё гэтых разнастайных сэнсавых архітэктурных элементаў у адзінае мастацкае цэлае ансамбля. Бачыш і адчуваеш знітаванасць, мастацкую завершанасць і выразнасць архітэктурнай работы. І гэта хвалюе, як сапраўдны твор мастацтва.

Так падрабязна я спыніўся на адной з апошніх работ Паўла Кракалёва таму, што яна, мне здаецца, дае пэўнае ўяўленне аб узроўні сённяшняй творчасці маладых беларускіх архітэктараў, нібы ў фокусе наглядна збірае

ў сабе і імкнецца вырашыць з пэўнай паслядоўнасцю і пэўным творчым крэда вынікі сучасных архітэктурных дыскусій, імкнецца намацаць шляхі далейшай архітэктурнай творчасці.

І нельга сказаць, што гэта адзіная цікавая работа маладога беларускага дойліда. Хутчэй можна сказаць, што яна — адна з многіх.

Заходзіш у любую майстэрню праектнага інстытута — і вочы літаральна разбягаюцца, не ведаеш, на чым спыніць позірк: на сценах, на чарцёжных сталах, прытуленыя цэлымі штабялямі да сцен,— праекты, праекты. праекты. Некаторыя ўжо ўвасабляюцца ў камень і шкло, некаторыя толькі прапрацоўваюцца. Шукаюць агульныя абрысы, вобразнае гучанне, рух ліній, плоскасцей, спалучэнне колераў, пластыку, шукаюць вырашэння тэктанічнасці, адзінства, шукаюць найбольш удалае функцыянальнае размяшчэнне, увязваюць усё з ландшафтам, з прыродай, з новай і ранейшай гарадской забудовай. І шукаюць маладыя. Не тое што асобыя майстэрні, а нават цэлыя вялікія праектныя інстытуты маюць увогуле маладзёжны ўзрост.

Творчая энергія, творчая смеласць, творчы пошук — характэрныя рысы маладой беларускай архітэктуры, якая сёння ўсё мацней і мацней заяўляе аб сабе асобнымі будынкамі і ансамблямі. Мяркуючы па шматлікіх новых праектах, ёй належыць вялікая будучыня.

**Віктар ГОВАР.**

# ЛЕТАПІС ВЯЛІКАГА ЧАСУ

**Калі вы заходзіце ў гэтае памяшканне, вам здаецца, што трапілі ў нейкі асаблівы свет.**

**Гэта—газетасховішча. Тут сабраны перыядычныя выданні за апошняе пяцідзесяцігоддзе. Яны маўчаць, гэтыя камплекты. Але варта раскрыць любы з іх—і яны загавораць. Старонкі газет адродзяць час, які ніколі не сатрэцца ў народнай памяці.**

**Першыя савецкія газеты ў Беларусі... Летапісы вялікага часу.**

●

Старэйшая ў рэспубліцы газета **«Звязда»** ў мінулым годзе адзначыла свой паўвекавы юбілей. Яна равесніца Кастрычніка. Перагорнем пажоўклыя старонкі камплектаў газеты першых паслярэвалюцыйных гадоў.

У 1918 годзе ў сувязі з акупацыяй Мінска нямецкімі войскамі газета выходзіла ў Смаленску. Галоўнае месца ў ёй займалі матэрыялы, якія мабілізоўвалі савецкіх людзей на барацьбу з ворагам. Змяшчаліся інфармацыйныя заметкі і карэспандэнцыі пад рубрыкай «У акупіраваным краі». Са старонак «Звезды» (газета выходзіла тады на рускай мове) чытачы даведваліся пра цяжкае становішча насельніцтва, якое апынулася на акупіраванай тэрыторыі.

10 снежня 1918 года Чырвоная Армія вызваліла Мінск. Нумар «Звезды» за 11 снежня выйшаў з перадавым артыкулам: «Мінск зноў наш».

У 1919 годзе ў газеце былі апублікаваны важныя гістарычныя дакументы: аб Першым з'ездзе КП(б) Беларусі, Маніфест Часовага рэвалюцыйнага Рабоча-Сялянскага ўрада Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, аб першым Усебеларускім з'ездзе Саветаў, на якім прадстаўніком ад ЦК РКП(б) і ВЦВК быў Я. М. Свярдлоў. У нумары за 8 лютага 1919 года «Звезда» апублікавала прынятыя Першым Усебеларускім з'ездам Саветаў тэкст Канстытуцыі БССР.

На відным месцы друкаваліся спісы мабілізаваных на фронт камуністаў і камсамольцаў Мінска. «Звезда» на яркіх фактах паказвала ролю ка-



ЗВЕЗДА

ДОБИЛИ ВРАНГЕЛЯ!

И ДРУГИХ БАНДИТОВ.

ЖЕЛЕЗНАЯ МЕТЛА РЕВОЛЮЦИИ МЕТЕТ НА СЛАВУ.

КРАСНАЯ АРМИЯ

муністаў у дзеючых часцях Чырвонай Арміі.

Шырока асвятляла газета прыезд у Беларусь і на Заходні фронт у чэрвені 1919 года старшыні ВЦВК Міхаіла Іванавіча Калініна з агітпоездам «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Сустрэчам яго з мінчанамі газета прысвяціла паласу пад агульным загалоўкам «Таварыш М. І. Калінін у Мінску».

«Звезда» бязлітасна выкрывала здрадніцкую дзейнасць эсэраў і меншавікоў. Вялікі ўдзел газета прыма-

ла ў гаспадарчай і культурна-выхаваўчай рабоце партыі.

Пасля жорсткіх баёў белапалякі 8 жніўня 1919 года авалодалі Мінскам. Але газета не спыніла сваю дзейнасць. Выданне яе было перанесена ў Смаленск.

У вызваленым Мінску газета выйшла 8 жніўня 1920 года. На ёй значыўся нумар 1 (572), які напамінаў чытачу пра вялікі шлях, пройдзены з 1917 года.

У першы перыяд свайго выхаду ў Мінску газета заклікала яшчэ мацней трымаць вінтоўку. Аб усіх закулісных махінацыях інтэрвентаў газета давала шырокую інфармацыю пад загалоўкам «Дапамога Антанты адыходзячай шляхце».

Закончыўшы вайну з белапанскай Польшчай, Савецкі ўрад рушыў узброеныя сілы супраць Урангеля. «Звезда» заклікала лепшых, самых стойкіх сыноў Беларусі адправіцца добраахвотнікамі на Паўднёвы фронт. Для Беларусі яшчэ заставалася рэальная пагроза з боку контррэвалюцыйных банд. Банды Балаховіча заварушыліся ў зоне Мазыра. «Звезда» кінула заклік: **«Даб'ем Балаховіча! З Балаховічам, бандытам і пагромшчыкам, у нас ніякіх размоў не можа быць... Дабіць Балаховіча!—вось лозунг, які ў нас у Беларусі павінен знайсці водгук у самых шырокіх масах насельніцтва»** (13 лістапада 1920 года).

17 лістапада газета выйшла з радасным паведамленнем, якое займала ўсю першую паласу:

**«Дабілі Урангеля!**

**Даб'ём Балаховіча, Савінкава і іншых бандытаў.**

**Жалезная мятла рэвалюцыі мяце на славу.**

**Няхай жыве доблесная Чырвоная Армія!»**

А праз месяц, 17 снежня 1920 года, газета змясціла яшчэ адно радаснае паведамленне:

**«Зводак больш не будзе.**

**У выніку спынення баявых дзеянняў на франтах, палявы штаб Рэўваенсавета Рэспублікі прыпыняе выпуск штодзённых аператыўных зводак».**

Газета «Звезда» пераходзіла на мірныя рэйкі, асвятляла ход аднаўлення народнай гаспадаркі.

Рэдактар «Звезды» В. Ашмарын успамінаў: «Найвялікшай радасцю для работнікаў рэдакцыі была характарыстыка «Звезды» як узорнай краявой газеты..., атрыманая ад ЦК нашай партыі». («Звезда» № 1500 за 25 жніўня 1923 года). Аб тым, у якіх умовах рабілася тады газета, успамінаў другі журналіст: «Холад быў страшэнны, дроў не было. Даводзілася працаваць і адначасова падкідваць у печ старую паперу, каб толькі крыху сагрэцца і атрымаць магчымасць пісаць».

●

Летам 1920 года ў Мінску пачала выходзіць штодзённая газета на беларускай мове **«Савецкая Беларусь».** У нумары 1 (11), датаваным 15 жніўня 1920 года, у перадавым артыкуле паведамлялася, што газета пачала выходзіць з 1 лютага 1920 года ў Смаленску. У той час там узнік гурток камуністаў-беларусаў, які і пачаў выдаваць свой друкаваны орган.


Савецкая
БЕЛАРУСЬ

Пасля вызвалення Беларусі ад белапольскіх акупантаў у газеце пачалі паяўляцца заметкі і карэспандэнцыі з паветаў, мястэчак і сёл пра тое, як працоўныя аднаўляюць савецкае жыццё. Газета заклікала ўсяляк памагаць Чырвонай Арміі.

У кожным нумары змяшчаліся яркія публіцыстычныя артыкулы З. Жылуновіча, В. Ахрамовіча, А. Вайцяховіча і іншых аўтараў. Акрамя артыкулаў, у газеце былі аддзелы і рубрыкі, у якіх друкаваліся весткі з фронту, аб дапамозе тылу фронту.

Пра мужнасць беларускіх сялян расказваецца ў нумары за 25 жніўня 1920 года ў допісе «Сяляне—чырвоныя героі». Пры пераходзе часцей Чырвонай Арміі цераз Нёман вызначыліся сяляне з вёсак Дубна і Костачкі Гародзенскага павета—Н. Костачка і М. Кавальчук. Апошні пад кулямётным агнём вымераў глыбіню Нёмана, вызначыў месца пераправы, але быў захоплены белапалякамі і прыведзен у штаб 12-га познанскага палка. Яго моцна пабілі і прыгаварылі да расстрэлу. Але ў штабе пачаўся перапалох, і гэта выкарыстаў М. Кавальчук. Ён уцёк і вярнуўся да сваіх. Браты Костачкі першыя кінуліся ў ваду і сваім прыкладам натхнілі стралкоў. Усе трое былі прадстаўлены да ўзнагароды.

Удумліва адбірала газета факты з зарубежнага жыцця, якія паказвалі чытачу, як расце міжнародная пралетарская салідарнасць. Аб гэтым гаварылі матэрыялы пад рубрыкай «Паміжнародная таварыскасць рабочых».

«Савецкая Беларусь» добра ведала настроі і патрэбы сялянства, сельскай інтэлігенцыі, шмат увагі аддавала развіццю беларускіх школ, беларускай мовы і нацыянальнай культуры.

Вялікае месца ў газеце займалі літаратурна-мастацкія матэрыялы, асабліва вершы, вершаваныя фельетоны, апавяданні. Аўтарамі іх былі Цішка Гартны (З. Жылуновіч), Змітрок Бядуля, Міхась Чарот.

●

Сельскі чытач добра ведае рэспубліканскую «Сельскую газету». Аднак не ўсе ведаюць, што роданачальніцай нашага сялянскага друку была газета **«Беларуская вёска»**, якая пачала выходзіць у 1921 годзе. Паўтара года яна выдавалася дадаткам да «Звезды» (выходзіла два разы ў тыдзень




на беларускай і рускай мовах). Вясной 1924 года яна ператварылася ў самастойную газету і выдавалася на беларускай мове. «Беларуская вёска» мела моцныя сувязі з чытачом, атрымлівала штодзень па 50 лістоў.

Вялікай падзеяй у жыцці рэдакцыйнага калектыву быў ліст М. І. Калініна з просьбай залічыць яго падпісчыкам газеты. Вось як аб гэтым пісала газета ў нумары за 2 жніўня 1923 года.

**«Усесаюзны стараста тав. Калінін — наш падпісчык.**

**Усесаюзны стараста тав. Калінін прыслаў нам пісьмо, у якім ён просіць залічыць яго падпісчыкам на нашу «Беларускую вёску».**

**Мы высылаем нашаму дарагому падпісчыку ўсе выйшаўшыя да гэтага часу нумары нашай газеты і ў далейшым будзем яе нармальна высылаць. Мы ўпэўнены, што тав. Калінін, які пажадаў бліжэй пазнаёміцца з жыццём беларускага сялянства, будзе не толькі чытаць нашу сялянскую газету, але і пісаць у яе».**

Падпісчыкам «Беларускай вёскі» з'яўляўся і Дзям'ян Бедны. На старонках «Беларускай вёскі» выступалі з артыкуламі М. І. Калінін, сакратары ЦК Кампартыі Беларусі В. Г. Кнорын і А. І. Крыніцкі, старшыня ЦВК БССР А. Р. Чарвякоў і Старшыня Саўнаркома Беларусі М. М. Галадзед.

Газета змяшчала артыкулы пра значэнне саюза рабочага класа з сялянствам («Што дае селяніну рабочае шэфства», «Селянін, чытай, як жыве твой сябра — рабочы»).

У аддзеле «Сельская гаспадарка» даваліся парады агранома, парады, як карміць жывёлу, як гадаваць пчол. Аддзел «Народная асвета» горача агітаваў: «Ніводнага непісьменнага селяніна і сялянкі», «Усё ў вобчаство», «Прэч непісьменнасць». Газета пісала, што «Школа і хата-чытальня — крыніца свету на вёсцы».

Актыўны ўдзел прымалі ў газеце селькоры, якія пазней сталі вядомымі пісьменнікамі — Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Пятро Глебка, Паўлюк Трус. У нумары за 13 снежня 1924 года змешчаны вершы «У малочную арцель запішыся» за подпісам «Крапіва». Нумар за 20 снежня адкрываецца допісам з вёскі Нізок,

Уздзенскага раёна пад загалоўкам «Новае ў нашай вёсцы». Аўтар яго «Селянін Кандрат» піша, што **«на першы погляд здаецца, быццам нічога новага няма. Але гэта толькі здаецца. Новае ў вёсцы — гэта камсамолія, новае — гэта іх меншыя браты — піянеры. А куды гэта столькі кабет ідзе — у школу, на жаночы сход».** Аўтар заўважае многа іншых змен у вёсцы і заканчвае заметку словамі: **«Дык вось колькі новага ў Нізку з часоў рэвалюцыі. А пройдзе яшчэ гадкоў пяць, і стане наша вёска зусім, як не тая».**

Алесь Матусевіч, адзін са старэйшых журналістаў, які працаваў тады ў газеце «Беларуская вёска», успамінае, як вясной 1924 года ў рэдакцыю прыйшоў на работу невысокі хлапец з Цімкавіч. Гэта быў Мікалай Раманоўскі, пасля — вядомы беларускі празаік Кузьма Чорны. У газеце пачалі паяўляцца вершаваныя фельетоны селькораў-камсамольцаў Г. Асота — Пятра Глебкі і Паўлюка Труса. У 1925 годзе газета апублікавала апавяданні за подпісам Тарас Гушча (Якуб Колас).

●

Маладзёжны друк, як і іншыя агульнапалітычныя друкаваныя органы, склаўся ў першыя гады Савецкай улады. Спачатку жыццё камсамола Беларусі асвятлялася ў рэспубліканскіх газетах «Звезда» і «Савецкая Беларусь» на маладзёжных старонках.

Першы нумар старэйшай маладзёжнай газеты **«Чырвоная змена»** выйшаў 21 красавіка 1921 года (першыя некалькі год яна называлася «Красная смена»). Газета была баявым органам моладзі Беларусі.

Святочны нумар за 7 лістапада 1922 года выйшаў на 8 старонках. Ён быў прысвечаны пятай гадавіне Кастрычніка.

У сувязі з 25-годдзем нашай партыі, газета змясціла ўспаміны М. І. Калініна, выказванні П. Лепяшынскага. Пытанням антырэлігійнай прапаганды прысвечаны артыкулы Ем. Яраслаўскага. Выступалі ў газеце сакратары ЦК Кампартыі Беларусі В. Кнорын, В. Багуцкі, А. Крыніцкі. На тэму «Камсамол і Саветы» надрукаваны грунтоўны артыкул сакратара ЦК камсамола Беларусі Платона Галавача. Чула адносілася газета да сігналаў пра непарадкі ў прафтэхшколах («Дрэнна з харчаваннем. Прафсаюз скрозь пальцы глядзіць»). Шырока папулярызаваліся на яе старонках рацыяналізатарскія прапановы і рацыяналізатары з асяроддзя рабочай моладзі.

Закранала газета і бытавыя пытанні, якія хвалявалі рабочую моладзь. Вось, напрыклад, заметка: «Дайце конку!» (лістапад 1922 года). Юнкор, рабочы завода «Энергія», піша, што падлеткам, якія жывуць на ўскраінах горада, даводзілася ўставаць ледзь свет, бегчы з апошніх сіл, каб не спазніцца да пачатку работы на заводах. Цэлыя раёны — Камароўка, Пярэспа, Залатая Горка — населены выключна рабочымі і гарадской беднатой, якія церпяць вялікія нязручнасці з-за адсутнасці лініі для конкі.

Газета пісала пра тое, як павінны працаваць камсамольскія ячэйкі, шукала прычыны непарадкаў у асобных вясковых арганізацыях («Дзе прычыны кепскай працы вясковых ячэек?», лістапад 1926 г.).

У полі зроку газеты заўсёды былі пытанні ваенна-патрыятычнага выхавання моладзі, садружнасці з Чырвонай Арміяй, работы камсамольскіх арганізацый у вайсковых часцях. Гаварылася аб сувязі з маракамі падшэфнага карабля «Парыжская камуна», змяшчаліся артыкулы аб наборы ў ваенна-навучальныя ўстановы, аб тым, як павінен працаваць гурток ваенных ведаў. Вялікае месца займаў спорт, фізкультурная работа.

Газета «рубам» ставіла пытанні:
**«Не пазаймаешся фізкультурай — будзеш слабым.**
**Будзеш слабым — не зможаш працаваць.**
**Куды ж ты тады годны?»** (13 ліпеня 1925 г.).

Многа ўвагі аддавала «Чырвонка» пытанням літаратуры, выхаванню маладых пісьменніцкіх кадраў. У літаратурных кутках друкаваліся выступленні маладых камсамольскіх пісь-


ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА

меннікаў — Міхася Чарота, Паўлюка Труса, Пятра Глебкі, Юркі Лявоннага. У 1926 годзе газета прысвяціла цэлую паласу трохгоддзю існавання арганізацыі «Маладняк». Рэдакцыя газеты запрашала камсамольскіх паэтаў з Масквы. У тыя гады са сталіцы ў Мінск прыязджалі Міхаіл Святлоў, Міхаіл Галодны, Джэк Алтаўзен і іншыя. Калі яны ў першы раз паявіліся ў рэдакцыі, супрацоўнікі тут жа сабраліся ў адным пакоі і прымусілі масквічоў чытаць свае вершы. Госці чыталі так доўга, што ледзь не асіплі.

«Чырвоная змена» жыва адгукалася на важнейшыя палітычныя падзеі і з'яўлялася дзейснай зброяй у руках партыйных і камсамольскіх арганізацый.

●

**«Рабочий»...** Старонкі гэтага масавага выдання адлюстроўваюць вялікі энтузіязм, якім былі ахоплены рабочыя ў барацьбе за сацыялізм. Першы нумар газеты выйшаў 2 жніўня 1927 года. Краіна рыхтавалася да святкавання дзесяцігоддзя Кастрычніка.

З першых дзён газета «Рабочий» настойліва змагалася за індустрыялізацыю краіны. Газета адыграла значную ролю ў разгортванні сацыялістычнага спаборніцтва. Цэлыя палосы адводзіліся асвятленню гэтага пытання. У адной з такіх палос (у нумары за 7 красавіка 1929 года) паведамлялася, што віцебскі завод «Чырвоны металіст» і віцебская швейная фабрыка «Камінтэрн» выступілі застрэльшчыкамі ў барацьбе за зніжэнне сабекошту прадукцыі.

Карэспандэнты газеты знаёмілі чытачоў са становішчам спраў на «Асінторфе», пісалі аб перадавых рабочых-будаўніках.

Выязныя рэдакцыі «Рабочего» былі выдатнай формай сувязі газеты з




працоўнымі масамі. Такія рэдакцыі з дапамогай рабкораў праводзілі масавую праверку выканання ўзятых абавязацельстваў па сацыялістычнаму спаборніцтву. Газета арганізавала вытворчыя пераклічкі. У нумары за 8 красавіка 1929 года, напрыклад, змешчана падборка матэрыялаў пад загалоўкам: «Чаму наш абутак дрэнны?»

Газета вяла ўпартую барацьбу за паляпшэнне якасці хлеба, які выпякаўся Мінскім хлебазаводам. Аб гэтай рабоце сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Б. Гамарнік на Усебеларускай нарадзе рэдактараў (у 1929 годзе) сказаў: **«Калі сёння «Рабочий» аддае многа ўвагі справе хлебапячэння, ён робіць зусім правільна».** Газета прыцягвала да ўдзелу ў друку вялікую армію рабкораў. «Рабочий» пісаўся рукамі рабочых для рабочых. Газета атрымлівала кожны месяц у сярэднім больш тысячы лістоў. Гэта быў голас чытачоў.

У 1937 годзе, паводле рашэння Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, газета «Рабочий» была перайменавана ў «Советскую Белоруссию».

**Марк ЗЯРНІЦКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**



Саша дзівіцца...

# САША, БАЦЬКА, МАЦІ І ІНШЫЯ

Калі б мы захацелі ўявіць сабе абагулены, сінтэтычны вобраз кастрычніцкай дэманстрацыі ў Салігорску, то ўбачылі б маладога шахцёра, які ідзе па ўпрыгожаных вуліцах новага, «з іголачкі», горада разам са сваёй жонкай і малым на плячах.

Найперш пра Сашу. Яму ўсяго тры гады. Кожную раніцу на бацькоўскіх плячах Саша едзе ў дзіцячыя яслі і на гэтым жа транспарце вяртаецца дахаты, калі заканчваецца змена на шахце.

Саша вялікі аптыміст. Калі ў яго пытаюць: «Як ты, Саша, жывеш?», ён адказвае: «Я жыву добра». І гэта праўда.

З'яўленне на свет кожнага чалавека вызначаецца збегам розных акалічнасцей. Наш герой не з'яўляецца выключэннем з агульнага правіла. Магчыма, што Сашы наогул не было б на свеце, калі б неўзабаве пасля вайны геолагі не адкрылі вялікія залежы калійных солей за сто кіламетраў на поўдзень ад беларускай сталіцы.

Залежы калійных солей і... Саша. Якая тут сувязь?

Сувязь самая непасрэдная. Не адкрылі б геолагі гэтай залежы — не пачалі б будаваць калійны камбінат; не было б гэтай будоўлі — не сустрэлі б адзін аднаго на жыццёвым шляху горны майстар Альфрэд Палаводаў і настаўніца Іна Дзмітрыева; не было б гэтай сустрэчы — не было б і Сашы.

А цяпер пра Салігорск.

Тут усё новае і маладое. Новыя камбінаты,— іх ужо два,— будуецца трэці. Новыя дамы. Новыя школы, клубы, магазіны. *Маладая зеляніна і зусім маладое* «мора» — так называюць салігорцы штучнае вадасховішча на рацэ Случ.

Людзі таксама маладыя. Самаму старэйшаму салігорцу, які нарадзіўся ў горадзе, усяго дзесяць год — такі ўзрост Салігорска. Старшыня выканкома гарадскога Савета Канстанцін Гец, старажыл горада, які ведае Салігорск «з пялёнак» і сам будаваў яго, гаворыць:

— Наш горад шматразовы чэмпіён. Трымаем разам з Наваполацкам беларускі рэкорд па маладосці: сярэдні ўзрост салігорца — дваццаць шэсць гадоў. У нас самая высокая нараджальнасць (удвая больш, чым у сярэднім па краіне) і самы вялікі натуральны прырост насельніцтва на кожную тысячу. Кожную нядзелю мы спраўляем па пяць вяселляў. Вось што значыць быць маладым горадам!

Першы камень Салігорска быў закладзены 10 жніўня 1958 года. Малады гэты горад будавала і будуе моладзь. Па закліку камсамола сюды з'ехаліся маладыя хлопцы і дзяўчаты літаральна з усіх куткоў Савецкага Саюза. Большасць з іх засталася тут жыць і працаваць. Не дзіва, што Салігорск — адзін з самых шматнацыянальных гарадоў: яго насяляюць людзі трыццаці нацыянальнасцей з усіх пятнаццаці саюзных рэспублік.

«Сняцца людзям часам блакітныя гарады, у якіх няма назвы...»

Альфрэд і Іна, бацька і маці Сашы, належаць да гэтых людзей. Яны прыехалі сюды ў пошуках рамантыкі: новая, вялікая справа! Першым прыехаў Альфрэд. Рамантыкі, калі пад ёю разумець цяжкасці, хапала. Салігорск належаў тады да гарадоў, «у якіх не было назвы». Праўда, ён быў далёка не блакітны. Было адкрытае ўсім вятрам поле, дзе стаяла некалькі баракаў. Невялікі спачатку атрад гарнякоў упарта прабіваўся да падземных скарбаў, і Альфрэд быў у першых радах тых, хто штурмаваў. Ён добра памятае галоўныя падзеі і даты гісторыі горада, першыя сапраўдныя жылыя дамы, першыя дрэвы, першую школу, першы кінатэатр...

Калі Першы калійны быў пабудаваны і Салігорск стаў ужо горадам, сюды прыехала маладзенькая настаўніца Іна. Што было далей, мы ўжо ведаем. Іна

Ідзе камсамольска-маладзёжная змена.

Вуліца Ленінскага камсамола.





**Сям'я Палаводавых — Альфрэд, Саша, Іна.**

з Дзмітрыевай стала Палаводавай, а пасля Сашавай маці.

Сям'я Палаводавых жыве на вуліцы з вельмі «падыходзячай», як гаворыць Альфрэд, назвай. Яна носіць імя Ленінскага камсамола. Гэта ціхая, чысценькая, вельмі зялёная, нават прыгожая вуліца. Камбіната адсюль не відаць, і той, хто не ведае, можа гэтыя мясціны прыняць за дачныя. Чыстае, свежае паветра, шмат зеляніны, кветак і птушак.

Альфрэд — горны майстар. Гэта адна з вядучых прафесій на камбінаце. Альфрэд ганарыцца сваім шахцёрскім званнем, любіць і добра ведае сваю справу, карыстаецца павагай у сяброў па рабоце. Яго камсамольска-маладзёжная змена — адна з лепшых у горадзе, увесь час — на Дошцы гонару. Любіць сваю працу і Іна. Налета будзе першы выпуск яе салігорскіх выхаванцаў.

Работа ў Альфрэда і ў Іны займае шэсць гадзін у дзень. А астатнія васемнаццаць гадзін? А нядзеля?

— Уявіце сабе, што часу ўсё роўна не хапае,— гаворац Іна і Альфрэд.

І сапраўды, маладая пара, як казаў паэт, «и жить торопится и чувствовать спешит». Іна і Альфрэд не забываюць, што яны камсамольцы, прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Камсамольска-маладзёжная змена Альфрэда шэфствуе над піянерскім атрадам, вы-

**Змена горнага майстра Альфрэда Палаводава.**

хоўвае ў юных любоў да прафесіі гарняка.

Палаводавы вялікія кнігалюбы. У кніжнай шафе і на паліцах у пакоі ўмела падабраная бібліятэка рускай і савецкай класікі, зарубежныя пісьменнікі і... дзіцячая энцыклапедыя, першыя шэсць тамоў.

— Для Сашы, калі падрасце,— тлумачыць Іна.— Трэба думаць наперад.

Сярод іншых «хобі» Палаводавых — сумеснае футбольнае «баленне» ля тэлевізара і на мясцовым стадыёне, рыбалка, паляванне, паходы ў грыбы, у ягады, у арэхі.

«Жыць цікава»,— усім укладам свайго побыту гаворыць сям'я Палаводавых. Шчасце трывала пасялілася пад гэтым дахам.

На Палаводавых мы спыніліся таму, што яны добра адпавядаюць вобразу тыповага салігорца. Калі скласці гады Альфрэда і Іны, а суму падзяліць папалам, то атрымаецца якраз дваццаць шэсць год — сярэдні ўзрост жыхара горада. У сям'і прадстаўлены і падземнікі і надземнікі. Пажаніліся Палаводавы ў Салігорску — гэта таксама тыпова, бо тут бытуе жарт: хочаце жаніцца або выйсці замуж — прыязджайце ў Салігорск. І нарэшце, у Палаводавых ёсць Саша, прадстаўнік першага пакалення салігорцаў.

Будучыня гэтай сям'і непасрэдна звязана з Салігорскам, а лёс самога горада выразна відзён аж да 1980 і нават да 2000 года, калі Альфрэд і Іна стануць дзядулем і бабуляй, а Саша — бацькам новай сям'і.



Трэці калійны будуецца.

Што ж чакае Сашу?

Калі Саша пойдзе шляхам бацькі і стане шахцёрам, то працы яму і яго бацьку хопіць на ўсё жыццё.

У гэтым годзе першыя два камбінаты дадуць каля трох з палавінай мільёнаў тон стандартных калійных угнаенняў, а ў наступным, калі ўвойдзе ў строй трэці, яшчэ больш.

Салігорскія дзесяцікласніцы.





**Галіна Пархамчук — удзельніца шахцёрскага ансамбля песні і танца.**

●



**Аднагодкі Салігорска. І гораду і ім — па дзесяць!**

Што будзе далей?

У 1980 годзе камбінатаў будзе ўжо чатыры, а іх агульная магутнасць складзе 12.000.000 тон. Так вызначана перспектыўным планам. Сыравіны камбінатам хопіць на добрыя сто гадоў, а можа і больш. Ужо цяпер перспектыўныя запасы калійных солей, разведаных геолагамі, складаюць 12 мільярдаў тон.

Салігорск стане дзевяці- і дванаццаціпавярховым горадам з васьмідзесяцітысячным насельніцтвам. Жыллёвае будаўніцтва будзе апярэджваць рост насельніцтва, і ў 1980 годзе на кожнага салігорца прыйдзецца па 10 квадратных метраў жылля. Прадуманы ў плане і іншыя патрэбы Сашы. Будуць пабудаваны новыя школы і тэхнікумы. Палац культуры і клубы, магазіны і атэлье, кінатэатры і бібліятэкі, стадыёны і плавальныя басейны, закладзены новыя паркі і скверы, адкрыты новыя тралейбусныя маршруты. Наогул, Салігорск атрымае ўвесь комплекс установ і прадпрыемстваў, якія вызначаюць твар сучаснага горада. Людзі будуць карыстацца ўсімі дасягненнямі сучаснай цывілізацыі, і кожны з яшчэ большай упэўненасцю, чым зараз, здолее сказаць аб сабе словамі Горкага: «Цудоўная пасада — быць на зямлі чалавекам!»

**Барыс УСЦІНАЎ.**
Фота **Юрыя ІВАНОВА.**

# З КІНАКАМЕРАЙ—У ЖЫЦЦЁ

Якім прадстане перад намі на экране жыццё, што ў ім адметнае,— залежыць у многім ад таго, хто стаіць ля кінакамеры. Калі аператар цікаўны, назіральны, умее бачыць, як мастак, ацэньваць, як публіцыст,— значыць, нам адкрыецца з кінастужкі нешта такое, чаго мы самі не прыкмецілі.

Сем гадоў таму назад у цітрах фільмаў Мінскай кінастудыі з'явілася прозвішча — Шаталаў. Часопіс «Піянер Беларусі», з якога пачаў малады аператар Віктар Шаталаў, сведчыў толькі аб добрай прафесіянальнай падрыхтоўцы ды ўважлівым стаўленні да дзяцей. А за плячамі быў інстытут кінематаграфіі, трохгадовы вопыт работы на Алма-ацінскай кінастудыі і... мара здымаць іграсыя фільмы. У дакументалістыцы лічыў сябе часова.

Пасля першых «пробных» работ на Мінскай кінастудыі новаму аператару разам з старэйшым кінадакументалістам Іосіфам Вейняровічам даручаюць здымаць першы ў рэспубліцы шыракаэкранны каляровы фільм. **«Песні роднай зямлі»** назвалі яго аўтары. У словах гэтых заключаны і сэнс задумы — паказаць непаўторнае хараство беларускага краю, расказаць пра таленавітасць народу. У розных кутках рэспублікі давялося бываць, з рознымі людзьмі сустракацца. Знаёмства ўразіла навічка. Шматфарбнай ён убачыў беларускую зямлю праз аб'ектыў кінакамеры: пяшчотную і стрыманую, святочную і працавітую.

Сам Віктар не лічыць творчай удачай фільм «Песні роднай зямлі», але прызнаецца, што ён з'явіўся нейкім паваротным момантам у яго біяграфіі. Маляўнічая, розная ў розных месцах беларуская зямля клікала да сябе. Уражанняў было столькі, што яны адцяснілі на другі план мару пра мастацкія фільмы. З'явіліся новыя задумы, жаданні. Адбылася сустрэча з паэтам Міхасём Калачынскім. Першае сведчанне «сінхроннага» бачання імі беларускіх



краявідаў — навела **«Казка пра Белавежу»**. У ёй паэты — і сцэнарыст, і аператар.

Тэма непаўторнага хараства зямлі беларускай праходзіць амаль праз усю творчасць Віктара Шаталава. Да яе ён звяртаецца зноў і зноў, паказвае па-рознаму і з розных бакоў. І не толькі як аператар, а і як рэжысёр, а калі-нікалі і як аўтар. Кароценькая рэкламная стужка **«Гаворыць зямля беларуская»** — гэта не проста ілюстраваны пералік кніжак, што выдаюцца ў Беларусі. Сумясціўшы ў адных руках функцыі аператара і рэжысёра, Віктар Шаталаў здолеў расшырыць рамкі заказнога фільма і зрабіць кінанарыс пра тое, як зямля Беларусі натхняе пісьменнікаў на самабытную творчасць.

У 1962 годзе Мінская кінастудыя выпусціла шырокаэкранны дакументальны фільм **«Беларусь — рэспубліка мая»** (сцэнарый М. Калачынскага, рэжысёры-аператары В. Шаталаў і І. Вейняровіч). У свой час пра яго гаварылі як пра найбольш тыповы прыклад неглыбокага, ілюстрацыйна-дэкларатыўнага адлюстравання жыцця. Нялёгка было пераадолець застарэлую тэндэнцыю «сказаць адной стужкай пра ўсё адразу», паказаць поспехі ва ўсіх галінах — прамысловасці, сельскай гаспадарцы, культуры. Не пераадолеў яе і аўтарскі калектыў фільма «Беларусь— рэспубліка мая». Фільм дае шмат інфармацыі пра жыццё рэспублікі, але абагульняючага вобраза яе не ставарае. Мастацкі вобраз не ўзнікае пры ілюстрацыйным падыходзе да жыццёвых фактаў; ён вымагае адбору, супастаўлення, асэнсавання. Тут патрэбна, па словах Д. Вертава, не арыфметыка, а вышэйшая матэматыка. «Мы імкнуліся як мага больш выразна перадаць атмасферу часу, але паглыбіцца ў жыццё не здолелі»,— так ацэньвае вынікі сваёй працы над фільмам Віктар Шаталаў. І гэта сведчыць аб яго самакрытычным падыходзе да сваёй работы.

З прыемнасцю ўспамінае рэжысёр-аператар кінанарыс **«На блакітных плёсах»** (сцэнарый і тэкст М. Калачынскага, 1963). Не, ён не лічыць яго дасканалым творам. Радасць была ў іншым. Упершыню на кінастудыі ствараўся фільм з падводнымі здымкамі, ды яшчэ для шырокага экрана. З чаго і як пачынаць — ніхто не ведаў, не было патрэбнай апаратуры. Віктару самому давялося быць «майстрам на ўсе рукі» — здабываць кінабокс для падводных здымак, вучыцца плаваць пад вадой з грузам больш за 40 кілаграмаў. У адным з кадраў фільма «На блакітных плёсах» можна бачыць, як каржакаваты чалавек з кінакамерай спрытна пагружаецца ў празрыстую тоўшчу Нарачы. Які дзівосны там свет! Кінакамера нібы і нас пагрузіла ў яго: розныя рэдкія расліны, мноства рыбы ўбачылі мы. Кадры «падводныя» чаргуюцца з кадрамі нарачанскіх берагоў, лясоў, рыбакоў, вучоных і проста тых, хто адпачывае тут.

Разам з аўтарам сцэнарыя рэжысёр-аператар імкнуўся да лаканічнасці, сюжэтнасці. Апавяданне пачынаецца і завяршаецца кадрамі аб студэнтах-практыкантах, што ўпершыню трапілі на Нарач. Ад імя аднаго з іх падаецца і дыктарскі тэкст. Але ён да крыўднага трафарэтны, «прыкаваны» да кадра. І агульнае ўражанне ад нарыса такое, якім яно бывае звычайна ў турыстаў, — прыемнае і, разам з тым, выпадковае.

Надводны і падводны свет, прыгажосць беларускіх азёр і рэк надоўга захапілі аператара. Свет гэты вельмі блізкі яму і як чалавеку, і як мастаку. За што б ні браўся Віктар,— за рэжысёрскую ці аўтарскую работу,— ён, перш за ўсё, «чалавек з кінакамерай». А што трапіць у яе аб'ектыў — далёка не ўсё роўна. Водная фактура ў гэтых адносінах — выйгрышная, бо дае магчымасць скарыстаць разнастайную выяўленчую палітру. Таму кінанарыс **«Бацька Нёман»** (1964) — таксама не выпадковы ў творчасці Шаталава. На дапамогу прыйшло паэтычнае слова Анатоля Вялюгіна — аднаго з нямногіх пакуль што ў беларускай кінадакументалістыцы аўтараў, хто імкнецца да вобразнага, публіцыстычнага асэнсавання жыццёвых фактаў. Такі шлях ён прапанаваў і рэжысёру-аператару фільма «Бацька Нёман».

У аснове аўтарскай задумы — легенда пра Нёман, які нібы выліўся з шкарлупіны арэха, а потым па дарозе ў Балтыйскае мора ўзмужнеў, набраўся сіл і ператварыўся ў раку, якая «ўвабрала ў свае магутныя хвалі шум беларускіх лясоў». Рэжысёр-аператар адчуў паэтычны і філасофскі сэнс задумы. Ён шукаў такія прыкметы жыцця ракі, якія далі б магчымасць расказаць пра яе з уласцівым філасофскай лірыцы падтэкстам, шматзначнасцю. Гэтаму падначалены і выбар аб'ектаў для здымання, уся каларыстычная гама, і мантаж. Гледачу адкрываюцца не толькі нёманскія пейзажы ды магутныя хвалі. Рака жыве, працуе, успамінае мінулае, марыць пра будучыню. У пачатку фільма кадры з гняздом бусла на прыбярэжным дрэве пастаўлены «ўпрытык» з кадрамі трактара, які на бярвеннях плыве па рацэ. Можа гэта і прамалінейны сімвал «шчаслівых будняў», але эмацыянальна-сэнсавы контрпункт апавядання атрымаўся.



Перад пагружэннем у Нарач.

А потым нёманскія хвалі, перакаты, жывапісныя берагі з курганамі Славы будуць увесь час перамяжоўвацца з дэталямі — акцэнтамі, з якіх збіраецца вобраз будзённага жыцця «абжытай» ракі. Вось лодку з сенам цягне маторка, на беразе пасуцца коні, гарыць касцёр, па прыбярэжным гаі на матацыкле праязджае ляснік... Разам з аўтарамі фільма мы прыпамінаем, што па Нёману праходзіў старажытны гандлёвы шлях, а ў навакольных гаях знаходзілі сабе прытулак змагары за волю народную, беларускія партызаны.

Не абмінуты і багацці, што тояцца пад тоўшчай нёманскіх вод. Камера адшукала сярод рачных віроў «чорнае золата, мораны дуб» і многае іншае. Прапушчаныя праз аўтарска-рэжысёрскае ўспрыняцце, гэтыя назіранні ствараюць вобраз ракі велічнай, магутнай і, разам з тым, абжытай, «прыручанай» чалавекам.

«Ганяю па лесе мурашак ды птушак слухаю»,— жартаваў Віктар гады два таму назад, калі хто цікавіўся яго работай. Менавіта ў гэты час ім і быў зняты **«Лясны эцюд»**. Кароценькая стужка, але якой вялікай настойлівасці, цярплівасці і назіральнасці патрабавала яна ад таго, хто трымаў у руках кінакамеру!

Магчыма на такіх работах В. Шаталаў і правярае сваё перакананне, што ў дакументалістыцы галоўнае — апаратар. Ён адзін на адзін выходзіць на сустрэчу з жыццём. І ад таго, як ён яго ўбачыць, на якія прыкметы зверне ўвагу, залежыць і змест, і накіраванасць кінастужкі.

Думка правільная. Яе толькі трэба ўдакладніць, падкрэсліўшы, што важна і тое, якая агульная задума ў стваральнікаў фільма, якія сродкі і прыёмы яны скарыстоўваюць для вырашэння, як асэнсоўваюць убачанае. А такі складаны працэс мае патрэбу не толькі ў аператары, але і ў аўтары, і ў рэжысёры. Добра, калі кінааператар, апрача кінакамеры, валодае яшчэ і ўласцівай літаратару логікай асэнсавання падзей жыцця, а таксама рэжысёрскімі здольнасцямі бачыць фільм і ў дэталях, і ў цэлым. Тады ён мае права быць адзіным аўтарам фільма. Віктар Шаталаў ужо не раз выступаў у такой трыадзінай ролі — у фільмах пра жыццё лесу, ляснога возера, аб фізічным выхаванні дзяцей. І усюды праявіў прафесіяналізм, мастацкі густ. Толькі не заўсёды лічыўся з законамі жанру. І тады ў дакументальных фільмах з'яўляліся эпізоды «акцёрскія», «пастаўленыя», а з імі знікаў давер да адлюстраванага.

Зараз многа гавораць і пішуць пра рэпартаж, назіранне, здыманне «схаванай» камерай. Віктар Шаталаў таксама лічыць, што і кінарэпартаж і кінstation назіранне можна цяпер прымяняць з большым поспехам, чым раней, бо ўзрасла тэхнічная аснашчанасць кінадакументаліста. Для Шаталава характэрны ў гэтых адносінах два апошнія фільмы «Сустрэча з Марыянай» і «Першыя ноты».

Летась разам з дэлегацыяй дзеячоў беларускай культуры ў Францыю паехалі і кінааператары Мінскай кінастудыі Віктар Шаталаў і Юры Іванцоў. Гэта была іх першая сустрэча з краінай, якая дагэтуль уяўлялася па кніжках і кінафільмах. Не цяжка ўявіць, як многа спакус было для «навічкоў», як лёгка было разгубіцца, здымаць найбольш кідкае, эфектнае. Такія сустрэчы вымагаюць ад кінадакументаліста быць публіцыстам, умець **бачыць** і разумець тое, што характарызуе аблічча краіны, сутнасць жыцця народу. У Шаталава і Іванцова не было ні часу, ні магчымасцей паглыбіцца ў атмасферу краіны. І ўсё ж *яны сумелі нацэліць* аб'ектывы сваіх кінакамер на многія істотныя прыкметы. Больш за ўсё іх цікавілі простыя людзі, іх будні. Назіранні за імі і склалі змест кінанарыса **«Сустрэча з Марыянай».**

Рэпартажны па характару, дакументальны да апошняга кадра фільм гэты тоіць у сабе і абагульняючы вобраз. Стварыць яго нельга было простым «счапленнем» кадраў. У працэс асэнсавання рэпартажных здымкаў уключыўся рэжысёр тэлестудыі Уладзімір Арлоў. Агульнымі намаганнямі і быў вызначаны шлях мастацка-публіцыстычнага асэнсавання зафіксаваных на кінаплёнцы ўражанняў. У якасці графічнай застаўкі вельмі дарэчы аказаўся малюнак вядомага французскага мастака Жана Эфеля — сустрэча беларускага хлопца з француженкай. Сустрэча гэтая перайшла ў задушэўную размову. Хлопец ад імя аўтараў дзеліцца з дзяўчынай Марыянай сваімі ўражаннямі аб Францыі, задае ёй пытанні, жартуе. На іх дыялог і «накладваюцца» кінаназіранні.

Так аўтары кінанарыса перадалі гледачу сваё зачараванне краінай, яе народам (жыццё якога, як сведчаць кінакадры, зусім не святочнае), свае роздумы над кантрастамі, *што трапілі ў аб'ектыў*. Выбраны кінажурналістамі прыём таварыскай гутаркі з умоўнай парыжанкай сімвалізуе сустрэчу з Францыяй саміх аўтараў і дазваляе ім гаварыць не толькі пра сённяшні дзень краіны, а і ўспомніць пра мінулае, пра баявую дружбу савецкага і французскага народаў. Сваё бачанне тэмы, свая аўтарская канцэпцыя — галоўнае, што абумовіла поспех новага кінанарыса. У творчай біяграфіі Віктара Шаталава фільм гэты з'яўляецца вельмі важнай



**Добра папрацаваўшы, з апетытам можна і папалуднаваць.**

Дзесяць гадоў — тэрмін немалы. У студэнцкіх будаўнічых атрадах склаліся свае традыцыі.

Сёлета большасць студэнцкіх атрадаў засталася працаваць у сябе дома, у Беларусі. І адразу ж перад імі паўстала праблема № 1 — прастоі. Іх прырода нескладаная — няўвішныя гаспадарнікі ўсё яшчэ не могуць прывыкнуць да студэнцкіх тэмпаў. Будаўнічых матэрыялаў, якія «ашчадныя» будаўнікі расцягваюць на месяц, студэнтам ледзь хапае на тыдзень. Пакуль атрадаў было мала, гэтыя абавязковыя непрыемнасці кампенсаваліся ўдарнай работай і на выніках не адбіліся. Але калі перавесці прастоі 520 атрадаў, якія працавалі гэтым летам, на грошы, лічба атрымаецца ўнушальная.

Многа было непрыемных сутычак на аб'ектах гарадскога і прамысловага будаўніцтва. Замест сур'ёзных, прадугледжаных дагаворам работ студэнтам прыходзілася быць падсобнікамі — мыць падлогу і шыбы, выносіць смецце. А гэта, зразумела, нічога агульнага з мэтамі трэцяга семестра не мае.

Вось і ламаюць цяпер штабісты галаву, каб наладзіць такія ўзаемаадносіны «высокіх дагаворных бакоў», пры якіх адказнасць, маральныя і матэрыяльныя страты неслі б не толькі студэнты, а і сапраўдныя віноўнікі — безгаспадарчыя гаспадарнікі.

І яшчэ праблема. Як быць з гарадскім будаўніцтвам? Не ўсталёўваецца ў студэнтаў кантакт з яго кіраўнікамі. Ужо каторы год працягваецца «супрацоўніцтва», і нічога, апрача нараканняў з боку студэнтаў на дрэнную сустрэчу, на невыкананне абяцанняў, пачуць нельга. А ці трэба наогул такое «супрацоўніцтва»?

Студэнцкаму штабу трэба ўважліва вывучыць вопыт лепшых атрадаў і «сабраць схему» ідэальнага атрада. А прыкладаў для гэтага сёлетняя практыка дае больш чым дастаткова. Студэнцкі будаўнічы атрад Мінскага радыётэхнічнага інстытута «Нёман» працаваў на радзіме Якуба Коласа, у Мікалаеўшчыне. Будавалі важны аб'ект — турысцкую базу. Многае залежала ад камандзіра Уладзіміра Савасцюка. Ён, стараста патоку, старанна і ўдумліва падабраў атрад. Таму і атрымалася, што тут сабраліся аднадумцы.

Праблему харчавання камандзіру прапаноўвалі вырашыць без клопатаў—браць снеданні, абеды і вячэры ў рэстаране ў Стоўбцах. Ён адмовіўся. І за стол садзіліся сваёй сям'ёй, усім атрадам. Працаваў атрад таксама сям'ёй. І таму «абавязковыя» прастоі тут, дзякуючы ініцыятыве і знаходлівасці хлопцаў, удалося звесці да мінімуму.

Сёлета ў трэцім семестры побач са старэйшымі прынялі ўдзел выхаванцы тэхнікумаў. І зноў праблема: патрэбны ў такім атрадзе дарослы, вопытны чалавек ці трэба захаваць статутнае патрабаванне — самастойнасць?

Пытанні, праблемы, сумненні. Аналізаваць, супастаўляць, абагульняць лічбы, факты, рапарты, шукаць адзіна правільны адказ на бясконцыя «як» і «чаму» — гэта клопат Рэспубліканскага штаба студэнцкіх будаўнічых атрадаў. Так было ў мінулым годзе. Так будзе кожны раз.

Студэнцкі атрад — не проста будаўнічая брыгада. Тут зліваюцца веды і перакананні, нараджаецца ўпэўненасць у сваіх сілах. І таму чыста будаўнічыя задачы— толькі палавіна праблем трэцяга семестра.

Галоўнае — выхаванне, выпрабаванне на маральную стойкасць, на чалавечнасць. На кожнага глядзяць людзі, якія заўважаюць літаральна ўсё: манеры, характар, узаемаадносіны з таварышамі. Яны моўчкі пытаюцца: які ты будзеш, без пяці мінут інжынер, настаўнік, урач? Чаму ты навучыўся ў інстытуце? Адсюль і адказнасць — за сябе, за ўсё студэнцкае племя.

**Валянціна АКУНЬКОВА,**
**рэдактар спецыяльнага выпуску газеты «Знамя юности».**



Гэта цесляры з Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута.

# ПРАЦОЎНЫ СЕМЕСТР.

# ЯГО ЎРОКІ.

Ці доўгія канікулы ў студэнтаў? Здаецца, толькі ўчора яны пачаліся. Але як толькі стала вядома, што фарміруецца першы беларускі студэнцкі атрад — адразу забыты канікулы і ад студэнтаў няма адбою. Добраахвотнікаў папярэджвалі — будзе цяжка: нязвыклыя ўмовы працы, вялікая фізічная нагрузка, без асаблівых бытавых выгод. І самае галоўнае: давядзецца рабіць тое, што ніколі ў жыцці не рабілі. Папярэджанні гэтыя толькі памнажалі рады добраахвотнікаў.

...Дзень адпраўкі на цаліну першага студэнцкага эшалона. На прывакзальнай плошчы — прамовы, песні, музыка.

— Зробім, пабудуем, выканаем,— абяцаюць студэнты.

Мы ім верым. Але... Але ўсё ж узнікае сумненне: ці здолеюць? Што яны ведаюць пра саман, пра кладку, пра заліўку фундамента? За два з палавінай месяцы ім трэба пабудаваць 217 аб'ектаў...

Не, хлопцы не былі шкалярамі. З першага ж дня паказалі такія тэмпы, якім могуць пазайздросціць прафесіяналы высокага класа. Не будзем галаслоўныя. Атрад абяцаў пабудаваць 217 аб'ектаў. Фактычна ж — пабудавалі 362. На ўсе аб'екты, здадзеныя ў эксплуатацыю, затрачана ў паўтара, два разы менш часу, чым прадугледжана нормамі Дзяржбуда СССР. Гэта лічбы. А вось факты.

Студэнты Віцебскага педагагічнага інстытута пабудавалі ў стэпе цэлы пасёлак, які ў іх гонар названы «Віцебскі». А першая вуліца ў гэтым пасёлку атрымала імя Студэнцкай.

Будаўнічы атрад Беларускага політэхнічнага інстытута ў саўгасе «Есянсайскі» здаў у эксплуатацыю два чатырохкватэрныя дамы, гараж, халадзільнік, кароўнік, машынна-трактарную майстэрню. З удзячнасцю ўспамінаюць у саўгасе «Айдраханскі» студэнтаў-палітэхнікаў Дзмітрыя Бобрыка, Мікалая Нечытайлу, Аркадзя Зубара. Хлопцы адрамантавалі тры машыны.

Усе гэтыя падзеі — ужо гісторыя. А расказваю я пра іх таму, што яны прымусілі нас інакш паглядзець на студэнта. Таго самага студэнта, якога, часам, мы дакаралі, што ён інертны, абыякавы, любіць пабыць на ўтрыманні. Інстытуцкае жыццё



**Камсамольцы Мінскага палітэхнікума сабраліся на сход.**

для такіх дакораў дае шмат падстаў: нецікавыя сходы, няўменне арганізаваць індывідуальны вучэбны працэс, быт, адпачынак, заўсёднае спадзяванне на выкладчыкаў — маўляў, падкажыце, навучыце.

А тут — не пазнаць студэнтаў. Не хапае рабочых рук у гарачую пару, і студэнты пасля 10—12-гадзіннага рабочага дня прыходзілі на дапамогу мясцоваму насельніцтву. Таму што — **трэба.**

Прывезлі неяк у саўгас газагенератар, а зваршчыка не знайшлося. Дзеці ўпотай ад дарослых пачалі цягаць для гульні розныя дэталі. Але вось у саўгас прыехалі студэнты Беларускага інстытута чыгуначнага транспарту. Саша Кузняцоў агледзеў тое, што калісьці называлася газагенератарам, ачысціў яго ад іржы і, здабываючы то тут, то там знікшыя дэталі, зрабіў апарат прыдатным для работы. На ўборцы не раз «лячыў» студэнт сапсаваныя камбайны і трактары. Сашу ніхто не абавязваў. Усё гэта ён рабіў у кароткі час адпачынку. Уночы ехаў у стэп рамантаваць машыны, а раніцай браў у рукі рыдлёўку.

Дык што ж усё-такі перамяніла хлопцаў? Напэўна, зусім новыя ўзаемаадносіны ў калектыве. Вучоба, увогуле, вельмі індывідуальны працэс. Калі сусед у аўдыторыі лянуецца — на тваіх ведах гэта не адаб'ецца. Але калі гэты ж сусед не выканае норму на бетоне, на самане, на кладцы, значыць, парушыцца рабочы рытм, спыніцца будоўля. Вось тут і прачынаецца пачуццё адказнасці, якое мабілізоўвае фізічныя і духоўныя рэсурсы чалавека. І гэта самы дарагі, самы важны вынік трэцяга семестра.

Яны пачыналі з невялікіх сельскіх аб'ектаў. Сёння студэнты — гаспадары такіх будоўляў, як Усць-Ілімская, Саяна-Шушанская ГЭС, Нарыльскі камбінат, Волжскі аўтазавод, магілёўскі «Лаўсанбуд». Атрад савецкіх студэнтаў удзельнічаў у будаўніцтве кааператыва «Вялікая Кабілія» ў Алжыры.

Звычайныя хлопцы. І ніякія не волаты. Некаторыя дык зусім шчуплыя і невысокія. А гэта ж ім былі сказаны такія словы: «Вы навучылі нас сур'ёзна адносіц-

ца да жыцця, да працы». Можа быць, крыху напышліва выказалі сваю думку алжырскія валанцёры. Але пра вялікае можна гаварыць узнёсла. Ім сапраўды было спачатку незразумела, што гэтыя паўночныя хлопцы не пасуюць перад спякотным афрыканскім сонцам. У палатках 48° па Цэльсію, а яны, гэтыя хлопцы, завіхаюцца ля сваіх бетонамяшалак, тынкуюць, цяслярацъ, робяць сталярку.

Першы раз у атрадзе было дзесяць беларусаў. Другі раз група беларусаў (іх было ўжо чатырнаццаць) ехала ў Кабілію, як да сябе дамоў. «Старыя» — Міша Грыгор'еў і Толя Камар — пра ўсё расказалі новым таварышам: і дзе стаіць «мінскі» дом, і што ім трэба будзе рабіць.

Вельмі хутка, на другі ж дзень, устанавіўся дакладны рабочы рытм. Над домам з'явіўся дах, сталі на свае месцы аконныя і дзвярныя рамы. Хоць будаваць хлопцам было нялёгка. Спецыялісты з Беларусі былі нарасхват. Анатоль Скабейда працаваў на экскаватары, Ігар Громаў арганізоўваў палігон па вытворчасці жалезабетонных вырабаў. Дзіма Марач і Леанід Ломан забяспечвалі ўсю будоўлю бетонам. А Валодзю Арашчанку—вадзіцеля аўтобуса — хлопцы не бачылі дома нават і ў выхадны. І яны пабудавалі свой, «мінскі» дом. Потым памагалі ленінградцам. Пасля працавалі з кіяўлянамі. Яны ж прыехалі будаваць!



Спорна ідзе праца ў студэнтаў.

А ўвечары зноў станавіліся студэнтамі. Самы маленькі беларускі атрад меў на лагернай спартакіядзе сваіх футбалістаў, баскетбалістаў, тэнісістаў і шахматыстаў. Апрача спорту, у хлопцаў было многа іншых спраў. У студэнта Віцебскага педагагічнага інстытута Івана Барадзея і дома многа сяброў-піянераў. У Алжыры ж вакол яго заўсёды збіраліся маленькія арабы. Ваня вучыў іх малявацъ. А потым наладзіў выстаўку іх малюнкаў. Валодзя Ладысеў, студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, вучыў хлопцаў прыёмам дзю-до, самба. Увечары да іх прыходзілі ў госці маладыя алжырцы — пасядзець, выпіць чаю, паслухаць расказы пра далёкую краіну Саветаў. А раненька на будоўлі стукалі сякеры, звінелі пілы, шумелі бетонамяшалкі...

Стаіць у вёсцы Уадзіас дом. Усё ў ім, пачынаючы ад падмурка і канчаючы аконнымі завесамі, зроблена, змайстравана рукамі студэнтаў. Паселяцца ў доме пяць сем'яў.

На самым пачатку лета, калі ў горадзе зацвітаюць ліпы, мы праводзім іх у дарогу. А калі прыходзіць пара ўбіраць ураджай, прымаем лаканічныя рапарты: зроблена, пабудавана, выканана. Аб'ём работ, якія выконвае за лета ўсесаюзны студэнцкі атрад, прыблізна роўны праграме буйнага рэспубліканскага міністэрства. Але і атрад не той, што быў раней. У 1959 годзе ў ім было ўсяго 330 чалавек. Сёлета ва ўсесаюзным будаўнічым атрадзе— 270 тысяч студэнтаў.

Сонца смаліць, не зважаючы ні на што.





Кадр з фільма «Першыя ноты».

вехай. Важнай таму, што ўласцівыя яму лірызм, жывапіснасць, уважлівасць да выразных дэталей на гэты раз набылі моцныя крылы — публіцыстычнасць мыслення. Значыць, ёсць падставы чакаць ад яго твораў пранікнёных і змястоўных. І востра публіцыстычных, накшталт «Дарогі з цемры», якую аператару давялося здымаць яшчэ ў Казахстане.

Уводзінамі ў свет цудоўнага можна назваць кінанарыс **«Першыя ноты»** (аўтар сцэнарыя У. Юрэвіч, рэжысёр-аператар В. Шаталаў. 1968 год). Гэта кінаназіранне за вучнямі Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву. Назіранне дапытлівае, паслядоўнае. З добразычлівай усмешкай, зацікаўлена сачылі кінадакументалісты за тым, як праходзіць адбор, пошукі здольных дзяцей. Якія розныя яны, героі кінанарыса! І кожны раз непаўторныя, бо кінакамера «выхапіла» непаўторнае імгненне іх непасрэднасці. Не ўтаіла і цярплівасць, вытрымку, такт педагогаў, што працуюць з дзецьмі. А маці—якія розныя яны і ў той жа час падобныя ў сваіх хваляваннях за дзяцей! Жывыя, натуральныя сцэны складаюць змест першай навелы, названай «Экзамен». Тут Віктар Шаталаў праявіў сябе як здольны і тактоўны рэжысёр.

У другой навеле, названай «Пачатак», рытм назірання больш спакойны, разважлівы. Рэжысёр-аператар нібы запрашае падумаць над тым, што бачым. А бачым мы першыя крокі на шляху да мастацтва тых самых гарэзлівых і смяшлівых дзяўчынак і хлопчыкаў, што так стараліся на ўступным экзамене. Камера ўважлівая і да вучняў, і да настаўнікаў, чулая да характэрнай для школьных заняткаў атмасферы. Тут добрым памочнікам рэжысёру-аператару быў гукааператар Б. Смірноў.

Зусім у іншай манеры зроблена навела «Лебедзі» (чытанне казкі пра лебедзяў у скрыпічным суправаджэнні). А вось апошняя навела «Чырвоныя коні» здаецца прэтэнцыёзнай і залішне прыгожай. Чырвоныя коні, якіх малюе адзін з вучняў школы-інтэрната, узнікаюць ненатуральна. Прапанаваны аўтарамі кінанарыса шлях узнікнення іх — традыцыйны: хлопец ідзе па асеннім лесе, бачыць натуральных коней, малюе, і яны ператвараюцца ў фантастычных чырвоных коней.

На трэцім Усесаюзным кінафестывалі «Першыя ноты» былі заўважаны: Віктар Шаталаў атрымаў прэмію за лепшую аператарскую работу.

За параўнаўча кароткі час В. Шаталаў спрабаваў свае сілы ў розных жанрах і ролях. Але заўсёды ён больш цікавы як аператар. Свет ён бачыць, перш за ўсё, праз аб'ектыў кінакамеры, па-жывапіснаму тонка адчувае колер, каларыт, мову дэталей, светаценевыя эфекты. У рэжысуры ён менш упэўнены і, хай даруе нам, значна бяднейшы. Праўда, апошнія дзве работы абнадзейваюць і ў гэтым плане. Яны сведчаць пра творчыя пошукі, публіцыстычнае пасталенне. У Віктара Шаталава яшчэ шмат часу наперадзе, і ён ажыццёвіць новыя задумы. Сярод іх, напэўна, будуць і сапраўды публіцыстычныя творы.

**Ефрасіння БОНДАРАВА.**




# 1968

## СНЕЖАНЬ

**2**

50 гадоў назад (1918) адбыўся I з'езд прадстаўнікоў Саветаў і партыйных камітэтаў губернскіх і павятовых цэнтраў Заходняй Камуны.

**3**

50 гадоў назад (1918) адбылося пасяджэнне Мінскага Савета. Выбары Мінскага Савета рабочых дэпутатаў.

**5**

60 гадоў з дня нараджэння (1908) Г. Б. Абуховіч, народнай артысткі БССР.



Г. Б. Абуховіч.

**6—9**

30 гадоў назад (1938) праходзіў I з'езд мастакоў Беларусі.

**7**

50 гадоў назад (1918) адбылося другое пасяджэнне Мінскага Савета, на якім прынята рэзалюцыя аб пераходзе ўсёй паўнаты ўлады ў рукі Савета рабочых дэпутатаў, прызнана адзінства Беларускага краю з Расійскай рэспублікай і ўзята ініцыятыва па ўзнаўленню і ўмацаванню Савецкай улады на месцах.



А. С. Махнач.

**8**

50 гадоў з дня нараджэння (1918) А. С. Махнача, вучонага-геолага, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

В. Ф. Валчанецкая.



**9**

70 гадоў з дня нараджэння (1898) В. Ф. Валчанецкай, опернай спявачкі, народнай артысткі БССР.



К. Ц. Кірэенка.

## 10

50 гадоў з дня вызвалення (1918) Чырвонай Арміяй Мінска ад нямецкіх захопнікаў.

## 12

50 гадоў з дня нараджэння (1918) К. Ц. Кірэенкі, беларускага пісьменніка.



Д. М. Парахня.

## 15

50 гадоў з дня нараджэння (1918) Д. М. Парахні, беларускага мастака-жывапісца.

## 15

50 гадоў назад (1918) у Мінску адбыўся сход моладзі горада, які паслужыў пачаткам стварэння Камуністычнага Саюза Моладзі ў горадзе.

## 17

70 гадоў з дня нараджэння (1898) рускага савецкага пісьменніка М. І. Аляксеева, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны.



М. І. Аляксееў.

## 22

10 гадоў з дня ўзнагароджання (1958) БССР другім ордэнам Леніна за паспяховае аднаўленне народнай гаспадаркі, буйныя дасягненні беларускага народа ў далейшым развіцці прамысловасці, будаўніцтва, сельскай гаспадаркі і культуры.

## 25

50 гадоў назад (1918) пачаў работу І з'езд Камуністычнага Саюза моладзі Заходняй Камуны.

## 26

75 гадоў з дня нараджэння (1893) Я. К. Цікоцкага, беларускага кампазітара, народнага артыста СССР.



Я. К. Цікоцкі.

## 30—31

50 гадоў назад (1918) праходзіла VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), якая абвясціла сябе І з'ездам КП(б) Беларусі.

---

Падрыхтавана аддзелам навуковага выкарыстання дакументальных матэрыялаў і інфармацыі Архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР на падставе матэрыялаў, прадстаўленых цэнтральнымі і абласнымі дзяржаўнымі архівамі рэспублікі.




# ТАМ, ЗА АКІЯНАМ

За паняццем «моладзь Амерыкі» тоіцца карціна, якая стракаціць мноствам фарбаў і адценняў. Спалучыць на адным палатне ўсе гэтыя, часам ўзаемавыключныя, колеры можна, выкарыстоўваючы толькі адзін крытэрый — узрост. Разглядаць амерыканскую моладзь, як нешта інтэграванае, у любым іншым аспекце, апрача ўзроставага, практычна немагчыма, хоць амерыканскія сацыёлагі стараюцца гэта рабіць. Штучнасць аб'яднання ўсіх маладых амерыканцаў у нешта адзінае настолькі відавочная, што наўрад ці ёсць сэнс звяртаць колькі-небудзь сур'ёзную ўвагу на гэтыя спробы.

Назавём і апішам асноўныя групы амерыканскай моладзі і дадзім беглы аналіз галоўных працэсаў і тэндэнцый, што маюць месца ў гэтых групах.

Пачнём іменна з «груп». Як дыферэнцыраваць і групаваць моладзь Амерыкі? Па-першае, безумоўна, па класавым прызнаку. Сярод моладзі, як і ва ўсім амерыканскім грамадстве, мы сустракаем рабочых, фермераў, буржуазію. Па-другое, па ўзроўню забяспечанасці: ёсць Амерыка багатых і ёсць Амерыка бедных. Класічныя прама прапарцыянальныя адносіны паміж класавай прыналежнасцю і ўзроўнем забяспечанасці нельга поўнасцю прымяняць да Амерыкі ў сілу таго, што тут на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў намаганнямі буржуазіі, напалоханай размахам класавай барацьбы ва ўсім свеце, была створана значная праслойка «рабочай арыстакратыі». Апрача таго, у Амерыцы, як ні ў адной капіталістычнай краіне, вялікая праслойка так званых «белых каўнерыкаў» — людзей, якія адносяцца да ліку інтэлігенцыі, але па ўзроўню забяспечанасці стаяць не вышэй звычайнага амерыканскага рабочага. Яшчэ адзін прынцып дыферэнцыя-

цыі — расавы, але не ў сэнсе расавай прыналежнасці, а ў сэнсе адносін да расавай праблемы.

Можна групаваць амерыканскую моладзь і па ўзроўню адукацыі, па адносінах да рэлігіі, і г. д., і да т. п. Кожны з вышэй названых прынцыпаў размежавання справядлівы, і ўсё ж ні адзін з іх, узяты паасобку, не можа даць нам поўнага ўяўлення аб моладзі Злучаных Штатаў. Разглядаць гэтае пытанне трэба ў комплексе.

Доўгі час амерыканскі народ, у тым ліку і моладзь, карыстаўся рэпутацыяй палітычна малаактыўнага народа. І сапраўды, пасля буйных класавых выступленняў пачатку 30-х гадоў, выкліканых славутым эканамічным крызісам, амерыканскія працоўныя, здавалася, страцілі цікавасць да палітычнай барацьбы. Буржуазная прапаганда ўзмоцнена ўнушала амерыканцам думку, што галоўным у жыцці з'яўляецца багацце, а каб разбагацець, трэба «to make money» — рабіць грошы. На жаль, прыходзіцца канстатаваць, што гэта стала сэнсам жыцця вельмі вялікай часткі амерыканцаў, якія сёння адносяцца ўжо не да моладзі, а да людзей сярэдняга ўзросту. Гаворачы іншымі словамі, краіну захліснула хваля дробнабуржуазнай стыхіі. Грошы і рэчы для многіх сталі культам.

Амерыканская прапаганда насаджала таксама ідэю непагрэшнасці Злучаных Штатаў, ідэальнасці «амерыканскага ладу жыцця». З гэтых галаслоўных сцверджанняў рабіўся вывад аб нейкай «асаблівай ролі» Амерыкі, аб нейкім «абавязку» Злучаных Штатаў перад народамі свету. Унушыць гэтыя думкі абывацелю і мешчаніну для амерыканскай прапаганды не складала ніякай цяжкасці, паколькі ЗША атрымалі велізарныя дывідэнды ў выніку другой сусветнай вайны, іх гарады не былі ў руінах і папялішчах, а зямля не стракацела чорнымі варонкамі ад бомб.

Амерыка багацела, Амерыка магла пасылаць тушонку, цыгарэты і жавальную гумку галадаючым народам Еўропы. Не многія з моладзі таго часу здолелі вытрымаць ідэалагічны націск вузкалобага ўра-патрыятызму і вялікаамерыканскага шавінізму. Да таго ж, там, дзе аказвалася недастаткова прапаганды, бесцырымонна дзейнічала праслаўтая камісія па расследаванню антыамерыканскай дзейнасці і федэральнае бюро расследавання. У краіне пачалося, як гавораць самі амерыканцы, «паляванне за ведзьмамі», і гора было таму, хто меў неасцярожнасць выказаць якую-небудзь «крамолу».

Але час рассейвае ўсе нават самыя стойкія міфы, і тады людзям даводзіцца перажыць непрыемныя мінуты вяртання з салодкага сну ў суровую рэальнасць. Менавіта гэты працэс пачаўся некалькі гадоў назад у амерыканскім грамадстве. Праходзіць ён даволі марудна і цяжка. Не лёгка простаму амерыканцу адмовіцца ад ілюзій, якімі ён жыў доўгія гады. Для таго, каб пераацаніць тое, што многа год не выклікала сумненняў, патрэбен не толькі розум, але і пэўная чалавечая мужнасць: трэба фактычна перакрэсліць цэлы перыяд свайго жыцця, прызнаць, што яно было пражыта не так, як трэба. А пайсці на гэта даросламу чалавеку — ой, як нялёгка! Маладому амерыканцу ў гэтым сэнсе прасцей: ён жа не ствараў свет, у якім жыве, яго мысленне не мае яшчэ той інерцыі, як мысленне дарослага. Яму прасцей адмаўляць устаноўленыя каноны, прасцей сумнявацца. Вось чаму зрухі ў настроях амерыканцаў маюць месца, у першую чаргу, сярод моладзі.

Маладых амерыканцаў умоўна можна падзяліць на два лагеры: моладзь, якая прымае і не прымае амерыканскі лад жыцця.

«Тых, што прымаюць», больш. Сюды адносяцца багатыя і бедныя, чорныя і белыя, рабочыя, фермеры і студэнты. Адны з іх ніколі не задумваюцца над грамадскімі праблемамі: у іх яшчэ не выпрацавалася крытычнае мысленне. Другія проста не хочуць думаць. Трэція, бывае, задумваюцца, але іх пасіўнасць і аморфнасць не дазваляюць думцы перарасці ў дзеянне. «Тыя, што прымаюць», — шматлікі лагер, але не да іх сёння прыкавана ўвага: думкі іх вельмі «гладка прычасаныя», каб выклікаць цікавасць, дзеянні — вельмі «правільныя», каб прыносіць неспакой.

Іншая справа тыя, хто не прымае амерыканскай спажывецкай цывілі-

зацыі, амерыканскай спрашчэнцкай рэнтабельнасці і рацыянальнасці, сістэмы расавай, сацыяльнай і цэнзавай дыскрымінацыі, выкарыстання чалавека дзеля прыбыткаў. Праўда, і гэты лагер вельмі не аднастайны. У ім, апрача дробных плыняў і груп, можна вылучыць тры значныя напрамкі: хіпі, студэнты і негры.



**Ён выступае супроць расавай дыскрымінацыі.**
Фота з часопіса «Ньюсуік».

Першыя хіпі з'явіліся гады чатыры назад. Гэта была проста разнавіднасць амерыканскіх стыляг, якія прыцягвалі ўвагу сваёй экстравагантнасцю. За чатыры гады рух хіпі набыў новы змест. Цяперашнія хіпі — гэта пасіўныя бунтары. Знешне іх бунт праяўляецца ў адмаўленні агульнапрынятага адзення, прычосак і іншых «умоўнасцей». Барада, вусы, доўгія валасы, размаляваныя фарбай твары, татуіроўка, пацеркі, бранзалеты, пярсцёнкі, як правіла, брудная кашуля або блузка, працёртыя джынсы, неахайныя шорты, дзіравыя світэры, зношаныя доўгія хітоны, накідкі, пашарпаныя мексіканскія або перуанскія плашчы... Адрозніць дзяўчыну ад юнака часта даволі цяжка. Такі знешні выгляд хіпі. Наўмысная экстравагантнасць і неахайнасць у адзенні і ў знешнім выглядзе адлюстроўваюць філасофію хіпі, або, хутчэй, іх канцэпцыю свету, якая складаецца з розных элементаў: містыцызму, іягізму, камуналізму, беспарадкавага змяшэння полаў, бадзяжніцтва, антысацыяльнасці, а галоўнае — наркаманіі. Адзін з важных элементаў «філасофіі» хіпі — міралюбнасць, якая даходзіць да пацыфізму, любоў да бліжняга, непраціўленне злу. Яны поўнасцю адмаўляюць амерыканскую сістэму, але не маюць ніякага жадання знішчыць яе або замяніць. Не актыўнае змяненне грамадства, а пасіўнае яго адмаўленне для сябе — вось іх крэда. «Філасофія» хіпі выгадная для кіруючых колаў Амерыкі тым, што яна заклікае нічога не рабіць. «Няхай усё будзе, як яно ёсць, нас гэта не датычыць, — заяўляюць яны. — Пакінем гэты хлуслівы свет». Яны ўцякаюць ад грамадства, стараняцца праславутай амерыканскай цывілізацыі, пабудаванай на культе сілы і грошай.

Усе яны маладыя, а часта нават вельмі юныя. Большасць з іх — вучні сярэдніх школ, якія ўцяклі з дому. Амаль усе хіпі паходзяць з вышэйшага або сярэдняга класаў, нярэдка ў іх ёсць рахунак у банку або яны атрымліваюць кожны месяц чэк ад бацькоў. Але іх ідэал — беднасць. У грамадстве, дзе пануе ідэал прыватнай уласнасці, хіпі катэгарычна адвяргаюць яго. Яны дзеляцца са сваім бліжнім усім, што ў іх ёсць. Не існуе для іх і расавай праблемы: усе людзі роўныя, усіх трэба любіць. Любоў — гэта галоўнае ў жыцці, лічаць яны. На падставе гэтага пераканання нарадзіўся славуты дэвіз хіпі: «Любоў замест вайны!» (маецца на ўвазе перш за ўсё каханне).

Хіпі не думаюць пра будучае, яны жывуць толькі сучасным, адным момантам. Час для іх нішто, і яны яго трацяць, зусім не задумваючыся. Гадзінамі бязмэтна швэндаюць хіпі ў людскім патоку па вуліцах буйных гарадоў Амерыкі (асабліва шмат іх у Сан-Францыска і Нью-Йорку) або, панурыўшы галовы, сядзяць на лаўках, на траве, а то і проста на тратуары. Сонны і абыякавы выгляд пацвярджае іх «філасофію»: поўнае ігнараванне грамадства. Каб вызваліцца ад надакучлівага амерыканскага грамадства, хіпі адвяргаюць і самую рэчаіснасць. Яны амаль увесь час знаходзяцца ў свеце мар і галюцынацый, у метафізічнай ірэальнасці, куды іх вядуць наркотыкі: марыхуана, гераін, кіслата ЛСД і іншыя.

Пастаяннае недаяданне, адзенне і жыллё, якія не ахоўваюць ад дажджу і холаду, неразборлівасць і беспарадкавасць у тым, што датычыць сексу — усё гэта прыводзіць да хвароб і наогул да арганічнага заняпаду. Хіпі вельмі часта хварэюць венерычнымі хваробамі, туберкулёзам, захворваннямі скуры, яны заражаны паразітамі і г. д.

Праз некаторы час знешнія рысы хіпі — доўгія валасы, незвычайнае адзенне, жаргон і іншае — знікнуць і застанецца сутнасць: пошукі новых каштоўнасцей, якія маглі б замяніць каштоўнасці адвергнутага імі грамадства, пошукі альтэрнатывы грамадству, пабудаваным на прыгнечанні чалавечай асобы.

Амерыканскія студэнты таксама адмаўляюць існуючую сістэму. Але робяць гэта яны зусім інакш, чым хіпі. Па-першае, яны маюць намер разбурыць гэтую сістэму, па-другое, сярод студэнтаў — ніякіх наркотыкаў, ніякага змяшэння полаў, ніякага бруду, ніякага містыцызму.

Універсітэты і каледжы ЗША перажываюць перыяд хваляванняў і бунтаў. У многіх каледжах краіны мелі месца сапраўдныя мяцяжы; студэнты захоплівалі вучэбныя памяшканні і абаранялі іх ад паліцыі. Адкрытыя мяцяжы ўспыхнулі ў Калумбійскім, Паўночна-Заходнім і Статфордскім універсітэтах. Той-сёй у Злучаных Штатах спрабуе зменшыць значэнне студэнцкага руху, у прыватнасці, вядомы Збігнеў Бжэзінскі, прафесар Калумбійскага ўніверсітэта, сцвярджаў нядаўна, што толькі два-тры працэнты студэнтаў хочуць знішчэння ўніверсітэцкай сістэмы, а разам з ёй і ўсёй амерыканскай сістэмы. Але размах, які прыняла студэнцкая барацьба, сведчыць пра тое, што ў сапраўднасці гэтая лічба большая. У той жа час, было б няправільна перабольшваць сілы студэнтаў: большасць з іх усё яшчэ верыць у «дабрачыннасць» амерыканскага грамадства. Асноўнымі праблемамі, якія сталі прычынай масавых студэнцкіх выступленняў, з'яўляецца в'етнамская вайна, расавыя адносіны ў ЗША і існуючая ўніверсітэцкая сістэма навучання. Дырэктар амерыканскага савета па адукацыі Джозэф Шоубен паведаміў у адным са сваіх дакладаў, што з 71 выпадку студэнцкіх хваляванняў 68 былі непасрэдна выкліканы в'етнамскай вайной і расавай праблемай.

Спачатку апазіцыя студэнтаў вайне ў В'етнаме праяўлялася ў адмаўленні служыць у арміі. Для такога адмаўлення патрэбна вялікая мужнасць. Па-першае, амерыканца, калі ён адмаўляецца ад вайсковай службы, чакае пяцігадовае турэмнае зняволенне або штраф у 10 тысяч долараў. Па-другое, і гэта значна сур'ёзней, вакол імя такога амерыканца буржуазная прэса ўзнімае неверагодную шуміху, абвінавачваючы яго ў здрадніцтве, баязлівасці, пракамуністычных настроях і іншых «смяротных грахах». А хіба ўсе сябры і знаёмыя зразумеюць яго? Хіба не знойдзецца якая-небудзь Марыам або Сюзі, Дорыс або Клэр, якая кіне свайму жаніху ў твар самае жудаснае для маладога чалавека слова — «баязлівец»? На жаль, нават не ўсе маці могуць зразумець адмаўленне свайго сына ісці «абараняць амерыканскі лад жыцця». І тым не менш, толькі ў 1967 годзе за адмаўленне служыць у арміі ў Злучаных Штатах было асуджана 952 чалавекі, а супраць 1 648 маладых людзей, якія спалілі ваенна-ўліковыя карткі, былі ўзбуджаны крымінальныя справы. Апрача таго, некалькі тысяч юнакоў, пазбягаючы прызыву, выехалі ў Канаду, Швецыю і іншыя краіны. Сярод усіх гэтых праціўнікаў амерыканскай агрэсіі ў В'етнаме — вялікая колькасць студэнтаў.

Цяпер пратэст студэнцтва супраць вайны выліваецца ў новыя формы. Больш за два мільёны маладых амерыканцаў бралі ўдзел у публічных дыспутах-семінарах супраць вайны ў В'етнаме. У многіх гарадах пры актыўным удзеле студэнтаў створаны «камітэты па В'етнаму». Студэнты ўдзельнічаюць у рабоце «Нацыянальнага каардынацыйнага камітэта за спыненне вайны ў В'етнаме», без іх не абыходзіцца ні адна антываенная дэманстрацыя. Яны збіраюць подпісы пад петыцыямі з заклікам спыніць вайну, збіраюць грошы для аказання дапамогі в'етнамскаму насельніцтву. У агульнанацыянальнай антываеннай барацьбе амерыканскім студэнтам, безумоўна, належыць важная роля.

Актыўна выступаюць студэнты супраць расавай дыскрымінацыі наогул, і ў сістэме адукацыі ў прыватнасці. Выкарыстоўваючы розныя формы барацьбы, яны дамагаюцца грамадзянскіх правоў для негрыцянскага насельніцтва ЗША, патрабуюць павелічэння колькасці неграў сярод выкладчыкаў, увядзення курсаў негрыцянскай літаратуры і негрыцянскага мастацтва, устанаўлення дадатковых стыпендый для неграў і г. д.

Яшчэ адной значнай рысай студэнцкага руху з'яўляецца пратэст супраць існуючай універсітэцкай сістэмы. Амерыканскі ўніверсітэт ператварыўся ў «культурную фабрыку» серыйнай вытворчасці «карысных» людзей, прызначаных для служэння капіталістычнай сістэме. Прэзідэнт Каліфарнійскага ўніверсітэта Кларк Кер у кнізе «Выкарыстанне ўніверсітэта» пісаў з гэтага выпадку зусім недвухсэнсоўна: «...у грамадстве бізнесу, якім з'яўляецца наша, універсітэт не можа не прыпадобніцца любому іншаму прамысловаму прадпрыемству. Ёсць чыгункі, металургічныя заводы, каўбасныя фабрыкі. Ёсць і фабрыкі ведаў, роля якіх заключаецца ў тым, каб служыць іншым прадпрыемствам і дзяржаве». Ясней не скажаш: на адну дошку пастаўлены навучальныя ўстановы і каўбасныя фабрыкі! Натуральна, што студэнты бунтуюць супраць такіх адносін да чалавечай асобы, супраць выкарыстання чалавека дзеля прыбыткаў. Яны хацелі мець такія ўніверсітэты, якія фарміравалі б чалавека, а не служылі неверагодным фецішам, уладзе, прыбытку, буржуазнай «рэнтабельнасці», капіталістычнай вытворчасці і спажыванню. Аднак студэнты не маюць ўяўлення, як дасягнуць жаданага, у іх няма сапраўднай праграмы, і таму іх выступленні часта анархічныя. Толькі зрэдку яны носяць арганізаваны характар і маюць акрэсленыя патрабаванні. У прыватнасці, гэта можна сказаць пра нядаўнія студэнцкія выступленні ў Калумбійскім і Прынстанскім універсітэтах, калі студэнты запатрабавалі выхаду сваіх універсітэтаў з Інстытута абаронных даследаванняў, які выконвае заданні Пентагона. Але падобных прыкладаў можна прывесці не шмат. У цэлым жа ў сучасны момант студэнцкі рух у Амерыцы з'яўляецца разрозненым і выяўляе агульную незадаволенасць амерыканскага студэнцтва існуючым парадкам, неаформленае жаданне змяніць яго.



**Студэнты амерыканскіх каледжаў мітынгуюць.**
Фота з часопіса «Ньюс юс».



**Так паліцыя размаўляе з неграмі.**
Фота з часопіса «Ньюс юс».

Трэцяя асноўная група моладзі, якая не прымае амерыканскага ладу жыцця, — гэта негры. Значная частка негрыцянскай моладзі ўваходзіць у левае крыло руху амерыканскіх неграў. Гэты рух не заўсёды носіць ярка выражаны класавы характар. Даволі значныя ў ім (асабліва ў левым кры-

ле) нацыяналістычныя тэндэнцыі. На даным этапе нацыяналізм адыгрывае важную ролю і з'яўляецца станоўчым фактарам, паколькі іменна на аснове нацыяналізму негрыцянскі народ аб'яднаўся ў барацьбе супраць рабства.

Сярод «левых» ёсць крайнія нацыяналісты, якія прыйшлі да памылковых вывадаў, што трэба змагацца супраць усіх белых. Негры-экстрэмісты не разумеюць ролі класаў і класавай барацьбы, не разумеюць таго, што менавіта капіталізм парадзіў сістэму прыгнечання, эксплуатацыі і дыскрымінацыі, супраць якой яны выступаюць. Частка «левых» выступае за аддзяленне ад Злучаных Штатаў або, па меншай меры, за аўтаномію неграў, другія дабіваюцца поўнай перадачы ўлады ў ЗША ў рукі неграў, трэція выступаюць за сегрэгацыю, г. зн. раздзельнае існаванне рас у рамках адной дзяржавы. Негрыцянскі народ так доўга цярпеў, яго так доўга і так бязлітасна эксплуатавалі, што гэтыя экстрэмісцкія ідэі знаходзяць водгук і падтрымку сярод пэўнай часткі неграў, асабліва маладых. Замест таго, каб накіраваць сваю нянавісць супраць капіталізму і яго прыхільнікаў, негры нярэдка абрушваюць яе супраць матэрыяльных каштоўнасцей і супраць усіх белых, як расы. Экстрэмісты не хочуць рэфармаваць грамадства, не хочуць змяніць або рэвалюцыянізаваць яго, яны хочуць проста разбурыць яго, нават калі самі пры гэтым загінуць пад абломкамі.

Апрача гэтага крайняга крыла негрыцянскага руху, ёсць прыхільнікі негвалтоўных метадаў барацьбы, прыхільнікі рэфармізму. Яны спадзяюцца на паступовую трансфармацыю амерыканскага грамадства, на мірную інтэграцыю неграў і белых. Аднак негрыцянская моладзь у сваёй масе скептычна ўспрымае падобныя ідэі і са значна большым натхненнем і разуменнем адносіцца да рашучай і бескампраміснай барацьбы.

Не з радоў хіпі, а менавіта з такога руху звяргальнікаў можа чэрпаць рэсурсы сапраўды рэвалюцыйны класавы рух. Менавіта так адносіцца да маладзёжнага і негрыцянскага руху камуністычная партыя ЗША. Генеральны сакратар амерыканскай кампартыі Гэс Хол у гутарцы з карэспандэнтам «Праўды» не так даўно гаварыў: «Гэта людзі, якія бачаць хваробы сістэмы, але не разумеюць яшчэ, што ўсе гэтыя хваробы з'яўляюцца часткай сістэмы, прадуктам гэтай сістэмы. Яны паўстаюць супраць гэтых хвароб, зла, але не супраць самой сістэмы і не з'яўляюцца яшчэ сапраўднымі рэвалюцыянерамі. Я лічу, што неабходна цярпенне, неабходна разуменне пазітыўных бакоў гэтага руху моладзі... І замест таго, каб асуджаць гэтых людзей, я лічу, мы павінны лічыць сваёй задачай заваёву іх на бок марксісцка-ленінскай рэвалюцыйнай пазіцыі».

**Уладзімір ЛІСІЦКІ.**

● Алесь ЯСКЕВІЧ



# НЕЎЛАДКАВАНАЕ ФІЛАЛАГІЧНАЕ СУМЕЖЖА

*Мова невычэрпная ў спалучэнні слоў.*

*А. ПУШКІН.*

Прызнаюся. Спачатку, пад гарачую руку, у адказ на артыкул І. Германовіча і П. Шубы «Асцярожна: мова!», змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» ад 16 ліпеня г. г., мне захацелася напісаць ліст: «Двойчы асцярожна: паэзія!»

Аднак палемічны запал паступова перамагла развважлівасць. У выступленні мовазнаўцаў, няхай сабе і спрэчным, мне здалося куды больш важным іншае. Адчуваецца, што шмат у каго з лінгвістаў скрозь уласцівы ім бясстрасны голы акадэмізм пачынае прабівацца жывая цікавасць да моўнай практыкі сучасных пісьменнікаў, да літаратурнага працэсу. Вось чаму, забыўшы некаторыя прыкрыя недарэчнасці з артыкула, хацелася б павесці гаворку шырэй, звярнуць увагу мовазнаўцаў на многія актуальныя пытанні, якія ставіць сённяшняя моўная практыка і вырашыць якія можна толькі сумеснымі намаганнямі лінгвістаў і літаратуразнаўцаў.

Калі ўжо гаворка зайшла пра ліра-паэму Веры Вярбы «Каліна»,— гэта ёй прысвечаны артыкул І. Германовіча і П. Шубы,— то хоць гэта часопісны яе варыянт, перш за ўсё, хацелася б зазначыць, што твор гэты вельмі своеасаблівы ў падыходзе да жыццёвага матэрыялу, складаны, паліфанічны па задуме. Праз падзеі мінулай вайны, праз шматлікія варыяцыі ўспамінаў пра Веру Харужую, яе дзіўна-фенаменальнае жыццё і—пасля заўсёднай удачлівасці ў справах — недарэчную, трагічную смерць у засценках гестапа, паэтэса імкнецца зразумець сябе сённяшнюю, дзіця шасцідзесятых гадоў са сваім цяжкім роздумам, надзеямі, каханнем. Своеасаблівай шчымліва-даверлівай танальнасцю, раптоўнасцю пераходаў і супастаўленняў паэма будзіць рой вобразаў, асацыяцый. Не скажаш, што Вера Вярба ў палоне матэрыялу, ужо столькі бранага і перабранага многімі другімі аўтарамі—ён цалкам павернуты, пераадолены, сагрэты лірычным «дыханнем» самой паэтэсы.

«Каліна»—твор шматпланавы. Справядлівасць патрабуе сказаць, што шматлікія планы мінулага і сённяшняга ў паэме дзе-нідзе не вылучаны, не адрознены, да таго ж, варыянт твора скарочаны, і з гэтае прычыны цяжка бывае знайсці ключ да паасобных вобразаў. Гэта і насцярожыла мовазнаўцаў. Ім здалося, што ўся справа ў мове. Вядома, сустракаецца часам у паэме і нічым не апраўданы разрыў семантычных сувязей у слове, і няўважлівасць да яго злучальных магчымасцей. Але справа нават не ў гэтым. Больш за ўсё здзіўляе тое, што аўтары артыкула «Асцярожна: мова!» чамусьці перанеслі ўвесь крытычны агонь на слова ў яго пераносным ужыванні.

Метафары **«перачэрпаю памяць да дна»**, **«пацяклі мае вочы туманамі»**, асацыятыўныя параўнанні **«ішлі вы за смерцю, нібы летуценні»**, **«мае вусны асмяглі, як соль»** (абмінуты пераходныя звенні), эпітэты **«гісторыя зацятая»**, **«берагі цягучыя»** і іншыя з прыведзеных лінгвістамі прыкладаў толькі пры фармальным буквалісцкім падыходзе—хоць аўтары артыкула і заклінаюць сябе ад гэтага—маглі здацца недарэчнасцю. Наадварот, калі б Вера Вярба напісала «вычарпаю памяць да дна», як ад яе патрабуюць, гэта была б банальнасць. А паэтэса ж у спалучэнні слоў шукала вобраз!..

У мастацкім вобразе не заўсёды бывае лагічна-фармальная суаднесенасць. У ім дакладнасць іншая—вобразная. Фармальнай лагічнасці не вытрымлівае такі, напрыклад, найдакладнейшы вобраз, як: «Промень сонца змоўк», што знаходзім мы ў суровага Дантэ. Альбо цютчаўскі: «Заціхла навакол маўчанне»...

Можна было б знайсці мноства прыкладаў сапраўднай творчай смеласці ў абыходжанні з паэтычным словам у сучасных нашых паэтаў Пімена Панчанкі і Максіма Танка, Рыгора Барадуліна і Анатоля Вярцінскага. А некаторыя паэтычныя асацыяцыі будуюцца нават на зрушэнні паняццяў, і, менавіта дзякуючы гэтаму прыёму, у радку ўспыхвае вобразная іскра.

Паэтычная практыка ведае і большае. Як вядома, Велямір Хлебнікаў і Уладзімір Маякоўскі з прычыны таго, што традыцыйныя сувязі ў словах вычарпаны, значэнні сцёрліся і не нясуць інфармацыі, сутыкалі словы ў новых сэнсавых пазіцыях, «правакавалі» іх на новыя злучальныя магчымасці і адкрывалі тым самым новыя далягляды слова, абнаўляючы паэзію свайго часу. Наколькі яна была плённай, гэтая няхай сабе і вельмі «эксперыментальная» плынь, можна меркаваць па творчасці іх паслядоўнікаў—такіх выдатных паэтаў, як Барыс Пастэрнак, Марына Цвятаева, Ганна Ахматава, Уладзімір Лугаўской, а ў сённяшняй паэзіі Андрэй Вазнясенскі, Леанід Мартынаў, а таксама ў значнай ступені і Яўген Еўтушэнка. Без увагі да гэтай навізны значэнняў, адкрытых паэтамі ў слове, мы ніколі не зможам па-сапраўднаму ўжыцца ў свет своеасаблівых, заматываваных у розных сэнсах вобразаў Барыса Пастэрнака, а паэзія Андрэя Вазнясенскага ці Леаніда Мартынава здасца суцэльным парушэннем традыцыйных сувязей слова.

«Паэзія няхай будзе паэзіяй,—чую я пярэчанні,—а мова ёсць мова, яе трэба захоўваць у чысціні». Нават з вузка лінгвістычнага боку, такі падыход, далікатна кажучы, абмежаваны і не гаспадарскі.

«У слове бездань прасторы»,—пісаў у свой час Гоголь. Звычайна мы карыстаемся найбольш канкрэтнымі, бытавымі, прывычнымі значэннямі слова. Некалі, у пару бурнага фарміравання рускай літаратурнай мовы, Пушкін вельмі клапаціўся пра тое, каб у слове развіўся ўвесь шырокі дыяпазон яго значэнняў, настойліва паўтараў, што «мове нашай трэба волі даць больш».

Вельмі ўдумлівага стаўлення да лексікі, творчай смеласці ў працы са словам патрабуе ад пісьменнікаў сучасная беларуская літаратурная мова, якая яшчэ ўся ў руху, у развіцці, у якой толькі па-сапраўднаму пачынаюць фарміравацца асобныя нетрадыцыйныя стылёвыя пласты.

Наша мова яшчэ і сёння надзвычай канкрэтная, у ёй на паверхні слова ляжыць самае першае, бытавое значэнне, за якое мы паспяшаліся ўхапіцца як за норму. У сваёй канкрэтнасці яна таму такая пластычная, паэтычная, ядраная.

І вельмі многім нашым словам трэба развіць, «узняць» з унутранай сэнсавай стыхіі і замацаваць стылёвай практыкаю значэнні адцягненыя, умоўныя, пераносныя, якія б забяспечвалі не толькі бытавы, прастамоўны, але і ўмоўны, абстрактны, высокаўрачысты стылі.

Што было б, калі б моватворчая практыка трымалася толькі традыцыйных значэнняў, як гэтага патрабуюць некаторыя мовазнаўцы і пісьменнікі. «Так слова не ўжывалася. У нас гэтак не гавораць, таму так сказаць нельга»,—звычайныя ў такіх выпадках довады. Следуючы такому прынцыпу, мы прыйшлі б, у лепшым выпадку, зноў да фальклору, вярнуліся б да вельмі аднальітнага, моцнага, але аднаго, у пераважнасці, сялянскага, канкрэтнага пласта, у той час, як перад сённяшняй літаратурнай мовай стаіць вельмі адказная задача: распрацаваць, разгарнуць патэнцыяльна ў ёй закладзеную складаную і разгалінаваную сістэму стыляў, здольных выявіць усю разнастайнасць сфер сённяшняга жыцця.

Аналізуючы надзвычай багатую моватворчую практыку беларускіх пісьменнікаў: сапраўды тытанічнае, вялікае «жыццё» ў слове Янкі Купалы, які так магутна ўзнімаў «скібіну» роднага слова, «кніжніка» Максіма Багдановіча, які можа адзін з першых убачыў тыя прасцягі, якіх павінна дасягнуць, развіваючыся, наша мова, затым бунтароў-маладнякоўцаў і асабліва ўзвышаўцаў з іх шырока

і надоўга, накшталт французскіх «Плеяд»,* задуманай праграмай развіцця мовы, урэшце ўдумлівае патрабавальнае стаўленне да мовы большасці нашых сучасных аўтараў,—яшчэ і яшчэ раз пераконваешся, як шмат змянілася ў нашым слове, якім развітым і шматгранным становіцца яно.

Ва ўмовах, што складваюцца для беларускага слова пры пэўным звужэнні сферы карыстання ім, роля моватворчай пісьменніцкай практыкі ў развіцці, фарміраванні і нармалізацыі літаратурнай мовы надзвычай узрастае, становіцца, можна сказаць, асноўнай.

Менавіта ў вобразным кантэксце, «у адзінстве і цеснаце рада» (Ю. Тынянаў), дзе ўзаемадзейнічаюць адразу некалькі вобразных стыхій—вобраз, гукапіс, метрычны закон і інш.—слова лепш падаецца пераасэнсаванню, у ім лягчэй «расхістваецца» яго традыцыйная адназначнасць, узнікаюць новыя злучальныя сувязі і семантычныя гнёзды.

«У вялікага паэта,—вельмі слушна зазначае ў сваёй цудоўнай кнізе «Шлях слова» Л. Баравы,—добра чуцен не толькі новы, адкрыты ім сэнс, але і адціснуты, пераможаны. Сіла паэтычнага пераносу менавіта ў тым, што новае значэнне ў нас на вачах пераадолела ўсе іншыя, яшчэ жывыя і нават надзвычай важныя ў сваім родзе значэнні.

Паэт звычайна нават не можа ўтаіць сваёй радасці з выпадку такой падзеі, гэта сапраўды кожны раз падзея! У «слове, поўным жыцця», ідзе няспынная спрэчка значэнняў».

Вядома, моватворчая практыка—праца надзвычай адказная, бясконца складаная і непадатлівая, «упартая». Яна заўсёды праходзіць на мяжы нормы і адступленняў, пошукаў. І тут толькі талент — адзіны ўнутраны суддзя і дарадца, каб знайсці меру ў гэтым моры сэнсу, у несціханай барацьбе значэнняў, талент, які мае абсалютны слых да злучальных магчымасцей лексікі, які інтуітыўна валодае дзівосным адчуваннем-памяццю ўсяе складанае сістэмы мовы. Безумоўна, большасць аўтарскіх «новых» значэнняў застаецца толькі ў дадзеным кантэксце, аднак з гэтага жывога бруення, паўторнага стылёвага скарыстання нараджаюцца новыя адценні і замацоўваюцца як норма. Нездарма М. Карамзін, суадносячы мову свайго часу, яшчэ нязразвітую ў шмат якіх сваіх пластах, з французскай, рана літаратурна апрацаванай, зазначаў, што «французы пішуць, як гавораць, а рускія пра многія рэчы павінны яшчэ гаварыць так, як напіша чалавек з талентам».

Тэндэнцыя не на пашырэнне, а на звужэнне моўных працэсаў заўважана ў нашых мовазнаўцаў не сёння. Мы добра помнім, якую сур'ёзную шкоду нашай моватворчай практыцы нанесла мёртвая, перанесеная з ранніх** моў, схема, што культывавалася ў пасляваенны час, згодна якой фарміраванне беларускай літаратурнай мовы ўжо закончылася (гл. працы Л. Шакуна і іншых лінгвістаў). Практыка паказвала зусім адваротнае.

Незвычайная напружанасць літаратурна-стылёвага працэсу, што так моцна адчулася ў канцы 50-х, пачатку 60-х гадоў, дыскусіі па праблемах традыцый і наватарства, якія бурна прашумелі ў нашым друку, былі выкліканы ў значнай ступені тым, што ў выніку шматлікіх грамадскіх, тэхнічных і культурных зрухаў, якія адбыліся ў жыцці, асабліва ў другое пасляваеннае дзесяцігоддзе, пры далейшым імклівым пранікненні тэхнічнай цывілізацыі ў кожны самы закінуты куток правінцыі, пры небывалым прагрэсе сродкаў сувязі і інфармацыі ў беларускай літаратурнай мове праблема развіцця некаторых нетрадыцыйных стыляў стала на парадак дня.

У нашай мове, як вядома, у выніку працяглых неспрыяльных умоў развіцця ў мінулым аказаўся развіты пераважна адзін моўны пласт — сялянска-бытавы. А многія кніжныя стылі, у тым ліку публіцыстычны, навуковы, «вытворчы», стыль справаводства і інш., па-сапраўднаму пачалі развівацца даволі запознена. Асабліва ў пасляваенны час у літаратурную мову хлынула плынь новай лексікі — лексікі, як правіла, сырой, калькаванай, мала апрацаванай.

Думкі спецыялістаў раздзяліліся. Многія пісьменнікі па-ранейшаму арыентаваліся толькі на традыцый-

* Гэтая выдатная суполка французскіх пісьменнікаў XVI стагоддзя паставіла сваёй мэтай выпрацаваць формы літаратурнай мовы. Былі выпрацаваны творчыя дэкларацыі, якія яны праводзілі ў сваёй творчасці. Іх інтэнсіўная дзейнасць выклікала бурную дыскусію па пытаннях развіцця і ўдасканалення мовы, якая пракацілася па парыжскіх клубах і салонах, прыцягнула да ўдзелу ў выпрацоўцы літаратурнай мовы шырокія колы французскай грамадскасці. «Плеядам» удалося ў кароткі час закласці трывалы фундамент французскай літаратурнай мовы, што знайшло сваё замацаванне ў выданні першага акадэмічнага слоўніка.

** Маюцца на ўвазе рана сфарміраваныя літаратурныя мовы.

ны, надзвычай экспрэсіўны, добра зляжалы моўны пласт. Гэта быў не самы лепшы выхад.

Зразумела, што захаваць мову нязменнай, «чыстай» было немагчыма. Працэс засваення новай лексікі ішоў самацёкам. І больш за ўсё з газет, бо, бясспрэчна, што праз газеты ў першую чаргу ўваходзяць у штодзённы ўжытак новыя з'явы, новыя тэндэнцыі. І журналісты, неглыбока, нетрывала звязаныя з народнымі моўнымі пластамі, неслі ў мову кальку і штамп. Пачаліся гаворкі пра тое, што мова зрабілася знівеліраванай, газетнай.

Мовазнаўцы, па сутнасці, патуралі гэтаму працэсу. Тут дарэчы будзе сказаць пра «Руска-беларускі слоўнік» 1953 года. Падрыхтаваны паспешліва, на недастаткова багатай лексічнай базе, бо падганяла практыка, ды і, відаць, не абышлося без уплыву тых спрошчаных схем, што навязвала вульгарызатарская тэорыя, слоўнік складаўся такім чынам, што вельмі часта на першым месцы ставілася калька, арыгінальнае ж беларускае слова, як правіла, пасоўвалася назад. Слоўнік далёка не ахопліваў усяго багацця мовы *. Пры адсутнасці іншых слоўнікаў ён на доўгі час стаў падручнай кнігай настаўнікаў, перакладчыкаў, супрацоўнікаў устаноў, газет, часопісаў, радыё, і ўсе яго недахопы, няспеласць лексікаграфічнай думкі адразу ж выплеснуліся ў мову.

А менавіта ж мовазнаўцы ў першую чаргу павінны накіроўваць і ўпарадкоўваць працэс засваення новай лексікі, узбагачэння функцыянальных стыляў, аналізуючы, правяраючы літаральна кожнае слова на яго права быць уведзеным у мову.

Міжволі нагадваецца практыка Французскай нацыянальнай акадэміі, пры якой існуе спецыяльная камісія па ўпарадкаванню новай лексікі і тэрміналогіі. Такую заклапочанасць станам моў, большасць якіх сфарміраваліся даўно, сустрэнеш у кожнай краіне, кожнай рэспубліцы.

Якую ж першаступенную важнасць мае стварэнне ў нас—няхай сабе і запознена—такога дзейснага мовазнаўчага органа, які прыцягнуў бы да гэтай справы пісьменнікаў, крытыкаў, вучоных іншых спецыяльнасцей, настаўнікаў!

Асабліва важна ўпарадкаваць навуковую тэрміналогію. Гэта востра адчуваем мы, навуковыя работнікі! З тэрміналагічнымі цяжкасцямі адразу ж сутыкнуліся складальнікі Беларускай савецкай энцыклапедыі.

Пакуль не будзе ўладкавана галіновая тэрміналогія, беларускай літаратурнай мове не будзе ставаць шмат якіх сучасных і вельмі важных функцыянальных пластоў, г. зн., што сфера ўжывання яе па-ранейшаму будзе заставацца звужанай.

У гэтым напрамку шмат рабілася ў даваенныя гады. Створаная ў 1921 годзе Беларуская тэрміналагічная камісія, а пазней Інстытут беларускай культуры за восем гадоў шырока разгорнутай работы выдалі 24 выпускі галіновых слоўнікаў. Сёння гэтая праца не вядзецца зусім. У кожным разе, не відаць публікацый.

Калі сённяшняя беларуская літаратурная мова, якая перажывае пару інтэнсіўнага дафарміравання, не можа абысціся без новых запазычанняў, дык працэс гэты павінен быць не стыхійным, а падкантрольным. Толькі так можна максімальна зменшыць прыліў запазычанняў і перанесці словаўтваральны працэс, пошукі новай лексікі ў «глыбіні» мовы, на яе арыгінальную, самабытную аснову.

І тут мовазнаўцы першыя павінны былі з усёй пэўнасцю сказаць, што ў нашай мове, па сутнасці, толькі найбольш поўна выяўлена Міншчына. Так склалася, што пачынальнікі нашай літаратуры былі пераважна з цэнтральнай Беларусі, і гэта не магло не адбіцца на фарміраванні мовы.

Яно, вядома, у аснову літаратурнай мовы звычайна і кладзецца нейкі адзін, найбольш развіты і пашыраны, дыялект. Яго фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці, апрацаваныя і ўзбагачаныя, замацоўваюцца як нацыянальная норма.

Але гэтага нельга сказаць у дачыненні да лексікі. Думаецца, што літаратурная мова, і ў прыватнасці беларуская, павінна як найглыбей і шырэй ахапіць лексічнае багацце ўсіх

* У нашых умовах трэба заўсёды мець на ўвазе тую немалаважную акалічнасць, што пераклады з мовы ранняй на літаратурную мову младанацыянальную, і наадварот, як правіла, справа значна больш складаная, чым з аднае класічнае мовы на другую. У нас вельмі часта пры адшуканні найлепшага моўнага эквівалента даводзіцца падбіраць не адно фармальна-адпаведнае слова, а цэлы выраз, ідыёму. І наша сённяшняя практыка адчувае асаблівую патрэбу менавіта ў фразеалагічным слоўніку, а таксама ў слоўніку сінанімічным.

Як мне здаецца, тыя багатыя матэрыялы для слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў, якія сабраў энтузіяст і добры знаўца роднага слова Міхась Клышко, пры адпаведнай навуковай дапрацоўцы і строгім адборы маглі б легчы ў аснову такіх слоўнікаў. У іх вельмі шырока даецца ідыяматыка.

дыялектаў і ўвесці яго ў карыстанне. У нас жа да самага апошняга часу Палессе, Магілёўшчына, Віцебшчына і іншыя гаворкі выяўлены слаба. Вялікія моўныя багацці не распрацаваны і не вычарпаны. У гаворках асобных вёсак, у нашай надзвычай багатай тапаніміцы і гідраніміцы дзівоснымі самацветамі ззяюць моцныя, ядраныя, багатыя словы, яшчэ не падабраныя літаратурнай мовай.

Некалі «Словарь белорусского наречия» І. Насовіча, у якім галоўная частка матэрыялу сабрана на Магілёўшчыне, здзівіў сваім багаццем такіх выдатных рускіх вучоных, як Шахматаў і Сразнеўскі. Апошні шмат у чым садзейнічаў яго выданню. Лексіку магілёўскай дыялектнай мовы багата трансфармавалі таксама «Смоленский областной словарь» У. Дабравольскага і слоўнік, сабраны Максімам Гарэцкім.

Усё сваё жыццё прысвяціў збіранню слоўніка жыхар Магілёўшчыны Язэп Ціхінскі. За гады нястомнай катаржнай працы, якая была пад сілу толькі навуковаму калектыву, страціўшы зрок, аддаючы ўсе свае сродкі справе, Ціхінскі сабраў і падрыхтаваў — і гэта пры поўнай адсутнасці лексікаграфічнай базы! — 16 тамоў беларуска-польска-рускага слоўніка, над выданнем якога ў даваенны час працавалі беларускія мовазнаўцы. Хіба не пачэсны абавязак — завяршыць гэтую працу?!

Другім нястомным збіральнікам народнага слова мовазнаўцам І. Бялькевічам ужо ў даваенны час у выніку трыццацігадовай працы сабраны рукапісны слоўнік (пераважна гаворкі Мсціслаўшчыны і Аршаншчыны), агульным памерам каля 80 друкаваных аркушаў, які атрымаў надзвычай высокую ацэнку навуковых аўтарытэтаў. Гэтыя матэрыялы чакаюць свайго ўдумлівага выдаўца.

І ўсё адно невычэрпнае гэтае мора — нацыянальная мова! Колькі свежага матэрыялу сустракаем мы ў «Дыялектным слоўніку» Г. Юрчанкі (па мсціслаўскіх гаворках), сабраным і выдадзеным у наш час. Надзвычай багатыя матэрыялы сабраў на Слаўгарадчыне старанны і сур'ёзны мовазнаўца І. Яшкін, які не адзін раз абышоў вёскі, вывучаючы адметнасць мясцовай гаворкі. Міжволі задумваешся: наколькі багацейшай і шматфарбнай была б наша літаратурная мова, калі б яна як след засвоіла хоць бы гэтае лексічнае багацце на адной Магілёўшчыне.

А між тым, з боку многіх нашых мовазнаўцаў часам сустракаеш не зусім дбайнае стаўленне да россыпаў дыялектнай мовы. Яны звычайна даюць пуцёўку ў жыццё толькі тым дыялектызмам, якія нясуць «новае сэнсавае адценне». Ну, а калі гэтае дыялектнае слова ўносіць новае не сэнсавае, а «стылёвае» адценне? Як вядома, сярод самых, здавалася, блізкіх сінонімаў няма слоў абсалютна сэнсава ці стылёва ідэнтычных. А нашай мове — і гэта надзвычай добра адчуваюць практыкі — яшчэ не хапае багацця сінанімікі, стылёвай градацыі — ад бытавых, прастамоўных да самых высокаўрачыстых адценняў.

Мова не прытрымліваецца «ардынарнай» эканоміі, ашчаднасць яе ў іншым. Яна ідзе часам вунь на якое збыткаванне, і таму яна такая неабсяжна багатая, шматколерная, рухомая ў выказванні найтанчэйшых адценняў сэнсу.

Зноў жа праблема дыялектызмаў. У адносінах да беларускіх дыялектаў мы, відаць, не можам трымацца прынцыпаў, прыдатных для ранніх моў. І не толькі таму, што ў нашай мове працэсы фарміравання далёка не закончаны.

Як вядома, большасць ранніх, класічнага тыпу фарміравання моў складвалася на аснове кніжнай традыцыі, звычайна далёкай ад народнай. І ўжо ў пару павышэння нацыянальнай самасвядомасці кожная мова «прынікала» да народнай асновы, да дыялектаў, і ў той ступені, наколькі трансфарміравала ў літаратурную мову народнае слова, яна пераформіроўвалася, станавілася нацыянальнай.

У нашай сучаснай літаратурнай мове не адбылося пераемнасці той кніжнай стылёвай традыцыі, што паспела развіць старабеларуская мова, якая на пачатку развівалася па класічнаму ўзору. У аснову сённяшняй літаратурнай мовы лягла вусная народная гаворка. І такім чынам у ёй адбылася больш чым толькі частковая трансфармацыя народнай мовы — яна з'явілася непасрэдным адбіткам вуснай народнай гаворкі і «цалкам», агульнай плынню засвоіла яе багацце. Таму разуменне дыялектаў і іх узаемаадносін з літаратурнай мовай у нас павінна быць крыху іншым. Наша літаратурная мова вельмі блізка стаіць да дыялектнай мовы, у іх ідэнтычныя законы, і сёння, калі яшчэ працэсы фарміравання, выспявання ў літаратурнай мове працягваюцца, стаіць задача паўнейшага вычэрпвання лексічнага багацця дыялектных гаворак.*

* Аднак і пры арыентацыі на максімальнае выяўленне дыялектнай лексікі словы, у якіх цяжка пераадольваецца дыялектная замшэласць і заскарузласць, павінны заставацца за парогам літаратурнай мовы.

Не асабліва звяртаючы ўвагу на розныя, не заўсёды абгрунтаваныя тэорыі, задачу скарыстання дыялектных пластоў добра ўсведамлялі нашы лепшыя пісьменнікі, асабліва калі ў пасляваенныя гады мова на пэўны час была заплычана газетчынай і калькай.

Моцная народная лексічная плынь улілася з прыходам у нашу савецкую літаратуру заходнебеларускіх пісьменнікаў. Там, на «ўсходніх крэсах», у гвалтоўна адарванай заходняй частцы Беларусі, ва ўмовах небывалага нацыянальна-вызваленчага ўздыму вельмі інтэнсіўна фарміраваўся ў пэўнай меры своеасаблівы варыянт літаратурнай мовы, складвалася свая стылістыка, якая блізка трымалася народнага сінтаксісу, фразеалогіі, лексікі. І ў пасляваенныя гады праз творчасць Максіма Танка, Рыгора Шырмы, Янкі Брыля, Піліпа Пестрака, Міхася Васілька, Валянціна Таўлая і іншых дзеячаў нацыянальнай культуры ў нашу мову ўлілася жывая плынь, якая адцясніла газетную кальку і ўзмацніла самабытны каларыт.

Між іншым, тая яркая адметнасць і навізна, якую прынесла новае літаратурнае пакаленне ў другой палове 50-х гадоў, таксама перш за ўсё выявілася ў мове. Маладыя аўтары неяк па новым часе адчулі сапраўдны «смак» да важкага, першароднага, жывога слова і з вялікай ашчаднасцю ды ўвагай пачалі раскопваць яго залежы.

Гэта, перш за ўсё, Уладзімір Караткевіч з яго надзвычай узбагачаным і ёмістым лексіконам, дзе з сённяшнім, па-народнаму сакавітым і пластычным сплялося і суладна спалучылася старое наша слова—з летапісаў, легенд, слоўнікаў старабеларускай мовы.

Быццам упершыню, нанава, тэмпераментна і неяк глыбока, з-пад самага дна, зачэрпвае сваёй паэзіяй гаворкі Віцебшчыны Рыгор Барадулін. Сваю першую сілу паэт адчуў у мове. Талент разгортваўся ў народнай моўнай стыхіі. У мове і своеасаблівы ключ да яго паэзіі. І захапляючыся сапраўдным бляскам народнага слова ў паэтычным радку, мы і не заўважаем часам, што гэта ж зусім новы лексічны пласт пачынае станавіцца набыткам літаратурнай мовы.

Кожны па-свойму пласты родных гаворак уздымаюць Іван Пташнікаў, Вячаслаў Адамчык, Барыс Сачанка, Уладзімір Дамашэвіч і іншыя.

Раптоўна дзіўна невядомым і таямнічым «бокам» павярнулася здавалася б вядомая нам Магілёўшчына. Праз вернутую чытачу творчасць Максіма Гарэцкага, празаіка з «абсалютным» слыхам да роднай мовы, праз паэзію Аркадзя Куляшова, а таксама праз творчасць маладзейшых пісьменнікаў Аляксея Пысіна, Івана Чыгрынава, Міхася Стральцова, Анатоля Кудраўца, Віктара Карамазава ўваходзяць у нашу літаратурную мову новыя і разнастайныя лексічныя і сінтаксічныя моўныя пласты, адметнейшыя фарбы, якіх ёй якраз нестае...

Тое, што ў нашу мову прыйшло многа лексічнага матэрыялу, што ў ёй фарміруюцца і ўзбагачаюцца новыя пласты, адчулася адразу. Нам сёння лягчэй выказвацца ў розных сучасных сферах, мова стала больш гнуткая, рухомая, шматфарбавая. Аднак і цяпер дбайны заклапочаны гаспадар не будзе гаварыць, што ўсё ў нашай літаратурнай мове ўжо дасканалае, што фарміраванне яе закончылася. Чым больш працягла будзе знаходзіцца з'ява ў развіцці, у стане паглыблення і ўдасканалення, чым грунтоўней яна вычарпае свае магчымасці, тым багацейшай, больш шматграннай і завершанай будзе наша літаратурная мова.

На вялікі жаль, не заўважаецца ў большасці нашых мовазнаўцаў кроўнай заклапочанасці станам сённяшняй мовы, няма зацікаўленага клопату-неспакою за тыя цяжкасці, якія яна перажывае. Адсюль, відаць, і ідзе бясстраснасць мовазнаўчых прац, перанясенне на нашу надзвычай адметную мову агульных структур, якія не могуць перадаць жывую сутнасць арыгінальнага нацыянальнага матэрыялу.

Думаецца, што любая, нават самая прагматычная навука абавязкова павінна заглыбляцца ў так званую чыстую тэорыю, інакш яна будзе сляпой у сваіх рэкамендацыях. Толькі з глыбокай тэорыі навука прыходзіць з сур'ёзнымі і сапраўды карыснымі высновамі для практыкі. Аднак ва ўсім гэтым ёсць галоўны, больш значны, крытэрый, які вызначае ўсё. Навуковыя адносіны ў сапраўднага вучонага павінны быць, разам з тым, і маральнымі адносінамі да прадмета даследавання. Менавіта апошняе, а нішто іншае, дае галоўны стымул даследчыку.

Хацелася б памыліцца, аднак, мне ўяўляецца, у некаторых нашых мовазнаўцаў маральныя адносіны да прадмета роднай мовы вельмі аслаблі.

...У беларускім мовазнаўстве ў 20-я і першай палове 30-х гадоў склалася свая надзвычай глыбокая навуковая школа, з аўтарытэтамі якой сур'ёзна лічылася сусветная навука. Працы Я. Карскага, Б. Тарашкевіча, Я. Воўк-Левановіча, П. Бузука, С. Некрашэвіча складаюць падмурак нашага мовазнаўства. Колькі ім удалося зрабіць!

*І якая шырыня* інтарэсаў! Пытанні праславянскай мовы, беларуская дыялекталогія, лінгвагеаграфія, культура мовы—у Бузука, гісторыя беларускай мовы, гістарычная і сучасная фанетыка, мова выданняў Скарыны—у Воўк-Левановіча, лексікаграфія беларускай мовы і складанне слоўнікаў, нармалізацыя правапісу—у Некрашэвіча і іншае. Яны былі пракладальнікамі новых шляхоў у навуцы. Даследаванні Бузука па лінгвістычнай геаграфіі, напрыклад, садзейнічалі ўзнікненню новай галіны ў сусветным мовазнаўстве.

І калі часам задумваешся над тым, адкуль у іх такая плённасць, чаму столькі выпала ім навуковага шчасця—адкрыццяў, міжволі прыходзіш да пераканання, што, відаць, у такіх нашых галінах, як фальклор, мастацтва, мова і іншае без маральнага фактару, без энтузіязму, самаахвярнасці, калі цяжкасці, якія перажывае выбраная для вывучэння з'ява павінны стаць тваімі цяжкасцямі, мала што паспееш зрабіць.

Як жа «гарэў», літаральна жыў практыкаю такі, здавалася, «акадэмічны», абцяжараны вялікімі ведамі вучоны, як прафесар П. Бузук. Вучоны кантраляваў моватворчы працэс, аглядаў усю найскладанейшую моўную «гаспадарку». У падыходзе да мастацкага слова ён быў пазбаўлены лінгвістычнай вузасці. Бузук вельмі шмат пісаў пра культуру мовы «Маладняка», «Узвышша», цікавіўся моўна-стылёвымі асаблівасцямі творчасці Цішкі Гартнага і іншых пісьменнікаў. Ён радаваўся кожнаму новаму голасу ў літаратуры. Прафесар на перапынку між лекцыямі мог падысці да пачынаючага паэта Юркі Лявоннага і, павіншаваўшы з творчай актыўнасцю, тактоўна і як бы між іншым, нагадваючы вядомыя радкі з М. Багдановіча, даць урок патрабавальнасці.

«Памятаеш прафесара Пятра Бузука?—прызнаваўся пазней малады паэт.—Так, сапраўды, трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш, абрабіць яго трэба з цярпеннем... Іменна так, браце. Пішу кожны дзень, але паказваць не спяшаюся. Не трэба спяшацца друкавацца. Як добра было б, калі б я мог забыцца на сваё зборнікі вершаў. Не, не, у іх ёсць шмат дарагога для мяне, але ўсё ж...» (гл. успаміны С. Шушкевіча пра Юрку Лявоннага. Газета «Літаратура і мастацтва» 30/VII 68 г.).

Сёння ў нас шмат заслужаных лінгвістаў, носьбітаў самых высокіх ступеней і званняў, аднак энтузіястаў сваёй справы сярод іх адзінкі... Заўсёды ў такіх выпадках нагадваеш энергічнага Фёдара Янкоўскага і тую вялізную працу, якую ён сёння праводзіць па збіранню народных моўных скарбаў.

Зусім абыдзена нашым мовазнаўствам адна з найважнейшых, без перабольшання будзе сказаць, і амаль недаследаваных праблем нашай мовы—яе сістэма мілагучнасці.

Калі слухаеш некаторых дыктараў радыё, гаворку каго-нікаго з гараджан на беларускай мове, чытаеш граматыкі, складваецца ўражанне, што мова наша пачынае гучаць неяк немілагучна, робіцца нейкая груваcткая, коснаязыкая. І ў такім выглядзе, будзем шчырымі, яна мала прывабная, а гэта звужае сферу карыстання ёю.

Аднак такога ўражання не бывае, калі слухаеш сялян, пісьменнікаў, некаторых настаўнікаў, людзей, якія не страцілі сувязей з народнай мовай. У народнай гаворцы мова сапраўды можа быць і важкай, «выбуховай», дзе гэта трэба, і дзіўна мілагучнай, сцішанай, напеўнай. Як мілагучна гучаць нашы народныя песні! І зноў жа многія сучасныя песні незразумелым чынам страчваюць гэтую вартасць.

А ўся справа, відаць, у тым, што вусная мова выпрацавала складаную сістэму мілагучнасці, надзвычай багаты вакалізм, змякчэнне ў патрэбных пазіцыях зычных, абмінанне неэўфанічнага збегу гукаў, урэшце, адпаведнае багацце сінанімікі. Асабліва моцна гэтыя рысы выяўлены ў паўночна-ўсходнім дыялекце.

На гэтую асаблівасць беларускай мовы ўпершыню сур'ёзна звярнуў увагу Уладзімір Дубоўка ў артыкуле «Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасці нашай мовы» (часопіс «Узвышша», 1927, № 4). Дасціпны даследчык і зацікаўлены паэт-практык падрабязна спыняецца на шматлікіх фанетычных спосабах, якімі кампенсуецца неэўфанічнасць у вуснай мове.

Гэта прыстаўныя галосныя перад словамі з пачатковымі зычнымі «р», «л», «в», калі за імі ідуць іншыя зычныя; пераход «у» ў «ў» (нескладовае) пасля галосных; паралелізм склонавых канчаткаў (ае—ай, яе—яй); шматлікія прыдыханні і іншае. Думаецца, што гэтым не вычэрпваецца сістэма мілагучнасці, што існуе ў нашай мове.

Паказчыкам мілагучнасці мовы Ул. Дубоўка лічыць колькасную роўнасць галосных і зычных у слове. Неэўфанічнасць, піша ён, узнікае ў выніку нагрувашчанага збегу зычных у асобных словах ці на стыку слоў,

частотнасці такіх выпадкаў, як мы б сказалі сёння.

Нам здаецца, праблема мілагучнасці ў нашай мове ўзнікла перш за ўсё ў сувязі з сістэмай зацвярдзелых зычных, гукаў асаблівай «выбуховасці» і іншага.

І тут, відаць, акрамя фанетычных сродкаў мілагучнасці, пра якія гаворыцца ў артыкуле Дубоўкі, маюць значэнне сістэма змякчэння гукаў, якая, на жаль, сёння амаль не перадаецца на пісьме, а таксама беларускі тып будовы сказа, выпрацаваная народнай мовай багатая сінаніміка, урэшце, рухомасць мовы ў функцыянальных стылях.

Трэба шчыра сказаць, што сістэма мілагучнасці, якая тонка распрацавана геніем мовы—народам, з шырокім дыяпазонам ад гучнага і выбуховага да самага мілагучнага і пяшчотнага «рэгістра» для нас застаецца яшчэ таямніцай. Яна інтуітыўна засвойваецца з маленства, але не развіваецца навучаннем і за невялікімі выключэннямі амаль што не зафіксавана нашай фанетыкай.

Арфаграфія беларускай мовы прытрымліваецца пераважна фанетычнага прынцыпу: як вымаўляецца, так і пішацца. Аднак у нечым наша навуковая фанетыка ўсё ж спрошчаная. Мы ведаем, як шмат значыць нават для пасэнсавай дыферэнцыяцыі складаная сістэма вакалізму ў англійскай, французскай і іншых мовах.

І на нашу думку, некаторыя гукавыя тонкасці беларускай мовы, у прыватнасці, звязаныя з наданнем мілагучнасці, якія пакуль што не выходзяць за межы транскрыпцыйных правіл, варта было б калі не ўвесці—з прычыны запозненасці!—у фанетыку, дык, прынамсі, хаця б замацаваць у нарматыўнай стылістыцы беларускай мовы. Між іншым, у сучаснай украінскай літаратурнай мове аналагічныя сродкі адлюстраваны граматыкай.

Няўвагай мовазнаўцаў да жывога моўнага матэрыялу можна растлумачыць таксама недаследаванасць сінтаксічных своеасаблівасцей беларускай мовы. Вучоныя па-сапраўднаму яшчэ не выявілі ўсё багацце сінтаксічных канструкцый народнай мовы. Падганяецца матэрыял пад трафарэтныя тыпы сказаў, у той час як добрая палова іх у нашай глыбіннай нацыянальнай мове ранняга, старажытнага паходжання. Рэшткі пралагічнага стану мыслення цяжка ўкладваюцца ў вядомыя трафарэты. А пра іх у нашых граматыках іншы раз нават няма і ўпамінання. Для беларускага сказа наогул характэрна большая адвольнасць, разнастайнасць, меншая тыпалагічнасць. Сказы, то безасабова-неазначальныя, то з ірацыянальнасцю адносін выказніка да дзейніка, сцверджаннем у формах адмаўлення і іншыя—яны як бы выяўляюць характар, лад думак селяніна, нетаропкага і некатэгарычнага ў меркаваннях, але з важкімі, як рэчы ўсё адно, словамі.

Нагадваюцца прыклады з рамана Івана Мележа «Людзі на балоце»: «Без яе як бы вечар не вечар і ноч не ноч», «Як для мяне, дык усе харошыя», «Што я прыйшла ў вас спытаць», «Дзядзькі, цёткі! Ей-бо, як малыя!», «Куды і дзелася», «Але ўсё ж угаварыў: не быў бы то Ханя», «Мало ж і не ўправіліся, грэц яму, жменя якая».

Такія сказы звычайна вельмі каларытныя, пластычныя, ім уласціва малюнкавасць, багацце пабочнай інфармацыі. Гэтую вартасць беларускага сказа добра разумеў Кузьма Чорны, які пісаў: «Адным словам можна вельмі шмат сказаць, або тым жа самым словам нічога не сказаць. І гэта нават можа быць ад таго, як гэта слова выгаварыць. Напрыклад, можна сказаць: «Ты не ведаеш». І можна сказаць: «Вельмі ты ведаеш». Выказана тое самае, але другі раз мацней, нават з адзнакамі кпін».

Так гавораць майстры слова. Паводле ж нашых граматык, мы выказваемся часам так трафарэтна, не па-беларуску, бываем, як правіла, глухімі да слова ў пабудове сінтаксічных канструкцый.

Мне могуць запярэчыць, што ўсё гэта сустракаецца, магчыма, у некалькі меншай ступені, але ў кожнай мове. Бясспрэчна! Але ў шмат якіх мовах з цудоўнага народнага пласта ў літаратурную мову ўзнялася толькі невялікая частка, у сённяшняй жа беларускай мове гэта яе ядро. І таму законы яе ў чымсьці своеасаблівыя, адметныя. Гэтую адметнасць нашага сказа добра адчулі і пачынаюць вывучаць дыялектолагі. («Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі», Мінск, 1962. «Нарысы па беларускай дыялекталогіі», Мінск, 1964 і інш.).

Думаецца, што сакрэты будовы пластычных, самабытных сказаў можна зразумець і навукова класіфікаваць іх формы, толькі глыбока пранікшыся станам таго першапачатковага ранняга мыслення, якое Леві Бруль у кнізе «Першабытнае мысленне» характарызуе як мысленне партыцыпацыйнае, як успрыманне свету ўсёй істотаю, вобразна, дзейсна, таямніча, прыналежна, бо старажытны чалавек аднachасова адчуваў сябе і самім сабою і тым аб'ектам, які ён успрымаў, да якога меў прыналежнасць.

Мовазнаўцы вельмі шмат пішуць пра вобразнасць мастацкага твора, аб мове пісьменнікаў, адным словам, пра ўсё тое, што ахопліваецца агульнай стылістыкай.

Стылістыка, стыль... Якія толькі значэнні не ўкладваюцца ў гэтае паняцце. Найбольш распрацавана стылістыка лінгвістычная, якая займаецца вывучэннем функцыянальных стыляў мовы, адпаведных той ці іншай сферы чалавечай дзейнасці, характарыстыкай слова з боку яго стылёвай афарбоўкі, стылёвай адзначанасці (стыль нейтральны, і адпаведна скіраванасць іх у бок высокага і нізкага стылёвых рэгістраў слова). Адзін з яе раздзелаў—нарматыўная практычная стылістыка, якая апісвае нормы стылёвага скарыстання слоў, выразаў, сказаў на пэўнай ступені развіцця мовы. У той час як у большасці моў гэтыя галіны сур'ёзна распрацоўваюцца (ёсць французская, руская, польская і інш. стылістыкі), у нашым мовазнаўстве гэты раздзел, за выключэннем некаторай спробы стварэння практычнай стылістыкі, яшчэ зусім не распачынаўся.

У нашай навуцы зусім не апісаны і не даследаваны функцыянальныя стылі сучаснай беларускай мовы, хоць аб іх развіцці, папаўненні вядзецца столькі спрэчак сярод практыкаў. Нашы мовазнаўцы таксама больш-менш пэўна не выказаліся і ў адносінах класіфікацыі лексікі з боку яе стылёвых рэгістраў. Узяць, напрыклад, высокаўрачысты стыль. У якім стане ён у нашай мове? Некаторыя мовазнаўцы (М. Лобан) лічаць, што яго наогул няма ў наяўнасці сёння, пасля таго як мова ў працэсе вуснага бытавання страціла стараславянізмы і іншую падобную «высокую» лексіку.

Але ж патрэбу ў высокаўрачыстым стылі вельмі адчувае сённяшняя практыка, асабліва публіцыстыка, якая ў нас яшчэ няразвітая і невыразная. Як ён павінен узбагачацца, чым папаўняцца, гэты стыль? Адказу на гэтыя і на шмат якія іншыя пытанні чакае ад мовазнаўцаў наша стылёвая практыка. Як цяжка, напрыклад, даецца Васілю Быкаву стыль, які ён часам бывае яшчэ неаднародны і недасканалы ў ваеннай тэме, для якой нестае ні распрацаванай лексікі, ні стылістычных фігур. Тое ж і ў творах пра рабочы клас, пра вучоных і іншых.

Існуе ж і стылістыка літаратуразнаўчая. Абедзве галіны доўгі час трымаліся аўтаномна, імкнуліся размежавацца. Такога погляду, у прыватнасці, паслядоўна трымаўся Шарль Балі, адзін з асноўных пачынальнікаў лінгвістычнай стылістыкі.

Многія савецкія мовазнаўцы— В. Вінаградаў, Ю. Сцяпанаў і шмат якія замежныя спецыялісты ўключаюць у прадмет лінгвістычнай стылістыкі і мастацкую мову. Па нашаму глыбокаму перакананню, лінгвістычная стылістыка не толькі павінна смялей заходзіць ва ўладанні літаратуры, а наогул аб'яднацца з літаратуразнаўчай стылістыкаю, бо паасобку кожная з іх пачынае заходзіць у тупік, не паспеўшы развіцца. Сапраўды, як можа даследаваць стылёвыя законы літаратуразнаўца, калі ён адарваны ад пачатку пачаткаў—слова, калі ён не будзе ведаць усе магчымасці будаўнічага матэрыялу літаратуры.

Не ўдасца па-сапраўднаму і мовазнаўцу ўбачыць у слове ўзаемадзеянне яго плана зместу і плана выказвання, стылёвую адзначанасць лексікі, тым больш нешта сказаць новае пра мову мастацкіх твораў, калі ён абмяжуецца толькі моўнай стылістыкаю, не будзе назіраць жыццё слова ў вобразе, у працэсе пераходу яго ў якасна новую, вобразную субстанцыю, калі ў слове, зрушаным з нейтральнага якара, ідзе «няспынная спрэчка значэнняў»,—карацей кажучы, без ведання таго, што робіцца ў сённяшнім літаратуразнаўстве.

І вось, як нам здаецца, агульны недахоп многіх лінгвістычных прац аб мове мастацкіх твораў у тым, што мастацкая вобразнасць разглядаецца як толькі славесная дадзенасць, у той час, як вобраз уяўляе сабой «падводную» духоўную рэчыўнасць, у мастацкім творы слова перайшло ў іншую, вышэйшую сістэму—вобразную. Лінгвісты ж звычайна, мінуючы гэтую складаную галіну паэтыкі, праводзяць прамую сувязь паміж словам і вобразам, слова для іх непасрэдны ключ да вобраза. І гэтая спрошчанасць характэрна для прац самых высокіх аўтарытэтаў у мовазнаўстве, якія займаюцца пытаннямі паэтыкі, стылю (кніга А. І. Яфімава «Аб мове мастацкіх твораў»).

Вельмі прыемна, што ў маладых беларускіх даследчыкаў узрасла цікавасць да пытанняў мастацкай вобразнасці, стылю. Зусім нядаўна выйшла з друку па-свойму цікавая праца А. Каўруса «З крыніц народнай мовы» (Мінск, 1968) пра станаўленне апавядальнай манеры ў першых творах Якуба Коласа. Гэта адно з тых лінгвістычных даследаванняў па пытаннях стылю, якое вызначаецца сталым навуковым узроўнем, добрым адчуваннем мовы мастацкага твора. На стылістычным аналізе аўтар у многіх месцах вельмі пераканаўча даводзіць, як «жывое слова народа падымалася да літаратурнага», як з дыялектнай гаворкі, з прастамоўя ў мастацкім

палатне коласавых ранніх твораў пачынаюць выпрацоўвацца і дыферэнцыравацца аўтарская, няўласна-простая і простая мовы.

Калі лінгвістычны аналіз у кнізе выкананы сур'ёзна, то пры спробах разгледзець вобразную структуру твора ў такіх асноўных раздзелах, як «Моўна-стылістычны аналіз апавядання «Васіль Чурыла», пры разглядзе апавядання «Малады дубок» і іншых, верх бярэ тая самая спрошчанасць, што ўласціва лінгвістычным стылёвым працам. Спробы праз няхай сабе і добра праанапізаваную аўтарскую, няўласна-простую і простую мову, праз аўтарскае карыстанне канцылярызмамі, перыфразамі, развітымі прыдаткамі, таўталогіямі, злучнікавай сувяззю і г. д. раскрыць структуру вобраза, выявіць істотныя своеасаблівасці творчай манеры ўспрымаюцца як наіўныя. Даследчык і сам спахопліваецца і пачынае разумець, што ў яго аналізе вобраза штосьці асноўнае, нейкае самае істотнае звяно паміж словам і вобразам прапушчана, не ўлоўлена.

Працы па мовазнаўчаму аналізу мастацкага тэксту надзвычай былі пашыраны ў 20-я гады, вельмі шмат іх і сёння. Асабліва вядомыя даследаванні Л. Шчэрбы «Вопыт лінгвістычнага тлумачэння вершаў». Аднак, калі ў Шчэрбы і іншых вопытных лінгвістаў падобныя даследаванні грунтуюцца на сур'ёзнай літаратуразнаўчай тэорыі і, у прыватнасці, на працах параўнальна-гістарычнай школы, даследаваннях А. Белага, А. Горнфельда і ОПОЯЗа, то сёння лінгвістычны аналіз мастацкага тэксту ўсё больш і больш выраджаецца ў нешта абмежаванае і надта ўжо спрошчанае.

Не вузкалінгвістычныя назіранні, а паўнакроўны стылёвы аналіз мастацкага твора, які грунтуецца на дасягненнях мовазнаўства і паэтыкі і які ахоплівае ва ўсёй складанасці гэтую напаўтаямнічую яшчэ паласу ператварэнняў слова ў вобраз, хацелася б, каб заняў месца ў працах па стылістыцы. Бо менавіта ў гэтым напрамку даследчыкаў чакаюць найбольш цікавыя і нечаканыя адкрыцці.

Асабліва распаўсюджаны ў сённяшнім мовазнаўстве «назіранні над лексікай мастацкіх твораў». Шматлікія курсавыя, дыпломныя работы, дысертацыі... Мова высокамастацкіх твораў, лепшы ўзор літаратурнай мовы, дзе яе можна назіраць менавіта ў жывым стане, у працэсе ўтварэння, шліфоўкі,—сапраўды ў нашых умовах становіцца адным з важных аб'ектаў назірання і вывучэння. На творах сучасных пісьменнікаў удумлівы і дапытлівы даследчык заўважыць рух мовы, перамяшчэнне лексікі, працэс засваення і распрацоўкі дыялектаў, новыя тыпы сказаў, пачатак новых моўных тэндэнцый і г. д.

З другога боку, у мовазнаўстве, як вядома, больш вывучаны план выяўлення ў слове (яго знешняя форма, гукавы комплекс), бо фармальныя моманты ў з'яве лепш паддаюцца фіксацыі і аналізу, і амаль зусім не даследаваны план зместу слова, яго ўнутраная сэнсавая прастора. Назіраць апошняе ў слове нейтральным вельмі цяжка. Затое мовазнаўцам надзвычай шмат у гэтым сэнсе мог бы даць аналіз мастацкага твора, дзе слова зрушваецца з яго нейтральнага стану, дзе ў ім адбіты ранейшыя значэнні і нараджаюцца новыя, ідзе пошук іншых сувязей і злучальных магчымасцей, дзе раптоўна ў вобразным разрадзе ўспыхвае, як у спалоху бліскавіцы, асвятляецца ўся ўнутраная сэнсавая далячынь слова.

Аднак у мовазнаўчых працах, прысвечаных вывучэнню мовы мастацкіх твораў, заглыбленне ва ўнутранае, сэнсавае ядро слова рэдка калі сустрэнеш. Пабудаваны яны ўсе, як адна, вельмі стэрэатыпна: спачатку закранаецца збольшага слоўнікавы склад мастацкага твора, пералічваюцца архаізмы ці неалагізмы, канцылярызмы, калі яны ёсць, народныя слоўцы, шмат гаворыцца аб тропах. Пры гэтым, роля ўсіх гэтых сродкаў у мастацкім тэксце занадта перабольшваецца. Вобразны лад твора, па сутнасці, зводзіцца толькі да тропаў, у той час як на самай справе галоўную ролю адыгрывае простае слова ў сваім дзіўным пераходзе ў вобразную сістэму. Потым робіцца некалькі неабавязковых заўваг па стылю пісьменніка, закранаецца стылёвае скарыстанне асобных слоў і ўсе гэтыя «высновы» даволі прасталінейна звязваюцца з ідэйнай задумай твора.

Ва ўсім так званым лінгвістычным аналізе мастацкага твора не знойдзеш сістэмы. Часам няма там і ўнутранай думкі, няма змястоўнай скразной кампазіцыі. Калі для ўласна мовазнаўчых прац характэрны сёння значна высокі ўзровень патрабаванняў, то «адыходніцкія» працы ў сумежную філалагічную галіну вызначаюцца поўнай адсутнасцю патрабавальнасці: што сказаў, тое і добра.

У гаворцы пра наша неўладкаванае філалагічнае сумежжа, няхай прабачаць спецыялісты, мы закраналі і некаторыя вострыя спецыфічныя, спрэчныя праблемы нашага літаратуразнаўства, бо вельмі ўжо турбуе жывая моўная практыка. Я разумею, што ў нашай мовазнаўчай навуцы свая традыцыя, свае суадносіны сіл у розных яе галінах, свае спецыфічныя задачы. Залішне самаўпэўнена з майго боку было б вызначаць агульную ацэнку той працы, што пра-

водзіцца мовазнаўцамі рэспублікі. Выданне «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», даследаванне гісторыкаў мовы, збіральная і апрацоўчая дзейнасць нашых дыялектолагаў—адно ўжо гэта сведчыць пра многае. Аднак тыя заўвагі, якія тут зроблены—не заўсёды, магчыма, абгрунтаваныя, бо абмежаваны рамкі артыкула—усё ж маюць месца ў працы беларускіх лінгвістаў, калі разглядаць яе ўвогуле.

Нявырашанасць многіх праблем развіцця мовы, яе культуры, правапісу, вымаўлення, нармалізацыі, пытанняў стылістыкі, урэшце гэтая прыкрая адарванасць нашага мовазнаўства ад жывой практыкі слова ў значнай ступені тлумачацца адсутнасцю друкаванага органа, які б звязаў навуку з жыццём і на старонках якога можна было б правесці шырокае абмеркаванне сённяшніх моўных працэсаў.

Як востра адчуваецца адсутнасць тэарэтычнага мовазнаўчага часопіса ў рэспубліцы! І хацелася б яшчэ раз падтрымаць прапанову вялікай групы вядомых нашых лінгвістаў і пісьменнікаў аб стварэнні часопіса па беларускаму мовазнаўству (газета «Звязда» за 12/VII-68 г.). Як бы выхад яго садзейнічаў актывізацыі лінгвістаў Беларусі, павышэнню ўзроўню навуковых даследаванняў.

●●●






**ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА. Запалянкі. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1967.**

# СТАНАЎЛЕННЕ ГОЛАСУ

**Паэзія Дануты Бічэль-Загнетавай з самага пачатку яе выступлення ў друку выклікае пільную зацікаўленасць чытачоў. Ужо ў першай кніжцы «Дзявочае сэрца» (1961) нягучны, шчыры голас паэтэсы падкупляў самастойнасцю выказвання, даверлівасцю інтанацый. Верш «Роднае слова», у прыватнасці, трапіў у трохтомную «Анталогію беларускай паэзіі», завучваўся на памяць. Аднак, зразумела, у кнізе былі і творы перайmaльніцкія, вучнёўскія. Амаль усе яны — і лепшыя, і горшыя — вытрыманы ў традыцыйным літаратурным стылі. Гэта адчуваецца ў вобразнасці (пераважала вобразнасць канкрэтная, пачуццёвая), лексіцы (арыентацыя на літаратурную норму), архітэктоніцы (схільнасць да «выпрабаванага» чатырохрадкоўя), рытме (асаблівая пільнасць у захаванні дакладных памераў). Другая кніжка паэтэсы «Нёман ідзе» (1964) пазначана выразнымі пошукамі свайго адметнага творчага «я». Менавіта тут замацаваліся і развіліся далей тыя якасці паэтычнага слова Д. Бічэль-Загнетавай, якія прадвызначылі з'яўленне яе трэцяй, найбольш, думаецца, сталай кнігі — «Запалянкі».**

**З самага пачатку Д. Бічэль-Загнетава акрэслілася як паэтэса нацыянальна-патрыятычнай тэмы. Гэтая тэма захоплівае ў свой абсяг шырокае кола праблем, набывае глыбокі грамадзянскі змест. Бадай у кожнага беларускага паэта можна знайсці вершы-прызнанні ў любові да бацькаўшчыны, да роднай мовы, творы пра выдатных землякоў, пра гераічнае мінулае роднага народа, пра шчаслівы сённяшні дзень краіны і пра яе светлую будучыню. Беларусь, якая, дзякуючы Кастрычніку, заняла «свой пачэсны пасад між народамі», яшчэ доўга будзе мець патрэбу ў эстэтычным асэнсаванні гэтага вялікай гістарычнай важнасці факта. У Дануты Бічэль-Загнетавай любоў да Радзімы напачатку была хутчэй падсвядомай, інстынктыўнай. У вершы «Радзіма», якім адкрывалася першая кніга паэтэсы, ёсць характэрныя ў гэтым сэнсе радкі: «Па імені яшчэ не называла (Радзіму — В. Р.), бо я не зна-**

ла, што такое ты». У кнізе «Нёман ідзе» паэтэса ўжо не проста ўдзячна Айчыне — яна ведае цану гэтай удзячнасці: «На свет я выйшла з нематы, бо ёсць на гэтым свеце ты». Адчуванне пераемнасці пакаленняў, думка аб тым, што кожнае пакаленне — толькі своеасаблівы мост з мінулага ў будучыню, ляжыць у аснове задушэўнай «Калыханкі» («Гэтую песеньку, што спяваю я, мне калісьці пела бабка твая, навучыла бабку маці яе... Ты яе таксама запяеш...») Разам жа з вершам пра «калыску вякоў неспакойных» — Каложу да Д. Бічэль-Загнетавай прыйшло разуменне бяссмерця Радзімы:

Каложа...
О, колькі прайшло
Праз цябе раздарожжаў...
Крышылі, палілі,
Дратамі скручвалі,
А ты, як зямля, была
неўміручая...

Гэтая думка знаходзіць далейшае лагічнае развіццё ў кнізе «Запалянкі». Тут паэтэса пачынае надзвычай востра адчуваць сваю адказнасць за лёс бацькаўшчыны, за яе добры і доўгі век. І таму яе «сэрцу балюча, калі раз'язджаюцца вёскі» («Буслянка»), таму яна на справы і дзеі сённяшняга дня глядзіць вачамі тых, што загінулі, бaронячы Радзіму («Людзі без смерці»).

Прыняўшы ад продкаў эстафету жыцця, Д. Бічэль-Загнетава клапоціцца пра тых, каму гэтую эстафету трэба будзе перадаваць. Як маці, яе асабліва хвалюе пытанне вайны і міру, тое, што «на паўвостраве далёкім смяртэльны град спадае на далонькі і косіць, косіць, нібы град калоссе, людскія лёсы». Побач з гэтым, яе палохае нават жарт «дзядзькі барадатага», звернуты да сына: «Таўсцей! Патрэбны дужыя салдаты». І яна адчайна-заклапочана выгуквае: «О, сын! Яшчэ грудны, а ўжо не мой».

У кнізе «Запалянкі» даволі выразна акрэсліваецца сённяшні дзень нашай сацыялістычнай бацькаўшчыны. Аднак сучаснае паўстае тут не столькі з расказу пра самыя «свежыя» і важныя падзеі, колькі з усяго таго, што складае самую сутнасць сучаснасці ў літаратуры: з характару стаўлення паэтэсы да тых ці іншых з'яў рэчаіснасці, з сённяшніх прынцыповых ацэнак іх. Сённяшні дзень Радзімы—і ў знешне малапрыкметным, апасродкаваным выяўленні лірычнага стану: у светлай настраёвасці, у радасна-гуллівай інтанацыі многіх вершаў зборніка («...Рвала вішні недаспелыя», «...У вялізным, без столі, клубе», «...Новыя сані» і інш.).

У паэме «Буслянка» Д. Бічэль-Загнетава не толькі з рэалістычнай праўдзівасцю паказвае цяжкае пасляваеннае жыццё («Малады калгас — невялікі запас, слабаваты з яго памагаты. То град паб'е, то старшынька прап'е... Касцы рамяні падціскалі, рукавы апускалі»), але і непрыхавана радуецца тым добрым зменам, якіх сёння прычакала наша вёска. Вяртаюцца на ранейшыя селішчы буслы, прыязджае з далёкага «выраю» дахаты і адна з гераінь паэмы цётка Яніна. А Мікола, які некалі сам «рамень падціскаў», «цяпер кладаўшчык у брыгадзе пры салідным акладзе. Толькі мае адну згрызоту — таўсцее...» І ўжо не жартоўна, а зусім сур'ёзна, нават велічнаўрачыста гучыць фінал паэмы—паэтызацыя сялянскай працы — рассцілання лёну:

Праз даўгі гладзюткі палетак
На белу расу
Высцілае сабе кабета
Узлётную паласу.

Сказана мала, скупа, але як сімвалічна, ёміста і эмацыянальна.

Сучасным пафасам — палымяным заклікам змагацца за мір, супраць новай вайны — прасякнута і паэма «Жыта». Галоўны вобраз яе — Маці. Яна праводзіла ў партызаны старэйшага сына, потым — мужа. Сына забілі немцы, мужа на яе вачах — паліцаі. Сярэдні сын пасля вайны стаў ахвярай бандытаў — тых самых паліцаяў, што хаваліся па лясах ад правасуддзя. Неўзабаве памёр і самы малодшы сын Міхась. Маці, перажыўшы мужа і ўсіх сваіх дзяцей, паміраe апошняй— «чужыя людзі ёй закрылі вочы».

«Матэрыял» твора, здаецца, даваў усе падставы для даволі мінорных высноў. Тым не менш, паэма, у якой выразна гучаць трагедыйныя ноты, не носіць адбітку безвыходнасці. У апошнім раздзеле паэтэса цесна пераплятае свой асабісты лёс з чужым лёсам — па праву маці, па абавязку сумлення. У жыцці яе сына — працяг жыцця тых сыноў, што загінулі на вайне. Яна гэта разумее і гэтаму радуецца. І таму не звычайная сентэнцыя, а выпакутаванае: «Няхай мой сын перажыве мяне»,— злятае з вуснаў маці-паэтэсы, становячыся не толькі заключным акордам паэмы «Жыта», але і своеасаблівым ідэйным лейтматывам усёй кнігі «Запалянкі».

Бацькаўшчына — гэта не толькі родная зямля, але і родная культура, мова. Па праву іх зберагальніцы Д. Бічэль-Загнетава звяртаецца да сваіх маладзейшых калег па пяру — ці то са словам выбачэння, як у вершы, прысвечаным В. Іпатавай («Птушаня»), ці са словам-парадай, адрасуючыся да Я. Янішчыц («...Як гэта добра»). Але скрозь — тая самая турбота за Радзіму, за людзей, якія могуць шмат зрабіць дзеля яе росквіту. У сваю чаргу, сама паэтэса не баіцца ўзяць на свае плечы, можа, найбольшы цяжар. «Мушу дайграць тваю песню, Цётухна»,—

